ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 8
Жнівень 1936 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару 20000,
даб. 168.



## Вышэй рэволюцыйную пільнасць на ўсіх участках работы

Пераможнае будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне даводзіць да шаленства міжнародную контррэволюцыю, яе перадавы атрад—фашызм і яго саратнікаў з трацкісцка-зіноўеўскай банды, якая скацілася на шлях агалцелага тэрору супроць правадыроў і кіраўнікоў большэвіцкай партыі і совецкай улады. Бяспрыкладнае па ганебнасці двурушніцтва, як сістэма адносін да партыі, да пролетарыята, да краіны соцыялізма; белагвардзейскі тэрор, тэрарыстычныя, шпіёнскія і дыверсанцкія справы—вось панарама палітычнага бандытызма, арганізаванага па прамых дырэктывах Троцкага, Зіноўева, Каменева. Ад апазіцыі ўнутры партыі да самай агалцелай белагвардзейшчыны—вось пройдзены імі шлях.

Стары пёс контррэволюцыі, закляты вораг пролетарыята і комуністычнай партыі—тэрарыст Троцкі з першых дзён стварэння партыі большэвікоў стаў на шлях барацьбы супроць праграмы і тактыкі партыі Леніна—Сталіна, якая з'яўлялася і з'яўляецца адзінай партыяй пролетарыята, арганізуючай сілай у барацьбе за вызваленне з-пад гнёту капіталізма, арганізатарам і кіраўніком перамогі соцыялістычнай рэволюцыі і пабудовы новага бяскласавага соцыялістычнага грамадства на адной шостай частцы зямнага шара.

На II з'ездзе партыі, калі паміж Леніным і яго паслядоўнікамі, з аднаго боку, контррэволюцыйным меншавізмам на чале з Мартавым і інш.—з другога, адбывалася вострая барацьба па пытанню аб стварэнні сапраўды рэволюцыйнай партыі пролетарыята, партыі новага тыпу, контррэволюцыянер і блюдаліз капіталістаў Троцкі выступаў як яры абаронца інтарэсаў буржуазіі, як яры староннік контррэволюцыйнага меншавізма. Увесь прадокцябрскі перыяд—ад II з'езда і да Окцябрскай рэволюцыі—Троцкі змагаўся супроць ленінскай партыі і яе кіраўнікоў, супроць пролетарскай рэволюцыі, як яўны контррэволюцыянер-меншавік, часам прыкрываючы свой гнусны твар «левымі» фразамі і фальшывай дэмагогіяй. За гнуснае хамелеонства і палітычнае двудушша Ленін яшчэ тады называў яго «Іудушкай», а за палітычныя вольты і кіданне з боку ў бок—«тушынскім пералётам».

У дні вялікага Окцябра, калі пролетарыят і працоўныя масы былой царскай Расіі ішлі пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным на апошні штурм цвярдынь капіталізма, палітычны авантурыст Троцкі нацягнуў на сябе маску двурушніка: на

словах далучаўся да палітыкі партыі і пролетарскай рэволюцыі, а на справе заставўся на сваіх старых ідэалагічных пазіцыях. Агалцелыя контррэволюцыянеры і бандыты, паплечнікі «Іудушкі»-Троцкага—Зіноўеў і Каменеў—у дні падрыхтоўкі ўзброенага паўстання, у дні, калі ўся партыя з выключным напружаннем арганізоўвала пролетарыят і працоўныя масы на зваржэнне ладу эксплаататараў,—выдалі праз буржуазны друк контррэволюцыйнаму Часоваму ўраду рашэнне партыі аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстання. У рашучы момант барацьбы партыі за захоп улады ў рукі пролетарыята яны хацелі нанесці здрадніцкі ўдар, каб выратаваць расійскі капіталізм ад пролетарскай рэволюцыі.

Зіноўеў, Каменеў і іх прыхвасні стараліся прыкрыць сваю контррэволюцыйную дзейнасць «тэорыяй» аб немагчымасці перамогі пролетарскай рэволюцыі ў Расіі без дапамогі пролетарыята перадавых капіталістычных краін Захада. Прыкрываючыся «левымі» фразамі, яны сцвярджалі, што рускі пролетарыят і яго партыя не здолеюць утрымаць уладу ў сваіх руках, а таму і не трэба брацца за зброю. А Троцкі, які на словах далучаўся да неабходнасці пачаць рэволюцыю, тут-жа сцвярджаў: «безнадзейна думаць... што рэволюцыйная Расія магла-б устаяць перад тварам кансерватыўнай Еўропы».

Таварышы Ленін і Сталін выкрылі контррэволюцыйную сутнасць «тэорыі» гэтых штрэйкбрэхераў і здраднікаў. Партыя большэвікоў на чале са сваімі правадырамі Леніным і Сталіным павялі пролетарыят і працоўныя масы ў бой і забяспечылі перамогу Вялікай пролетарскай социялістычнай рэволюцыі.

Калі пролетарыят пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, на чале з Леніным і Сталіным, ажыццявіў сваю гістарычную задачу—зваржэнне ўлады эксплаататараў, то найміты капіталізма прыкінуліся ярымі староннікамі пролетарскай рэволюцыі, каб толькі застацца ў радах партыі і ў зручны момант выступіць супроць яе генеральнай лініі, супроць дыктатуры пролетарыята.

У момант пераходу на рэйкі мірнага будаўніцтва, контррэволюцыянер Троцкі зноў выступіў супроць генеральнай лініі партыі па карэннаму рашаючаму пытанню рэволюцыі—аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Ён сцвярджаў, што пабудова соцыялізма ў СССР сіламі рабочага класа і сялянства нашай краіны немагчыма, калі ў бліжэйшы час не падаспее на дапамогу сусветная пролетарская рэволюцыя. У гэтым адмаўленні заключалася буржуазная, ліквідатарская, контррэволюцыйная сутнасць трацкізма.

Таварыш Сталін выкрыў і разбіў ушчэнт контррэволюцыйную сутнасць «тэорыі» Троцкага. Аднак ворагі партыі не спынілі барацьбы.

У перыяд пераходу да грандыёзнага гаспадарчага будаўніцтва ствараліся значныя труднасці, якія трэба было перамагчы. Гэтыя труднасці спрабавалі выкарыстаць ворагі соцыялізма—Зіноўеў, Каменеў і іх саратнікі, каб пачаць наскокі на партыю. Хваробу і смерць В. І. Леніна яны лічылі найбольш спрыяючым момантам для выступлення супроць партыі і яе кіраўніцтва.

На XIV партыйным з'ездзе супроць ленінска-сталінскага ЦК нашай партыі выступіла так званая новая апазіцыя на чале з Зіноўевым і Каменевым. Яна выступіла супроць лініі партыі па пытанню аб індустрыялізацыі краіны, яна стала на трацкісцкую платформу, заяўляючы аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. З'езд партыі адвергнуў капітулянцка-рэнегацкую платформу новай апазіцыі.

бо яна азначала здрадніцтва рабочаму класу, здачу пазіцый Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі, капітуляцыю перад буржуазіяй.

Пасля разгрому апазіцыі Зіноўева і Каменева на XIV партыйным з'ездзе яна не спыняе барацьбы з партыяй. Зіноўеў і Каменеў увашлі ў блок з меншавіком Троцкім і з меншавіцкай «рабочай апазіцыяй» Шляпнікава і Мядзведзева для барацьбы супроць большэвіцкай партыі і яе генеральнай лініі, супроць правадыра партыі—таварыша Сталіна.

Паўнейшая беспрынцыпнасць была асноўным жыццёвым прынцыпам трацкісцка-зіноўеўскай зграі. Паклёп, хлусня, двурушніцтва, прамое падсобніцтва контррэволюцыі з кожным этапам далейшай барацьбы супроць партыі і яе кіраўніцтва стала неад'емнай якасцю трацкісцка-зіноўеўскай банды.

Троцкі, Зіноўеў, Каменеў, стварыўшы трацкісцка-зіноўеўскі блок, вялі барацьбу супроць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, супроць ленінізма, супроць саюза рабочага класа з сялянствам, спрабавалі разрушыць большэвіцкую партыю.

Партыя, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна разграміла трацкісцка-зіноўеўскую апазіцыю і, адкінуўшы прэч здраднікаў, павяла рабочы клас і ўсіх працоўных Совецкага Саюза па шляху, указанаму Леніным. Таварыш Сталін адстаяў і ператварыў у рэчаіснасць вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

Наша партыя, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, атрымлівае перамогу за перамогай. Соцыялізм у нашай краіне стаў рэальнай рэчаіснасцю. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай. З кожным днём няўхільна расце і павышаецца ўзровень матар'яльнага добрабыту ўсяго працоўнага насельніцтва Совецкага Саюза. Дасягнут небывалы ў гісторыі чалавецтва росквіт культуры. Што маглі проціпаставіць партыі трацкісцка-зіноўеўскія авантурысты? З чым яны маглі з'явіцца да мас? У іх засталася мізэрная надзея на растаўрацыю капіталізма з дапамогай інтэрвенцыі. У бяссільнай злобе яны каціліся ў бяздонне здрады і прадажніцтва пакуль у цесным саюзе з фашысцкай ахранкай не сталі на шлях тэрору для звяржэння дыктатуры пролетарыята і рэстаўрацыі капіталізма ў Расіі. Ізаляваная ад народу, гэта кучка вырадкаў падняла 1 снежня 34 г. сваю злачынную руку на правадыра ленінградскіх большэвікоў—незабвеннага Сергея Міронавіча Кірава.

Цяпер мы ведаем, што Сергей Міронавіч Кіраў быў забіты па рашэнню аб'яднанага цэнтра трацкісцка-зіноўеўскага блоку, што адначасова з гэтым азвярэлая банда арганізавала тэрарыстычныя групы для забойства таварыша Сталіна і іншых кіраўнікоў партыі і ўрада.

Трацкісты і зіноўеўцы, пачаўшы са скалачвання апазіцыйных груповак, з падпольных і фракцыйных выступленняў супроць партыі, завяршылі свой шлях здрадніцтва ў лагеры агалцелай контррэволюцыі, кінуліся ў абдымкі фашызма і сталі вернымі агентамі Гестапо.

Як верныя агенты, найміты фашысцкай ахранкі, Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і К° арганізоўвалі ваеннае паражэнне бацькаўшчыны соцыялізма. Вуснамі Зіноўева яны заяўлялі, што для рэстаўрацыі капіталізма трэба звергнуць совецкі ўрад «хаця-б цаною страты кавалка на Далёкім Усходзе». Главар-жа банды Троцкі патрабаваў ад сваіх прыспешнікаў арганізацыі ваенных змоў і паўстанняў, калі капіталістычныя арміі ўварвуцца на совецкую тэрыторыю.

У шалёнай ярасці трацкісцка-зіноўеўскія прахвосты недагледзелі таго, што краіна соцыялізма здольна разбіць ушчэнт любых інтэрвентаў, якія толькі адважацца напасці на яе.

Неабвяржыма ўстаноўлена, што Троцкі першы адкрыта кінуў сваім саратнікам тэрарыстычны лозунг—забіваць праваднроў большэвіцкай партыі і совецкай улады. Гэта было заклікам да тэрарыстычных дзеянняў супроць кіраўнікоў партыі і ўрада. Яшчэ ў 1931 г. Троцкі праз кіраўніка трацкісцкай падпольнай арганізацыі І. Н. Смірнова перадаў дырэктыву прыступіць да тэрору. Ён паўтарае гэта Смірнову і ў 1932 годзе праз Г. Гавена. Аб гэтым ён вядзе гутарку са старым трацкісцкім падпольным работнікам Гольцманам і піша Дрэйцэру. На падставе гэтай дырэктывы трацкісцка-зіноўеўскі блок прыступае да тэрарыстычнай дзейнасці і злaдзейскі забівае лепшага сына нашай радзімы—Сергея Міронавіча Кірава.

За мяжою Троцкі, каб прыкрыць свой фашысцка-белагвардзейскі твар, прымяняе метад двурушніцтва. Ён піша ў газетах, што марксізм не дапускае індывідуальнага тэрору, а ў тайных дырэктывах падпольнай контррэволюцыйнай арганізацыі «марксізм» Троцкага благаслаўляе індывідуальны тэрор супроць кіраўнікоў ВКП(б).

Совецкі народ, воляй якога знішчана зграя трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў, зробіць з іх працэсу неабходныя вывады. Ён памятае, што яшчэ не ўсе бандыты вылаўлены, не ўсе іхнія гнёзды ўскрыты, што жыве яшчэ іх главар Троцкі, які ў саюзе з фашысцкай ахранкай будзе імкнуцца перакінуць у Совецкі Саюз сваіх новых агентаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, шпіёнаў, правакатараў для падрыву нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Узняць рэволюцыйную пільнасць, бязлітасна выкрываць усе рэшткі, прытаіўшыхся ворагаў пролетарыята і совецкай улады, выяўляць усіх трацкісцка-зіноўеўскіх паследышаў—абавязак кожнага комуніста, кожнага чэснага грамадзяніна краіны Советаў. Уся наша работа на любым участку соцыялістычнага будаўніцтва павінна быць прасякнута большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасцю, каб пазбавіць ворагаў усякай магчымасці знайсці сабе прытулак на тэрыторыі нашай соцыялістычнай радзімы. З асаблівай сілай гэта адносіцца да КП(б)Б, якая працуе на мяжы з капіталістычным Захадам, адкуль нярэдка пранікалі на тэрыторыю Совецкага Саюза розныя контррэволюцыйныя элементы.

* * *

Пыгранічнае становішча БССР, наяўнасць у ёй рэштак розных разгромленых контррэволюцыйных, дробнабуржуазных і нацыяналістычных партый, якія ў свой час звілі сабе гняздо на тэрыторыі БССР (эсэры, бундаўцы, меншавікі, нацдэмы), і прытаіўшыхся контррэволюцыйных трацкісцкіх паследышаў абавязвае КП(б)Б праявіць выключную пільнасць да ўсякіх прошукаў ворага.

Разбітыя ў адкрытым баі ворагі сталі на шлях ашуканства. Каб захаваць свае кадры і прадаўжаць падрыўную контррэволюцыйную работу знутры, яны стараюцца пранікнуць у совецкі апарат і ў рады нашай партыі. Такою была тактыка контррэволюцыйных эсэраў, выступаўшых пад нацыяналістычным сцягам. Прыкладна такой-жа тактыкі прытрымліваліся і бундаўцы. Выхадцы з дробнабуржуазных нацыяналістычных партый, пралязаючы ў рады

КП(б)Б, залічвалі сабе ў партыйны стаж час прабывання ў контррэвалюцыйных партыях. Свой актыўны ўдзел у барацьбе супроць совецкай улады часам выдавалі за партызанскі комуністычны рух. Даволі ўспомніць «капыльскую справу». У Капылі да 1919 г. была сільная эсэраўская арганізацыя, куды ўваходзілі і манархічныя элементы. Пасля адыходу белапалякаў члены гэтай арганізацыі сталі выдаваць сябе за бальшэвікоў, аб'яўлялі сябе чырвонымі партызанамі, каб лягчэй пранікнуць у рады бальшэвіцкай партыі. Шляхам кругавой парукі і ўзаемнай рэкамендацыі частка гэтых «булачных» партызан (Чарнушэвіч, Гурло і інш.) здолела атрымаць партбілеты і пралезці на кіруючую работу.

Эсэраўскія элементы, прабраўшыся ў рады КП(б)Б, у сваёй контррэвалюцыйнай дзейнасці цесна змыкаліся з нацдэмамі. Выкрытыя нацдэмаўскія элементы, як правіла, належалі ў мінулым да эсэраў. У роўнай меры гэта датычыць і контррэволюцыйных меншавіцкіх і бундаўскіх элементаў, якія ў сваёй барацьбе супроць партыі і совецкай улады цесна змыкаліся з контррэволюцыйным трацкізмам. У агромнай большасці выпадкаў, як паказала праверка партдакументаў, прынятыя ў члены КП(б)Б бундаўцы потым аказваліся ў радах трацкістаў. Характэрна, што значная частка прынятых у партыю бундаўцаў прадаўжала заставацца на сваіх старых ідэйных пазіцыях і шкодзіць правядзенню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Комуністычная партыя Беларусі адстойвала заваёвы вялікага Октября ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы з ворагамі соцыялізма. Пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна КП(б)Б у свой час разграміла контррэволюцыйны нацдэмакратызм, контррэволюцыйны трацкізм і іншыя контррэволюцыйныя групоўкі, якія звілі сабе гняздо ў радзе звенняў партыйнага і совецкага апарата БССР.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна ЦК КП(б)Б на чале з таварышом Гікало правялі бязлітасную барацьбу супроць усякага роду антыпартыйных груповак, супроць правых і «левых» апартуністаў, супроць контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў, супроць усякіх ухілаў у нацыянальным пытанні.

Праверка і абмен партдакументаў адыгралі рашаючую ролю ў ачыстцы радоў партыі ад класава-варожых і чуждых людзей.

У час праверкі і абмену партдакументаў арганізацыі КП(б)Б навялі парадак у партыйнай гаспадарцы, выявілі і высунулі на адказную работу некалькі соцень новых, правераных і вытрыманых большэвікоў. Праверка і абмен партдакументаў узнялі рэволюцыйную пільнасць сярод комуністаў. Ажывілася ўся партыйна-арганізацыйная і палітычна-выхаваўчая работа. БССР, як і ўвесь Совецкі Саюз, сустрэла першую стаханаўскую гадавіну з новымі поспехамі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Аднак не ўсе партарганізацыі і іх кіраўнікі праявілі высокую рэволюцыйную пільнасць і непрымірымасць да класава-варожых, двурушніцкіх элементаў. Аб гэтым сведчаць выяўленыя ў сувязі з працэсам над трацкісцка-зіноўеўскай тэрарыстычнай бандай факты засмечанасці паасобных арганізацый КП(б)Б контррэволюцыйна-трацкісцкімі і іншымі класава-варожымі элементамі.

У партарганізацыі газеты «Звязда» выкрыт трацкіст-контррэволюцыянер Розенблюм, які меў непасрэдную сувязь з тэрарыстамі

трацкісцка-зіноўеўскай банды, а таксама трацкісцкія паследышы Петухоўскі і Каган; у партарганізацыі газеты «Рабочий»—трацкіст Гінзбург; у партарганізацыі Белдзяржвыдавецтва выкрыты трацкісты-контррэвалюцыянеры Жукаў і Мілоў; у менскім ВПІ—трацкіст Мельцэр; у віцебскім ВПІ—трацкіст Цэржэцкі; у Наркомасветы—Башкевіч; у Акадэміі Навук—Ільюшын і інш. Контррэвалюцыйная дыверсійная група выкрыта ў віцебскім дэпо чыгункі. У ВКСГШБ выкрыты трацкісты Каўлін і Цароў. У друкарні імя Сталіна, на заводзе «Большэвік», а таксама ў віцебскай, гомельскай, полацкай, бабруйскай і цэлым радзе іншых партыйных арганізацый у апошні час выгнана з радоў партыі не мала трацкістаў.

Гэтыя факты гавораць аб тым, што паасобныя партарганізацыі і іх кіраўнікі не ведаюць сваіх камуністаў, не вывучылі іх палітычнага мінулага і сучаснага, не па-большэвіцку падышлі да праверкі людзей, што і прывяло да таго, што паасобным прытаіўшымся ворагам і двурушнікам удалося праскочыць праверку партдакументаў і атрымаць новы партыйны білет.

Працэс над азвярэлымі ворагамі соцыялізма і выяўлёныя факты засмечанасці паасобных партыйных арганізацый павінны паслужыць сур'ёзным урокам для ўсіх партыйных арганізацый. Абавязак партыйных арганізацый, іх кіраўнікоў і кожнага камуніста—узняць сваю рэволюцыйную пільнасць на ўсіх участках работы, ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, заўсёды стаяць на варце чыстаты радоў партыі, памятаючы ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што «...рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Уся гісторыя барацьбы партыі з трацкісцка-зіноўеўскай бандай паказвае нам, што класавыя ворагі для сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці найбольш аблюбавалі ідэалагічны фронт. Беларуская Акадэмія Навук, навукова-даследчыя інстытуты, вышэйшыя навучальныя ўстановы, Наркомасветы, Белдзяржвыдавецтва, друк і інш. вельмі часта аказваліся засмечанымі рознага роду прытаіўшыміся ворагамі партыі і пролетарыята. У свой час тут акапаліся главары контррэволюцыйнага нацдэмакратызма: Ігнатоўскі, Баліцкі, Лёсік, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Некрашэвіч, Мароз, Жылуновіч і інш. Яны абралі тэрыторыю БССР як адну з баз для збірання сваіх сіл і як плацдарм для контррэволюцыйных выступленняў супроць совецкай улады пры прамой і непасрэднай дапамозе імперыялістычных інтэрвентаў, ставячы стаўку на адрыў БССР ад Совецкага Саюза. Пад шыльдай «навукі» яны пратасквалі чуждую і варожую пролетарыяту ідэалогію, засмечвалі галавы слухачоў навучальных устаноў розным контррэволюцыйным хламам.

У свой час у сценах Беларускай Акадэміі Навук звіла сабе гняздо контррэволюцыйна-трацкісцкая група Рыўліна, якая мела свае разгалінаванні ў БДУ, Комвузе, і іншых вышэйшых навучальных установах. У 1931 г. у БДУ быў выкрыт двурушнік-трацкіст прафесар Артунянц. Пасля забойства трацкісцка-зіноўеўскай бандай тав. Кірава зноў быў выкрыт на гэтым участку цэлы рад трацкісцкіх элементаў: у ВКСГШБ—Руды і Кармін, у Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце—Серамяжка, у Наркомасветы—Дунец і т. д.

Пры праверцы і абмене партдакументаў у Акадэміі Навук, Наркомасветы, Дзяржбібліятэцы, ВКСГШБ і ў іншых арганізацыях, якія

працуюць на ідэалагічным фронце, было выяўлена і выключана з радоў партыі не мала класава-варожых элементаў.

У сувязі з працэсам над фашысцкімі агентамі з трацкісцка-зіноў-еўскага тэрарыстычнага цэнтра зноў выяўлены прытаіўшыяся трацкісцкія паследышы ў Акадэміі Навук, Белдзяржвыдавецтве, ВКСГШБ, рэдакцыі газеты «Звязда», газеты «Рабочий» і ў іншых арганізацыях, якія абслугоўваюць ідэалагічны фронт.

Толькі прытупленнем класавай пільнасці і гнілаліберальнымі адносінамі камуністаў, якія працуюць на такім адказнейшым участку, як ідэалагічны фронт, можна вытлумачыць той факт, што на працягу ўсёй гісторыі гэтых арганізацый там знаходзілі сабе прытулак розныя контррэвалюцыйныя нацдэмаўскія, трацкісцкія элементы і іншыя ворагі партыі і совецкай улады.

Чым-жа іншым, як не стратай класавай пільнасці і пачуцця адказнасці за даручаную справу, можна вытлумачыць той факт, што значная частка навуковай кніжнай прадукцыі Акадэміі Навук з года ў год ішла ў макулатуру як шкодная? У Белдзяржвыдавецтве толькі за апошнія гады із'ята такой «прадукцыі» на суму каля 5 мільёнаў рублёў!

Партыйныя арганізацыі і кіраўнікі ідэалагічнага фронту ордэнаноснай Беларусі абавязаны не на словах, а на справе, перабудаваць усю сваю работу, павысіць дысцыпліну сярод камуністаў, узняць большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць на такую вышыню, каб класавы вораг не меў ніякай магчымасці знайсці лазейку для пранікнення ў навуковыя і навучальныя ўстановы. Партыйныя арганізацыі даб'юцца гэтага толькі пры ўмове, калі яны па-большэвіцку будуць адносіцца да падбору і вывучэння кадраў, штодзенна правяраць іх работу, на аснове разгортвання бязлітаснай крытыкі і самакрытыкі выкрываць расхлябанасць, усякія ўхілы і шкодныя тэорыі як у выкладанні, так і ў выпускаемых навуковых працах.

Высокая рэволюцыйная пільнасць павінна быць праяўлена на ўсіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва, бо яшчэ не ўсе трацкісцкія паследышы-двурушнікі выкрыты. Ні на мінуту нельга забываць словы таварыша Сталіна:

> «Трацкізм ёсць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.
>
> Вось чаму лібералізм у адносінах трацкізма, хоць-бы і разбітага і замаскаванага, ёсць галавацяпства, мяжуючае са злачынствам, здрадай рабочаму класу».

Павышэнне класавай рэволюцыйнай пільнасці нельга разглядаць, як мінаючую кампанію. Яно павінна быць цесна звязана з усёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работай.

Павысіць класавую пільнасць—гэта значыць палепшыць якасць работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, старанна падбіраць, вырошчваць і правяраць кадры, узмацніць арганізатарскую і ідэйна-палітычную работу, павысіць тэарэтычны ўзровень камуністаў, арганізаваць глыбокае вывучэнне гісторыі большэвіцкай партыі, яе барацьбы з усякага роду ўхіламі ад генеральнай лініі большэвіцкай партыі, асабліва з контррэволюцыйным трацкізмам, правалявацкім блокам, нацыяналістычнымі групоўкамі і т. д.

У шалёнай злобе супроць партыі, супроць поспехаў сацыялізма вораг ідзе на ўсялякія хітрыкі, абы толькі дабіцца сваёй мэты. Таму «не ўбаюкваць трэба партыю,—а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе,—а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць,—а трымаць яе ў стане мабілізацыі»... **(Сталін).**

Неад'емнай якасцю кожнага большэвіка, асабліва ва ўмовах БССР—заходняга фарпоста нашай вялікай радзімы, павінна быць уменне раскрываць ворага, як-бы хітра ён ні маскаваўся. Аўладаўшы гэтай якасцю, наша партыя і наш народ, наша першая ў свеце сацыялістычная дзяржава раздушыць, як гадзіну, усякага, хто паспрабуе стаць на шляху нашага сацыялістычнага будаўніцтва.



# Наперад—да новых стаханаўскіх перамог

З кожным годам наша краіна, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра народаў—таварыша Сталіна, дасягае ўсё новых і новых перамог. Апошні год асабліва выдатны — ён выклікаў небывалы ўздым творчай ініцыятывы і актыўнасці мас.

30 жніўня 1935 г. увойдзе ў гісторыю барацьбы за соцыялізм, як адна з выдатнейшых яе старонак, як пачатак руху совецкага народу, які «падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму» **(Сталін)**.

Год таму назад на Донбасе, у шахце імя Сталіна «Цэнтральнае Ірміно», раздаўся першы стаханаўскі ўдар адбойнага малатка Алексея Стаханава. Магутным рэхам прагучэў ён па ўсёй краіне. Ад іскры разгарэлася магутнае полымя працоўнага энтузіязма шырокіх мас совецкага народу ў яго барацьбе за культурнае, заможнае, шчаслівае жыццё.

Вестка аб стаханаўскім рэкордзе з хуткасцю маланкі абляцела ўсю нашу вялікую краіну, з небывалаю сілай узняла вытворчую актыўнасць шырокіх мас. Крываносаўцы на соцыялістычным транспарце, бусыгінцы ў металічнай прамысловасці, віноградаўцы ў тэкстыльнай, сметанінцы ў скурабутковай, пяцісотніцы і тысячніцы ў калгасах і соўгасах згуртаванымі шарэнгамі сталі пад сцягам стаханаўскага руху.

Словы вялікага кіраўніка і арганізатара перамог соцыялізма таварыша Сталіна аб тым, што на даным этапе «кадры вырашаюць усё», ператварыліся ў рэчаіснасць. Выраслі новыя людзі сталінскай эпохі, аўладаўшыя сучаснай тэхнікай. На фабрыках і заводах, у шахтах і новабудоўлях, на чыгуначным транспарце і МТС, у калгасах і соўгасах—усюды стаханаўскі рух апракідваў і апракідвае старыя праектныя магутнасці і нормы выпрацоўкі. Стаханаўскі рух нанёс руйнуючы ўдар тэорыі прадзелу, якая квітнела ва многіх галінах народнай гаспадаркі.

Выдатныя перамогі соцыялістычнага будаўніцтва на ўсіх участках народнай гаспадаркі ў першым стаханаўскім годзе — непасрэдны вынік стаханаўскага руху, які ўсё больш і больш пашыраецца.

Няма зараз такой галіны ў нашай featuresнастайнай народнай гаспадарцы, няма такога ўчастка соцыялістычнага будаўніцтва, дзе-б стаханаўскі рух не пусціў свае глыбокія карэнні. Кожны дзень нараджае ўсё новых і новых герояў рэкордных норм выпрацоўкі, выкарыстання новай тэхнікі і тэхнічнай магутнасці станкоў, агрэгатаў, трактароў і іншых машын. З гушчы совецкага народу штодня вырастае і множыцца лік кваліфікаваных кадраў — герояў сталінскай эпохі ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, на транспарце, новабудоўлях, і ў іншых галінах народнай гаспадаркі.

Бязмежна адданыя сваёй соцыялістычнай радзіме героі Совецкага Саюза тт. Чкалаў, Байдукоў і Белякоў устанавілі сусветны рэкорд дальнасці палёту без пасадкі ў надзвычай цяжкіх і суровых умовах Арктыкі. Тав. Кокінакі ўстанавіў новы сусветны рэкорд высотнага палёту. Герой Совецкага Саюза тав. Леванеўскі са штурманам тав. Леўчэнко завяршылі выдатны 19.000-кілометравы пералёт Лос-Анжэлос (Амерыка) — Масква. Герой Совецкага Саюза тав. Молакаў закончыў 26.000-кілометравы арктычны пералёт, якім адкрыў паветраную паўночную трасу паміж трыма сухазем'ямі: Амерыкай, Азіяй і Еўропай. Лётчык тав. Юмашоў устанавіў выдатны рэкорд высотнага палёту з грузам у 10.000 кілограм. Нашы слаўныя лётчыкі з кожным днём дэманструюць усё новыя і новыя дасягненні тэхнікі і магутнасці совецкай авіяцыі.

Праца ў нашай краіне ператварылася ў справу гонару, славы, адвагі і геройства. Стаханаўскі рух — вынік усіх папярэдніх перамог соцыялізма ў нашай краіне. Стаханаўскі рух — перамога соцыялістычнай формы вытворчасці і арганізацыі працы. Стаханаўскі рух— вялікая перамога совецкага народу, які змагаецца за ператварэнне вучэння Леніна—Сталіна ў рэчаіснасць, за пабудову новага, бясклясавага соцыялістычнага грамадства, за пераход ад соцыялізма к комунізму.

Адным з выдатнейшых дакументаў першага стаханаўскага года з'яўляецца апублікаваны і перададзены на шырокае абмеркаванне мас праект новай сталінскай Канстытуцыі, якім совецкая дзяржава замацоўвае перамогі соцыялізма.

Праект сталінскай Канстытуцыі натхняе ўвесь совецкі народ на далейшую барацьбу за новыя перамогі. Совецкі народ смела глядзіць у сваю будучыню. Яна прынясе яму далейшае паляпшанне матар'яльнага і культурнага становішча, бо праект новай сталінскай Канстытуцыі гарантуе кожнаму працоўнаму права на працу, «права на атрыманне гарантаванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю», права на адпачынак, асвету і карыстанне ўсімі матар'яльнымі і культурнымі багаццямі Краіны советаў, бо совецкі народ сам з'яўляецца гаспадаром усіх культурных і матар'яльных каштоўнасцей, створаных ім пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, совецкага ўрада і геніяльнага палкаводца, стратэга, арганізатара і правадыра — таварыша Сталіна, з імем якога нязменна звязаны ўсе перамогі нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна партыя і рабочы клас ажыццявілі план індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Наша краіна стала магутнай індустрыяльнай дзяржавай, калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна. Працоўнае сялянства, аб'яднаўшыся ў калгасы, пад кіраўніцтвам партыі і таварыша Сталіна шырокім тэмпам узнімае сельскую гаспадарку. З прамысловых цэнтраў у калгасную вёску бесперапынным патокам ідуць навейшыя складаныя сельскагаспадарчыя машыны і прамысловыя тавары, а з калгаснай вёскі ў гарады і прамысловыя цэнтры — сельскагаспадарчыя прадукты і сыравіна для соцыялістычнай прамысловасці. Расце культурны ўзровень і добрабыт шырокіх мас совецкага народу. Неймаверна ўзрасла эканамічная магутнасць і абароназдольнасць нашай краіны. Народы ўсіх нацыянальнасцей у брацкім саюзе, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, ствараюць новае, радаснае, шчаслівае жыццё.

Гэтых нябачаных перамог совецкі народ дасягнуў пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, у бязлітаснай барацьбе з контррэволюцыйнымі трацкістамі і зіноўеўцамі, якія зрабіліся саюзнікамі нямецкага фашызма, агентамі фашысцкай ахранкі—гестапо, стаўшы на шлях белабандыцкага тэрору. У бязлітаснай барацьбе з усімі ворагамі соцыялістычнай рэволюцыі, якія імкнуліся сцягнуць партыю з правільнага ленінскага шляху, таварыш Сталін адстаяў генеральную лінію партыі. Ён адстаяў вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Ён арганізаваў перамогу соцыялізма ў нашай краіне і як ніколі згуртаваў адзінства і маналітнасць радоў комуністычнай партыі.

Усё гэта выклікала звярыную нянавісць контррэволюцыйных фашысцкіх псоў—Троцкага, Зіноўева, Каменева і іх паплечнікаў—да краіны соцыялізма, да арганізатара і натхніцеля гэтых перамог—таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў. У саюзе і пры дапамозе агентаў фашысцкай ахранкі яны забілі палкага пролетарскага трыбуна Сергея Міронавіча Кірава і рыхтавалі ўдар ў сэрца рэволюцыі. Шляхам тэрору і забойства лепшых людзей нашай эпохі—любімага ўсім совецкім народам таварыша Сталіна і іншых кіраўнікоў партыі і ўрада—яны хацелі захапіць уладу ў свае рукі. Рыхтуючы замах на правадыроў і кіраўнікоў совецкага народу, яны разам з тым рыхтавалі ў саюзе з фашызмам зvяржэнне совецкай улады, каб рэстаўраваць капіталізм, аднавіць капіталістычную эксплаатацыю ў нашай краіне. Аднак гэта ім не ўдалося і ніколі не ўдасца. Верны вартавы пролетарскай дыктатуры—нашы слаўныя чэкісты—выкрылі белабандыцка-фашысцкія замыслы ашалелых фашысцкіх псоў.

Прыгавор пролетарскага суда аб расстрэле 16 шалёных псоў з'явіўся прыгаворам мільёнаў. Совецкі народ у дні працэсу з выключнаю сілай прадэманстраваў бязмежную любоў да свайго правадыра, непахісную адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, справе соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтыя дні совецкі народ з асаблівай сілай выразіў сваё абурэнне, агіду і нянавісць да заклятых ворагаў партыі і соцыялізма.

На вылазку азвярэлых фашысцкіх агентаў працоўныя масы краіны Советаў адказалі яшчэ большай згуртаванасцю вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта партыі, вакол любімага правадыра народаў таварыша Сталіна. Узнімаючы сваю рэволюцыйную пільнасць, партыя і працоўныя масы будуць весці бязлітасную барацьбу з усімі ворагамі соцыялізма. На зло ворагам і на радасць пролетарыяту ўсяго свету краіна Советаў дабілася выключна агромных поспехаў у першым стаханаўскім годзе.

* * *

Ордэнаносная БССР разам з усім Совецкім Саюзам сустрэла першую стаханаўскую гадавіну з вялікімі поспехамі як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. Перадавыя рабочыя і калгаснікі ўключыліся ў стаханаўскі рух з першых дзён яго ўзнікнення. Рэкордныя нормы выпрацоўкі перадавых рабочых прамысловасці Совецкага Саюза адразу знаходзілі шырокі водгук сярод рабочых і калгаснікаў БССР.

Па прыкладу Сметаніна рабочыя менскай абутковай фабрыкі браты Скабло (Рыгор і Зелік) **і Розенберг** 9 і 10 кастрычніка

1935 г. далі рэкордныя нормы выпрацоўкі, выканаўшы дзённае заданне, ад 270 да 300 проц. Яны з'явіліся ініцыятарамі і застрэльшчыкамі стаханаўскага руху ў скурабутковай прамысловасці БССР. Рамшчыкі бабруйскага лесакамбіната тт. **Рушко і Адзінцоў** 26 лістапада, следуючы прыкладу архангельскага рамшчыка тав. Мусінскага, распілавалі за змену 320,4 кубаметра лесаматар'ялаў або 267 проц. устаноўленай нормы. Прыкладу ініцыятараў стаханаўскага руху паследвалі перадавыя рабочыя іншых галін прамысловасці. К 15 кастрычніка 1935 г. у мясцовай прамысловасці налічвалася 3.200, а к пачатку снежня ўжо каля 5.000 стаханаўцаў.

Пасля прамовы таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб задачах прамысловасці ў сувязі са стаханаўскім рухам ён набыў новы размах. На 1 сакавіка г. г. толькі ў прамысловасці Наркаммясцпрома лік стаханаўцаў узрос да 10.899, а на 1 красавіка—больш 12.000 чалавек.

Развіццё стаханаўскага руху садзейнічала значнаму росту прадукцыйнасці працы і павелічэнню выпуску прадукцыі. Калі ў верасні мінулага года абутковая фабрыка імя Кагановіча ў сярэднім за суткі пры наяўнасці 1.205 рабочых выпускала 5.312 пар гатовага абутку, то ў ліпені, пры меншым ліку рабочых (1.172) у сярэднім за дзень выпускалася 6.876 пар.

Падобныя прыклады можна прывесці з розных іншых галін нашай прамысловасці.

Стаханаўскі рух ускрыў невычэрпныя рэзервы вытворчай магутнасці нашых фабрык і заводаў і з поўнай відавочнасцю даказаў, што зацверджаныя гадавыя планы з'яўляюцца толькі абавязковым мінімумам, які можна значна перавыканаць і даць краіне на дзесяткі мільёнаў рублёў звышпланавай прадукцыі.

На аснове выяўленых рэзерваў мясцовая прамысловасць БССР у адказ на заклік «Праўды» узяла на сябе абавязак выпусціць у гэтым годзе на 30 мільёнаў рублёў звышпланавай прадукцыі. Пры правільнай арганізацыі справы і пашырэнні стаханаўскага руху на аснове асваення новых норм выпрацоўкі і гэта сума не з'яўляецца мяжой. Мясцовая прамысловасць мае ўсе ўмовы для таго, каб не толькі выканаць, але і перавыканаць узятыя абавязацельствы.

Дзякуючы разгортванню стаханаўскага руху рад прадпрыемстваў і галін прамысловасці сустрэў першую стаханаўскую гадавіну датэрміновым выкананнем плана.

Так, тарфяная прамысловасць Наркаммясцпрома к 1 верасня выканала сваё гадавое заданне на 104,7 проц. Паасобныя-ж перадавыя торфазаводы далі яшчэ больш высокі працант: імя Гея—112,9, «Лукскае»—122,2 проц., «Дукоры»—160,7 проц., «Татарка»—168,0.

Цагельныя і чарапічныя заводы Бабруйскага раёна датэрмінова выканалі план па сырцу. За паспяховае выкананне промфінплана прамысловасцю Бабруйскі раён меў гонар атрымаць пераходны сцяг ЦК КП(б)Б і СНК БССР.

Віцебскі лесазавод «Праўда» у дзень гадавіны стаханаўскага руху ўзяў на сябе абавязацельства датэрмінова выканаць свой гадавы план к моманту склікання VIII надзвычайнага з'езда Советаў, г. зн. к 1/XI. Заводакіраўніцтва, партыйная і профсаюзная арганізацыі завода падмацоўваюць узятае абавязацельства канкрэтнай арганізацыяй справы. Стаханаўская змена ўноч на 31 жніўня перакрыла ўстаноўленую

тэхнічную магутнасць агрэгатаў на 27,3 проц., а лепшыя стаханаўцы: тт. Смольскі—на 41,9 проц., Грышчэнкоў—на 33,5 проц.

Падрыхтоўка к VIII надзвычайнаму з'езду Советаў СССР выклікала новую хвалю працоўнага энтузіязму сярод рабочых. Шырокай хваляй разгортваецца соцспаборніцтва на высокую прадукцыйнасць працы, палепшанне якасці прадукцыі, датэрміновае выкананне плана 1936 года.

Цэлы рад прадпрыемстваў БССР паспяхова змагаецца за ўсваенне новых норм і тэхнічнай магутнасці, за датэрміновае выкананне гадавога плана.

Ад прамысловасці не адставала і не адстае соцыялістычная сельская гаспадарка БССР. З першых дзён стаханаўскага руху перадавыя калгаснікі і рабочыя соўгасаў сталі ў радах стаханаўцаў. Прамовы таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, на нарадзе перадавых камбайнераў і трактарыстаў і на нарадзе калгасніц-пяцісотніц узнялі новую магутную хвалю працоўнага энтузіязму сярод калгаснікаў і калгасніц.

Многія звенні, брыгады і цэлыя калгасы ўзялі на сябе канкрэтныя абавязацельствы па ўздыму ўраджайнасці і прадукцыйнасці працы ва ўсіх галінах сельскагаспадарчай вытворчасці. У гэты магутны рух уключыліся і трактарысты МТС.

Калгаснікі і трактарысты па-большэвіцку падрыхтаваліся да веснавой пасеўнай кампаніі і правялі яе ў раннія і сціслыя тэрміны. Пасля разгарнулася барацьба за ачыстку пасеваў ад пустазелля. Перадавыя калгасныя брыгады не абмежаваліся ўстаноўленымі планам нормамі праполкі, а палолі свае ўчасткі, пакуль не знішчылі пустазелле да апошняга каліва. У барацьбе за 5, за 7 і 10 цэнтнераў ураджайнасці ільнавалакна з га яны праводзілі падкормку пасеваў, што дало станоўчыя вынікі.

Не гледзячы на неспрыяючыя кліматычныя ўмовы, многія калгасы, брыгады і звенні дабіліся сёлета выключных поспехаў. Так, у калгасе «Перамога», Александрыйскага сельсовета, Шклоўскага раёна, звеннявая ордэнаноска тав. **Гаваркова** атрымала 12 цнт. ураджаю ільнавалакна з га; звеннявая тав. **Рыбакова** Марыя ў калгасе імя Чарвякова, Мсціслаўскага раёна, з плошчы 2,2 га атрымала па 11,5 цнт. ільнавалакна з гектара; звеннявы калгаса імя Варашылава, Мсціслаўскага раёна, тав. **Тамілін,** па папярэдніх даных, атрымае да 15 цнт. ільнавалакна з га.

Брыгадзір калгаса «Прамень комуны», Слуцкага раёна, тав. **Бадак** Кузьма атрымаў ураджай аўса па 38,2 цнт. з га, пшаніцы—30 цнт., ячменю—28,5 цнт. У калгасе «9 студзеня» Дзержынскага раёна тав. **Векша** з плошчы 50 га атрымаў азімай пшаніцы па 33,3 цнт. у сярэднім з га. Брыгадзір брыгады № 2 калгаса імя Якаўлева, Тураўскага раёна, тав. **Чарнушэвіч** Р. Ф. атрымаў ураджаю азімай пшаніцы 25 цнт., жыта—22 цнт., ячменю—21 цнт. з гектара.

Сотні падобных прыкладаў ясна гавораць аб выключнай ролі стаханаўскага руху ў барацьбе за сталінскі ўраджай.

Трактарысты і вадзіцелі складаных уборачных сельскагаспадарчых машын таксама паказалі большэвіцкія ўзоры работы. Лепшы трактарыст-стаханавец Пухавіцкай МТС тав. **Ліпеня** перавыканаў узятае на сябе абавязацельства ў 1936 стаханаўскім годзе апрацаваць 1.000 га. Ён ужо апрацаваў на трактары ХТЗ 1.017 га і зэканоміў 2.600 кг. гаручага. Да канца сезона ён узяўся апрацаваць

яшчэ 200 га. Трактарыст-стаханавец Старынскай МТС, Сіроцінскага раёна, тав. **Васільеў** узараў 1.000 га, трактарыст-стаханавец **Чубакоў** з Хоцімскай МТС, які спаборнічае з Пашай Ангелінай за 1.200 га на трактар, ужо ўзараў 1.060 га і трактарыст-стаханавец **Ячмянёў**—1.020 га. Цэрахоўская МТС, дзякуючы стаханаўскім метадам работы, да 28 жніўня выканала гадавы план трактарных работ (без малацьбы) і зэканоміла 21,5 тоны гаручага. Лепшы трактарыст-стаханавец гэтай МТС тав. **Антошанка** апрацаваў 840 га і зэканоміў 1.400 кг. гаручага.

Асенняя сяўба праводзіцца стаханаўцамі выключна хуткім тэмпам пры высокім выкарыстанні трактарнай цягавай сілы. Трактарыстка-стаханаўка Слуцкай МТС тав. **Жук** Ганна 31 жніўня за 16 гадзін засеяла трактарнай сеялкай 40,26 га і зэканоміла 15 кг. гаручага. Трактарыст-стаханавец Старадарожскай МТС тав. **Брыцэўскі** Мікалай разам з **Лапко** Тэкляй 7 верасня засеялі 43,5 га. Такіх прыкладаў многа.

Выключную ролю адыграў стаханаўскі рух у асваенні і выкарыстанні камбайнаў, якія сёлета ўпершыню працавалі на палях БССР. Стаханаўскія метады работы апракінулі ўсе апартуністычныя і антымеханізатарскія разважанні аб немагчымасці выкарыстання камбайнаў ва ўмовах БССР. 29 паўночных камбайнаў убралі 2.785 га ўраджаю, што складае ў сярэднім па 96 га на адзін камбайн замест нормы 80 га. Лепшы камбайнер-стаханавец тав. **Лайко** Ф. С. (Старадарожская МТС) убраў 256 га, перавыканаўшы планавае заданне больш як у тры разы.

Практыка гэтага года паказала, што камбайны прыгодны не толькі ў стэпавых раёнах, а з поспехам могуць быць выкарыстаны на калгасных і соўгасных палях БССР. Стаханаўскі рух пусціў глыбокія карэнні і ў іншых галінах сельскай гаспадаркі: жывёлагадоўлі, малацьбе ўраджаю і т. д.

Разам з паспяховым выкананнем плана стаханаўскі рух на аснове асваення новых норм пры прагрэсіўнай здзельшчыне забяспечыў і значны рост матар'яльна-бытавога становішча рабочых, аб чым ясна сведчыць заработак стаханаўцаў.

Тав. **Шылок,** слесар-стаханавец менскага завода імя Кірава, зарабіў у ліпені 942 р. замест 590 р. пры старых нормах, токар тав. **Худзікаў**—адпаведна: 1.085 р. і 590 р., тав. **Скабло:** 796 р. і 347 р. тав. **Бабылёў** (гомельскі завод імя Кірава) перавыконвае новыя нормы і зарабляе ў сярэднім 600—700 р. у месяц. «Жыву ў добрай кватэры, ні ў чым не адчуваю патрэбы»,—заяўляе сам Бабылёў. Вырас заработак і стаханаўцаў сацыялістычных палёў. Такім чынам увядзенне новых норм не толькі не зменшыла заработку, а наадварот—дало новы штуршок у палепшанні матар'яльна-бытавога становішча рабочых і калгаснікаў.

* * *

Побач з поспехамі БССР мае і буйныя недахопы ў справе разгортвання стаханаўскага руху, асваення новых норм, новых тэхнічных магутнасцей, выканання промфінплана.

У пачатку стаханаўскага руху на радзе фабрык і заводаў былі выпадкі прамога супраціўлення і сабатажу як з боку прытаіўшыхся класава-чуждых і варожых людзей, так і з боку кансерватыўных, бюракратычных элементаў сярод гаспадарнікаў і інжынерна-тэх-

нічнага персанала. Такія факты мелі месца на швейнай фабрыцы «8 сакавіка», заводзе імя Варашылава, ільнапрадзільнай фабрыцы імя Кагановіча, мазырскай мэблевай фабрыцы і радзе іншых, а таксама ў паасобных калгасах і соўгасах.

Не ўсе кіраўнікі трэстаў, прадпрыемстваў, інжынерна-тэхнічныя работнікі здолелі адразу перабудаваць працэсы вытворчасці паміж цэхамі, зменамі і ў цэлым па заводу ці фабрыцы так, каб забяспечыць бесперабойную работу стаханаўцаў. Паасобных кіруючых работнікаў магутны стаханаўскі рух прывёў у замяшанне. Яны не адразу зразумелі, што яго трэба ўзначаліць і карэнным чынам, зверху данізу, перабудаваць усю работу. Яны не зразумелі таго, што паспяховае разгортванне стаханаўскага руху патрабуе ліквідацыі абязлічкі на ўсіх участках работы прадпрыемства, штодзеннага канкрэтнага кіраўніцтва кожным цэхам, зменай, брыгадай, агрэгатам.

На паасобных прадпрыемствах стаханаўскі рух сустрэў тормазы і перашкоды, якія лёгка можна было-б ліквідаваць або зусім абыйсці. У радзе выпадкаў гаркомы і райкомы партыі своечасова не рэагавалі на вылазкі класавага ворага і яго агентуры супроць стаханаўскага руху. Патрабавалася непасрэднае ўмяшанне ЦК КП(б)Б, каб павярнуць партыйныя арганізацыі і заводакіраўніцтвы тварам да стаханаўскага руху, ліквідаваць тормазы і перашкоды на шляху яго развіцця.

Аднак яшчэ і да апошняга часу паасобныя кіраўнікі прадпрыемстваў прадаўжаюць працаваць па-старынцы. Так, на віцебскай ільнапрадзільнай фабрыцы імя Кагановіча выносяць шматлікія пастановы аб стаханаўскім руху, аб перабудове работы, палепшанні тэхнічнага кіраўніцтва, але ніхто практычна не займаецца ажыццяўленнем гэтых пастаноў. У выніку фабрыка, пры наяўнасці ўсіх умоў і дастатковай колькасці сыравіны нават для перавыканання плана, знаходзіцца ў глыбокім прарыве. Першае паўгоддзе фабрыка скончыла з ганебнымі паказчыкамі, выканаўшы поўгадавы план усяго на 83,62 проц. У ліпені, не гледзячы на абяцанні кіраўнікоў ліквідаваць прарыў і ператварыць фабрыку ў суцэльна стаханаўскую, крывая выканання плана пала яшчэ ніжэй—да 66,38 проц.

Зрыў колькаснага выканання плана дапаўняецца нізкай якасцю прадукцыі і значным процантам браку. На фабрыцы многа старых кадравых рабочых, ударнікаў, стаханаўцаў, якія жадаюць большэвіцкімі ўзорамі работы вывесці фабрыку з прарыву, паставіць яе ў рады перадавых прадпрыемстваў БССР. Аднак на сваім шляху яны сустракаюць тормазы і перашкоды: прастоі станкоў, машын, адсутнасць неабходных струмантаў, няўвязку паміж цэхамі і зменамі. Загатоўчы цэх толькі за першую дэкаду жніўня меў 718 машынагадзін прастою, у ватэрным цэху прастоі дасягаюць 20-22 проц. Масавыя прастоі машын і іншыя перашкоды з-за нераспарадчасці кіраўніцтва паралізуюць работу стаханаўцаў, зніжаюць прадукцыйнасць працы і выпуск прадукцыі. Усё гэта вядома дырэкцыі, парткому, мясцкому, інжынерна-тэхнічным работнікам, аднак яны не клапоцяцца аб тым, каб вывесці фабрыку з прарыву. Яны не вынеслі для сябе ўрокаў з папярэдніх указанняў ЦК КП(б)Б, не выконваюць рашэнняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК. Сістэматычнае адставанне фабрыкі гаворыць аб тым, што віцебскі гарком партыі своечасова не рэагаваў на факты зрыву стаханаўскага руху на фаб-

рыцы, не прыняў адпаведных мер для палепшання работы яе партыйнай арганізацыі. Ганебнае адставанне фабрыкі ў выкананні плана і разгортванні стаханаўскага руху далей нецярпіма. Віцебскі гарком партыі і партыйная арганізацыя прадпрыемства павінны забяспечыць рэзкі пералом ва ўсёй рабоце фабрыкі, каб не толькі вывесці яе з прарыву, але паставіць у рады перадавых прадпрыемстваў рэспублікі.

На фабрыцы «Дняпроўская мануфактура»—адным з буйнейшых тэкстыльных прадпрыемстваў БССР— таксама дрэнна наладжана кіраўніцтва тэхналагічным працэсам, разгортваннем стаханаўскага руху. Чэрвеньскі план фабрыка выканала ўсяго на 95,6 проц., а ў ліпені яшчэ менш—на 85,9 проц.

Рад партыйных арганізацый і кіраўнікоў мясцовай прамысловасці, дабіўшыся першых поспехаў у разгортванні стаханаўскага руху і асваенні новых норм, аслабіў сваю работу і пусціў яе самацёкам. У выніку мясцовая прамысловасць ліпеньскі план выканала толькі на 95,6 проц., не гледзячы на ўзятае абавязацельства даць краіне ў 1936 г. на 30 мільёнаў руб. прадукцыі звыш плана. У жніўні 31 прадпрыемства не выканала свайго планавага задання.

Работнікі мясцовай прамысловасці абавязаны ў корані перабудаваць сваю работу ў адпаведнасці з запатрабаваннямі снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК. Выключную ўвагу трэба звярнуць на вырошчванне новых кадраў, аўладаўшых тэхнікай вытворчасці, ні на мінуту не забываючы ўказання таварыша Сталіна, што на сучасным этапе «кадры вырашаюць усё». Шырокая арганізацыя тэхвучобы рабочых, павышэнне тэхнічных ведаў і кваліфікацыі стаханаўцаў—вось важнейшая задача.

Першы стаханаўскі год прынёс не малыя поспехі ў справе павышэння тэхнічнага ўзроўню рабочых. У адной толькі мясцовай прамысловасці тэхвучобай ахоплена больш 18 тысяч рабочых. Аднак і гэта лічба ні ў якім разе не можа нас задаволіць, бо яшчэ значная частка рабочых не ліквідавала сваю тэхнічную адсталасць, што моцна сказваецца на асваенні новых норм і далейшым росце стаханаўскага руху.

У прамысловасці Белметалатрэста ў ліпені не асвоіла новых норм 27,6 проц. агульнага ліку рабочых; у швейнай прамысловасці—25,4 проц., у тым ліку на фабрыцы «Окцябр»—47 проц., «Сцяг індустрыялізацыі»—31 проц., імя Крупскай—37 проц. На перадавых прадпрыемствах швейнай прамысловасці гэты процант значна меншы. На фабрыцы імя Дзержынскага не выканала новых норм усяго 6,8 проц., на фабрыцы «Комінтэрн»—7,5 проц. Вялікую стракатасць у асваенні новых норм маюць і іншыя галіны прамысловасці.

Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што не ўсе камандзіры прамысловасці, не ўсе партыйныя арганізацыі зразумелі, што без аўладання тэхнікай вытворчасці, без уцягнення ўсіх рабочых у рады стаханаўцаў нельга забяспечыць максімальнае выкарыстанне тэхнічнай магутнасці прадпрыемства.

Аўладанне тэхнікай вытворчасці—адным з асноўных рычагоў далейшага разгортвання стаханаўскага руху—павінна стаць у цэнтры ўвагі і барацьбы за выкананне промфінплана, за далейшыя перамогі нашай сацыялістычнай прамысловасці.

У нашай сельскай гаспадарцы агра-і зоатэхвучоба з'яўляецца тым-жа магутным рычагом у справе далейшага ўздыму ўраджайнасці соцыялістычных палёў і прадукцыйнасці жывёлагадоўлі. Надыхо-

дзячая зіма павінна быць максімальна выкарыстана для разгортвання агратэхнічнай і зоатэхнічнай вучобы сярод калгаснікаў, калгасніц, рабочых і работніц соўгасаў і МТС. Партыйныя арганізацыі і спецыялісты сельскай гаспадаркі абавязаны арганізаваць гэту справу так, каб у другім стаханаўскім годзе наша рэспубліка атрымала новыя дзесяткі тысяч майстроў высокай ураджайнасці калгасных і соўгасных палёў, майстроў соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Яны павінны ўзначаліць стаханаўскі рух, папулярызаваць лепшы вопыт работы стаханаўцаў у соўгасах, калгасах і МТС. Наш друк, як рэспубліканскі, так і раённы, у тым ліку шматтыражкі, насценгазеты, абавязаны стаць ініцыятарамі гэтай справы, памятаючы, што перанясенне лепшых узораў работы стаханаўцаў у адстаючыя прадпрыемствы, цэхі, калгасы, соўгасы, МТС і т. д. будзе садзейнічаць далейшаму росту і разгортванню стаханаўскага руху.

Наша прамысловасць у другім стаханаўскім годзе абавязана поўнасцю забяспечыць не толькі колькасна, але і якасна, узросшыя запатрабаванні спажыўца.

* * *

Ва ўмовах нашай рэспублікі мы мелі не мала вылазак класавага ворага супроць стаханаўскага руху. Прытаіўшыся ворагі будуць імкнуцца і ў далейшым шкодзіць нам у гэтай справе. Таму задача ўсіх партыйных арганізацый, кіраўнікоў прадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі—усямерна ўзмацняць большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць, каб да канца выявіць і выкрыць усіх двурушнікаў, усе класава-чуждыя элементы.

У бязлітаснай барацьбе з ворагамі соцыялізма і совецкага народу, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і свайго правадыра таварыша Сталіна, уся КП(б)Б і працоўныя масы ордэнаноснай Беларусі ў другім стаханаўскім годзе будуць змагацца за новыя перамогі соцыялізма, за далейшае разгортванне стаханаўскага руху, за пераtварэнне ўсіх нашых фабрык і заводаў, калгасаў і соўгасаў у суцэльна стаханаўскія.

**П. Хадасевіч**

**Сакратар Менскага ГК КП(б)Б**

# Да канца выкрыць усіх ворагаў партыі і совецкай улады

Працэс трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра паказаў усяму свету, да чаго дакаціліся трацкісцка-зіноўеўскія адшчапенцы, якія ў прамым сэнсе гэтага слова змыкаліся з фашысцкай ахранкай, рука аб руку, у шчыльным саюзе і кантакце з нямецкімі фашыстамі, рыхтаваліся нанесці найцяжэйшы ўдар соцыялістычнай радзіме — бацькаўшчыне працоўных усяго свету.

Крок за крокам суд устанавіў і цалкам даказаў, як прызналі гэта і самі абвінавачваемыя, што Троцкі, Зіноўеў, Каменеў, Смірноў, Мрачкоўскі і іншыя ўдзельнікі тэрарыстычнага цэнтра з'яўляліся главарамі і арганізатарамі тэрарыстычнай змовы супроць кіраўнікоў партыі і совецкай дзяржавы.

Гнуснае забойства 1-га снежня 1934 г. бліжэйшага саратніка таварыша Сталіна—Сергея Міронавіча Кірава, учыненае трацкісцка-зіноўеўскай бандай, падрыхтоўка забойства таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў, паказвае, што заклятыя ворагі народу сталі на шлях самай крайняй, самай вострай, здрадніцкай барацьбы з партыяй і совецкай дзяржавай.

Працэс паказаў перад усім светам, што арганізатарамі і кіраўнікамі зладзейскага забойства з'яўляліся Троцкі і Зіноўеў. Гэта яны арганізавалі, падрыхтавалі і ажыццявілі нечуванае злачынства. Гэта іх рукі заліты крывёю аднаго з лепшых сыноў совецкага народу, палкага трыбуна большэвіцкай партыі—тав. Кірава.

Працэс выкрыў усю паднаготную гэтых агідных падонкаў чалавецтва, якія гатовы былі патапіць нашу краіну ў крыві працоўных мас, каб толькі забяспечыць сабе прыход да ўлады. Працэс паказаў усю пустату, безыдэйнасць гэтых «людзей», якія калісьці мнілі сябе рэволюцыянерамі.

Не ўдалося забойцам, змоўшчыкам з трацкісцка-зіноўеўскай бандыцкай зграі ажыццявіць свае злачынныя намеры. Совецкі судваздаў ім па заслугах. Караючы меч пролетарскай дыктатуры не пашкадаваў гэтых заядлых ворагаў краіны соцыялізма. Вялікі гнеў і агідлівасць да трацкісцка-зіноўеўскай банды ўзрушылі ўсю нашу краіну. Рабочыя фабрык і заводаў, калгаснікі, працоўная інтэлігенцыя неабдымнага Совецкага Саюза адзіным непарушным фронтам у дні працэсу дэманстравалі сваю згуртаванасць вакол нашай партыі, вакол вялікага Сталіна, сваю бязмежную любоў і адданасць справе соцыялізма.



Грозны меч, магутны вартавы пролетарскай дыктатуры—нашы слаўныя чэкісты адвялі паганыя лапы зграі бандытаў ад нашага любімага, роднага Сталіна, ад кіраўнікоў партыі і ўрада. Вынесен і прыведзен у выкананне суровы прыгавор над главарамі асцервянелай банды. Гэты прыгавор з'яўляецца прыгаворам рабочага класа, усіх працоўных нашага вялікага Совецкага Саюза. 16 шалёных псоў з трацкісцка-зіноўеўскай банды знішчаны. Але гэта не значыць, што можна ў якой-небудзь меры самасупакоіцца.

КП(б)Б працуе на рубяжы з капіталістычным светам. Гэта акалічнасць накладае на нас падзесяцяроную адказнасць у барацьбе за павышэнне класавай рэволюцыйнай пільнасці і непрымірымасці да ворагаў. Не супакойвацца і не зазнавацца, памятаючы, што страта большэвіцкай вострасці, чуткасці і пільнасці—самае згубнае для большэвіка. Барацьба з рэшткамі адміраючых капіталістычных класаў і іх агентуры не скончана, яна прадаўжаецца. Наша зброя—рэволюцыйная пільнасць—заўсёды павінна быць напагатове, трапна і бязлітасна разіць ворагаў соцыялізма.

Буйнейшыя палітычныя памылкі, дапушчаныя партарганізацыяй і кіраўніцтвам «Звязды», павінны паслужыць сур'ёзным урокам для ўсёй КП(б)Б, для ўсіх работнікаў нашага друку. Выключная пільнасць неабходна зараз, бо ў Менскай партарганізацыі за параўнальна кароткі час выяўлен рад трацкісцкіх спраў, што дрэнна характарызуе работу партарганізацый, якія прагледзелі ў сваіх радах трацкістаў і гэтым самым дазволілі ім звіць сабе гнёзды.

Выносячы ўрок з рашэння бюро ЦК КП(б)Б аб партарганізацыі «Звязды», усе партарганізацыі павінны памятаць аб тым, што контррэволюцыйная зграя трацкістаў-двурушнікаў цалкам яшчэ не выкрыта і не выгнана з партыі.

* * *

Перш чым перайсці да паасобных фактаў, неабходна напомніць, што менскія партарганізацыі ў мінулым больш іншых былі засмечаны контррэволюцыйнымі трацкісцка-зіноўеўскімі і нацдэмаўскімі элементамі.

Старым актывістам менскай партарганізацыі вядома так званая група контррэволюцыянера-трацкіста Рыўліна, якая гняздзілася ў Акадэміі Навук і мела свае разгалінаванні ў БДУ, ВПІ, Комвузе, Інстытуце соўправа, Гістпарце. У 1932 г. Рыўлін і яго група былі выкрыты органамі НКВД і высланы, як актыўныя трацкісты, ад'яўленыя контррэволюцыянеры і ворагі соцыялізма. Але на гэтым справа не скончылася. Кіраўнікі групы на выпадак свайго правалу пастараліся пакінуць пасля сябе карэнні.

У БДУ толькі ў 1934 г., праз два гады пасля разгрому групы Рыўліна, быў выкрыт двурушнік-трацкіст прафесар Артунянц, а ў час праверкі партдакументаў—яшчэ адзін махровы трацкіст—стаўленік Рыўліна—Герман.

У Інстытуце Соўправа толькі ў 1935 г., пры праверцы партдакументаў, быў выкрыт і выключан з партыі трацкіст Гольман; у ЦУНХУ—трацкіст Літвін і рад іншых асоб, у свой час непасрэдна звязаных з групай Рыўліна.

У ВКСГШБ, як паказваюць зараз матар'ялы пратаколаў партсходаў, ведалі аб трацкісцкай дзейнасці гэтых людзей такія члены пар-

тыі, як Выдра, Лур'е, Саевіч і інш., якія на працягу доўгіх гадоў працавалі тут выкладчыкамі. Яны павінны рашуча павысіць сваю бальшэвіцкую пільнасць і дапамагчы партыі выкарчаваць усіх паследышаў гэтай трацкісцкай групы.

У апошні час намі праверана партарганізацыя Белдзяржвыдавецтва, якую ў свой час, пачынаючы з 1924 г., узначальвалі нацдэмы: Мароз, Жылуновіч, Шыпіла, Некрашэвіч і, нарэшце, Браўковіч, выключаны з партыі, як актыўны трацкіст.

Гэта партарганізацыя ў час усіх чыстак партыі, на працягу ўсіх нацдэмаўскіх спраў, якія мелі месца ў КП(б)Б, бралася пад выключны кантроль. Аднак комуністы партарганізацыі ДВБ не зразумелі палітычнага сэнсу мінулых нацдэмаўскіх спраў, не праявілі патрэбнай пільнасці пры выкарчоўцы рэштак класава-варожых элементаў, не паставілі ўсю работу апарата на ідэйна-палітычную вышыню. У выніку прамыя ворагі партыі не былі своечасова выкрыты і на працягу доўгіх год вялі шкодную работу. Толькі за апошні час выкрыты такія ворагі партыі, як Жукаў, Мілоў, якія былі звязаны з вядомым трацкістам-контррэволюцыянерам, вялі з ім ажыўленую перапіску і стараліся працягнуць яго пісаніну ў друк.

Мілоў доўгія гады працаваў на такім адказным участку, як ваенны сектар ДВБ, актыўна быў звязан з групай выкрытых нядаўна ў менскай партарганізацыі двурушнікаў-трацкістаў і пратаскваў у друк розны контррэволюцыйны хлам.

Пасля выкрыцця трацкіста Браўковіча, на яго месца быў прызначан Шастакоў, якога ЦК папярэдзіў, што партарганізацыя і апарат ДВБ мае выключную гісторыю арудавання нацдэмаў і трацкістаў і што яе трэба ачысціць. Не гледзячы на гэта, бальшэвіцкая пільнасць членаў партарганізацыі ДВБ аказалася настолькі слабой, што класавы вораг здолеў аблытаць іх і ўцягнуць комуніста Шастакова ў сямейнасць. Шастакоў пачаў наладжваць частыя п'янкі на сваёй кватэры і на кватэрах у арыштаваных контррэволюцыянераў Жукава, Мілова, у алілуйшчыка Квапінскага і іншых. Урэшце партарганізацыя была зусім дэмабілізавана ў барацьбе з класавым ворагам.

Ужо пасля абмену партдакументаў выключаны з партарганізацыі ДВБ такія «комуністы», як Шастакоў, Елейнік, Квапінскі, не гаворачы аб радзе асоб, арыштаваных органамі НКВД.

Зусім зразумела, што страта партарганізацыяй бальшэвіцкай пільнасці сказалася на рабоце ўсяго апарата ДВБ. Толькі за апошнія гады із'ята і знаходзіцца ў залежы беларускай «літаратурнай прадукцыі», як шкоднай, на суму каля 5 мільёнаў рублёў. Бюро ЦК КП(б)Б вынесла рашэнне, якое абавязвае гарком і Варашылаўскі райком партыі прыняць сур'ёзныя і канкрэтныя меры па ўмацаванню бальшэвіцкага кіраўніцтва і аздараўленню гэтай партарганізацыі.

У партарганізацыі друкарні імя Сталіна, звязанай з ДВБ па лініі вытворчасці, партыйная работа пастаўлена была таксама выключна дрэнна, бальшэвіцкая пільнасць прытуплена. Не гледзячы на праведзеную ўжо праверку і абмен партдакументаў, у друкарні былі выяўлены трацкісты (Сенчук і іншыя). Сакратар парткома тав. Старавойтаў атрымаў у сувязі з гэтым моцнае папярэджанне.

У партарганізацыі Белкаапсаюза доўгі час арудавалі актыўныя трацкісты (Маслоў, Каструлёў, Хініч, Нісенбаум), класава-чуждыя людзі (Шаболтас, Бельскі, Тітоў) і шпіён Багдановіч. Большасць з іх сядзела там аж да праверкі і абмену партдакументаў, займаючы ад-

казныя пасады. Здавалася-б, што партарганізацыя Белкаапсаюза зробіць для сябе патрэбныя вывады з фактаў засмечанасці апарата. Аднак адзін з адказнейшых старых работнікаў Белкаапсаюза Баскін стаў на шлях прыкрыцця яўных ворагаў, пралезшых у гэту партарганізацыю. Калі разбіралася справа контррэволюцыянера-трацкіста Каструлёва, Баскін дазволіў сабе на партыйных сходах і нават на пленуме Кагановіцкага РК выступіць у абарону гэтага ад'яўленага трацкіста, характарызуючы яго, як адданага работніка, лепшага і аўтарытэтнейшага кааператара і т. п. Пасля выключэння Каструлёва з партыі, Баскін выдаў яму прэмію ў паўтары тысячы рублёў як аднаму з лепшых работнікаў Белкаапсаюза і вынес на паседжанні прэзідыума падзяку. Справа дашла да таго, што ўсіх комуністаў сваёй партарганізацыі Баскін пачаў называць «людзішкамі, якія не могуць разабрацца ў палітычных і гаспадарчых справах кааперацыі». Такім чынам Баскін зніжаў ролю ўсёй партарганізацыі і адстойваў выкрытых у ёй класавых ворагаў. І толькі пасля таго, як раённы камітэт паставіў перад ЦК пытанне аб немагчымасці застаўлення самога Баскіна ў радах партыі, Баскін прызнаў, што дапусціў цэлы рад палітычных памылак і сваімі паводзінамі ў адносінах да актыўнага трацкіста Каструлёва праявіў прытупленне большэвіцкай пільнасці.

У цэлым радзе іншых партарганізацый (Музей рэволюцыі, рэдакцыя газеты «Рабочий»), як відаць з папярэдніх матар'ялаў абследвання, акапаліся яшчэ рэшткі недабітых ворагаў.

На паседжаннях райкомаў і бюро гаркома партыі канчаткова разгледжаны ўжо даныя аб радзе трацкісцкіх спраў.

Па Сталінскаму раёну ў час праверкі і абмену партдакументаў было выключана з партыі нямала трацкістаў, а пасля рашэння ЦК аб партарганізацыі «Звязды» дадаткова разгледжаны справы раду трацкістаў, і ўсе яны выключаны з партыі.

Па Варашылаўскаму раёну пасля апублікавання дакументаў аб трацкісцка-зіноўеўскай бандзе выяўлен і выключан з партыі цэлы рад трацкісцкіх элементаў. Сярод іх былі такія, якія праяўлялі трацкісцкую дзейнасць у перыяд 1922—24 гг., а таксама група асоб, якія ў 1927 г. і пазней з'яўляліся актыўнымі трацкістамі.

Сакратары цэлага раду партыйных камітэтаў выявілі цяпер па архіўных матар'ялах даволі значную колькасць былых удзельнікаў трацкісцка-зіноўеўскіх контррэволюцыйных груп—комсамольцаў, беспартыйных, выключаных і нявыключаных з партыі. Перад парткомамі стаіць задача—даведацца, дзе гэтыя людзі зараз працуюць, каб дапамагчы адпаведным партарганізацыям выкарчаваць да канца рэшткі ўсіх контррэволюцыйных трацкісцкіх паследышаў.

У сувязі з працэсам і выкрыццём раду контррэволюцыйна-трацкісцкіх элементаў у Менску, некаторыя таварышы могуць уявіць сабе гэтыя падзеі так, што трацкісты прадстаўляюць сур'ёзную сілу. Гэта зусім няправільна. У Менскай партарганізацыі, як і ва ўсёй ВКП(б), мы маем справу з кучкай абнаглелых, збанкрутаваўшыхся белагвардзейцаў, якія дакаціліся да самай нізкай ступені подлых фашысцкіх забойцаў. Наша партыя як ніколі моцна згуртавана вакол свайго вялікага правадыра—геніяльнага Сталіна, наш рабочы клас і ўсе працоўныя краіны Советаў як ніколі адданы справе партыі Леніна—Сталіна, справе соцыялістычнага будаўніцтва. Наша партыя і ўвесь совецкі народ нанясуць канчатковы ўдар абнаглелай белагвар-

дзейшчыне, з карэннем вырвуць рэшткі, якія прытаіліся ў тых шчылінах, дзе яшчэ аслаблена большэвіцкая пільнасць. Партыйныя арганізацыі павінны разумець гэту задачу не як чарговую кампанію, а як штодзенную крапатлівую работу, праводзіць яе без шуміхі, не дапускаючы самастрахоўкі і перагібаў.

* *
*

Чаму магло здарыцца так, што пасля праверкі і нават абмену партдакументаў мы да апошняга часу ўсё яшчэ выяўляем і выключаем трацкістаў?

Гэта можна вытлумачыць толькі адным—наша Менская партарганізацыя не вынесла для сябе ўсіх урокаў з вынікаў праверкі і абмену партдакументаў, не забяспечыла ўздыму партыйна-арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, не ўстанавіла штодзеннага кантролю за работай пярвічных арганізацый. Такі зусім правільны вывад зрабіла бюро ЦК КП(б)Б, аб чым належыць моцна памятаць кожнаму партыйнаму работніку менскай арганізацыі.

Няма чаго дзівіцца таму, што ў цэлым радзе партарганізацый маглі прытаіцца трацкісты і тварыць свае контррэволюцыйныя справы, калі партыйная работа там ішла самацёкам, а большэвіцкая пільнасць прытупілася.

Возьмем пытанне прапрацоўкі вынікаў праверкі і абмену партдакументаў.

Партарганізацыі Наркаммясцпрома, Наркамзема, Горсовета, Гістпарта, ДВБ, друкарні імя Сталіна, завода імя Кірава, завода імя Варашылава і цэлы рад іншых, абмяркоўваючы выключнай важнасці матар'ялы аб выніках праверкі і абмену партдакументаў, прымалі рашэнні або дзяляцкага парадку, або такія, якія не мабілізавалі комуністаў на павышэнне рэволюцыйнай пільнасці.

За прыкладамі недалёка хадзіць.

Партарганізацыя Менгорсовета вынесла 17 ліпеня на сваім сходзе па пытанню аб выніках праверкі і абмену партдакументаў такое рашэнне: «Ухваліць мерапрыемствы, прынятыя РК па далейшаму разгортванню партыйнай работы». Калі мы цяпер запыталі сакратара парткома тав. Сакольчыка аб тым, якія іменна мерапрыемствы былі ўхвалены гэтым сходам і пакладзены ў аснову партыйнай работы, то ні сам сакратар, ні іншыя комуністы не маглі нічога на гэта адказаць і нідзе не знайшлі аб гэтым запісаў.

Партарганізацыя Гістпарта прыняла такую пастанову: «Вывады РК партыі адобрыць і прапанаваць парткому на аснове гэтых вывадаў скласці план работы, які разгледзець на партсходзе». Але да гэтага дня ніхто не распрацаваў план і ніякага рашэння не вынесена.

Падобным чынам пастаўлена партыйная работа і ў Скуртрэсце. 17 мая агульны сход заслухаў даклад сакратара парткома аб становішчы партарганізацыі і падрыхтоўцы да абмену партдакументаў. Па дакладу прымаецца рашэнне: «Вывады аб рабоце партарганізацыі лічыць правільнымі і адобрыць. Даручыць парткому прапрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы з тым, каб у найкарацейшы перыяд часу іх заслухаць». У пратаколе сходу ад 21 чэрвеня пры абмеркаванні вынікаў абмену партдакументаў запісана: «Прапанаваць Шляпачніку прапрацаваць і скласці план далейшай работы». Аднак, на гэтым справа

скончылася. Ніякага плана, ніякіх рашэнняў, ніякіх мерапрыемстваў аб далейшай рабоце ў жыццё не праводзілася.

Такія-ж факты выяўлены і ў рабоце партарганізацыі друкарні імя Сталіна і раду іншых.

Характэрны выпадак меў месца ў арцелі «Дрэваапрацоўшчык». 14 красавіка, калі партарганізацыя абмяркоўвала рашэнне Снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), трацкіст Ківовіч (толькі цяпер выключаны з партыі) заявіў, што неабходна праверыць соцыяльнае мінулае аднаго з членаў партарганізацыі, рабочага, бо бацька яго з'яўляецца вартаўніком у сінагозе. Праявіўшаму «большэвіцкую пільнасць» трацкісту-двурушніку Ківовічу партарганізацыя даручае прапрацаваць рашэнне Снежаньскага пленума з комуністамі і беспартыйнымі яго цэха. У час прапрацоўкі гэтага рашэння Ківовіч стараўся даказаць рабочым, што «ва ўмовах арцелі не прадстаўляецца магчымым развіваць стаханаўскі рух». Не гледзячы на такое яўна антыпартыйнае, контррэволюцыйнае выступленне, партарганізацыя не толькі не выкрыла трацкісцкае сучаснае і мінулае Ківовіча, а, наадварот,—паставіла пытанне аб тым, каб зняць з яго партспагнанне за трацкізм. Пры праверцы выявілася, што партарганізацыя арцелі не кіравала стаханаўскім рухам, не ўзначаліла масы на яго разгортванне, сарвала палітвучобу .комуністаў, разваліла ўсю партработу.

Рашэнні гаркома, райкома і сваіх партсходаў многія партарганізацыі не праводзяць у жыццё.

Сакратарыят гаркома 7 чэрвеня вынес спецыяльную пастанову аб становішчы палітагітацыі на заводзе імя Молатава. Партарганізацыя завода не знайшла часу абмеркаваць гэта рашэнне на партыйным сходзе, таксама не абмеркавала і другое рашэнне гаркома ад 19 чэрвеня аб рабоце партгабінета.

Выяўленыя факты засмечанасці паасобных партарганізацый, дрэнная пастаноўка ўнутрыпартыйнай работы, невыкананне рашэнняў вышэйстаячых парторганаў, прытупленне і страта большэвіцкай пільнасці—усё гэта гаворыць аб тым, што паасобныя кіраўнікі партарганізацый, якія маюць ужо вялікі вопыт, бо прашлі школу праверкі і абмену партдакументаў, дагэтуль не зрабілі большэвіцкіх захадаў для палепшання якасці партыйнай работы.

Паколькі гэтыя факты выяўлены ўжо пасля таго, як былі створаны райкомы партыі, калі кіраўніцтва павінна было стаць больш жывым і канкрэтным, трэба заключыць, што гарком і райкомы ўсё яшчэ не перабудавалі сваёй работы так, як гэтага патрабуе ЦК партыі.

У бліжэйшы час мы павінны будзем вырашыць цэлы рад пытанняў, звязаных з партыйнай работай. Выхаванне партыйных кадраў, палітычная агітацыя, работа са спачуваючымі, падрыхтоўка да прыёму ў партыю—усе гэтыя пытанні неабходна шырока разгарнуць ва ўсіх пярвічных партарганізацыях.

Многія партарганізацыі ўпусцілі з-пад увагі пытанні палітычнага выхавання комсамола, і гэта асабліва востра адчуваецца зараз у сувязі з выкрыццём раду трацкісцкіх спраў.

Толькі ў апошнія дні мы крыху заняліся гэтай справай: склікалі нараду сакратароў комсамольскіх камітэтаў горада, прапанавалі сакратарам раённых камітэтаў партыі выступіць на гэтых нарадах, расказаць аб трацкісцкіх справах, завастрыць большэвіцкую пільнасць

камсамольцаў на выкрыццё трацкісцкіх паследышаў і паставіць пытанне камсамольскай работы больш канкрэтна.

Аб адсутнасці партыйнага кіраўніцтва комсамолам сведчыць цэлы рад трацкісцкіх спраў, у якіх замешана і моладзь. У Белпедтэхнікуме, Наркамюсце, друкарні імя Сталіна, на заводзе імя Кірава, імя Варашылава—на цэлым радзе прадпрыемстваў сярод моладзі выкрыты трацкісцка-зіноўеўскія паследышы.

Не гледзячы на тое, што наша менская партарганізацыя правяла выключна важныя палітычныя мерапрыемствы, мы яшчэ да канца не дакапаліся, не выкарчавалі контррэволюцыйных трацкісцкіх элементаў. У бліжэйшы час нам прыдзецца правесці вялікую работу, каб выявіць і вытрахнуць са сваіх радоў усю гэтую гніль.

Сутнасць рашэння ЦК партыі аб партарганізацыі «Звязды» недастаткова ўясніў сабе цэлы рад партарганізацый, у тым ліку і паасобныя работнікі гаркома і райкомаў партыі не зрабілі для сябе адпаведных палітычных вывадаў.

Бюро ЦК адзначыла, што цэлы рад партарганізацый недастаткова ўзяў у свае рукі справу партыйна-арганізацыйнай работы, павышэння палітычнай актыўнасці сваіх членаў. Адсюль мы абавязаны зрабіць такі вывад, што для нас важнейшай задачай зараз з'яўляецца ўзняць на выключную вышыню палітычную актыўнасць, завастрыць большэвіцкую пільнасць, каб да канца выкарчаваць тыя рэшткі контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай гнілі, якія яшчэ захаваліся ў паасобных партарганізацыях гор. Менска і стварыць такія большэвіцкія баявыя арганізацыі, якія па сваёй рабоце адпавядалі-б сучаснаму палітычнаму перыяду, тым палітычным патрабаванням, якія прад'яўляюцца нам ЦК нашай партыі і нашым вялікім правадыром—таварышом Сталіным.

---

**Н. Літвін**

**Сакратар сталінскага РК КП(б)Б г. Менска**

# Быць пільным—гэта перш за ўсё ўмець выявіць класавага ворага

24 жніўня закончыўся працэс над трацкісцка-зіноўеўскай бандай забойцаў. Пяць дзён слухала Ваенная калегія Вярхоўнага суда справу гэтых заклятых ворагаў народу, увасобіўшых найгоршыя парокі, якія толькі ведае гісторыя чалавецтва. Паклёп, двурушніцтва, правакацыя, тэрор, стрэл з-за вугла, шпіянаж, утончаная мана, здрада—вось далёка няпоўны спіс злачынстваў Троцкага, Зіноўева, Каменева і іх прыспешнікаў. Гэта зграя бандытаў дайшла ў сваёй «рабоце» нават да знішчэння ўласных агентаў, зацміўшы гэтым самых цяжкіх крымінальных злачынцаў.

У імя чаго гэтыя зладзеі, гэта банда забойцаў рабіла свае злачынствы, чаго дамагалася яна? Толькі аднаго—прарвацца да ўлады. Ніякіх ідэй не было ў гэтай азвярэлай зграі, акрамя шалёнай злобы да совецкага народу, які паспяхова будуе соцыялізм, акрамя жывёльнай нянавісці да творцы шчаслівага жыцця—таварыша Сталіна.

Для дасягнення сваёй мэты подлыя бандыты не грэбавалі ніякімі сродкамі. Па трупах кіраўнікоў нашай партыі і совецкай дзяржавы рыхтаваліся яны прайсці да ўлады. Забіўшы нашага дарагога Сергея Міронавіча Кірава, гэтыя падонкі чалавецтва рыхтавалі новы ўдар нашай соцыялістычнай радзіме.

Трацкісцка-зіноўеўская сволач заключыла саюз з нямецкай фашысцкай ахранкай—гестапо, стала наймітам фашызма, каб падрыхтаваць ваеннае паражэнне Совецкага Саюза. Главар гэтай банды Троцкі патрабаваў ад сваіх прыспешнікаў арганізоўваць ваенныя змовы і паўстанні, дапамагаць капіталістычным арміям, калі яны нападуць на Совецкі Саюз і ўварвуцца на нашу тэрыторыю.

Асепленыя фашысцкай ярасцю і нянавісцю да нашай партыі і яе правадыроў, да ўсяго совецкага народу, гэтыя прахвосты не бачылі велізарнай магутнасці краіны соцыялізма і яе Чырвонай арміі, не бачылі таго, што ёй не страшны ніякія ворагі. Яны зусім упусцілі з-пад увагі выключную зоркасць і пільнасць вернага вартавога заваёў соцыялізма—нашых слаўных чэкістаў, якія пад кіраўніцтвам тав. Ягоды выкрылі ўсю дзейнасць фашысцкай трацкісцка-зіноўеўскай банды і паставілі яе перад пролетарскім судом.

У дні працэсу ўвесь совецкі народ вуснамі дзесяткаў мільёнаў людзей, у тым ліку і працоўных нашага Сталінскага раёна, запатрабаваў расстрэлу ўсіх удзельнікаў трацкісцка-зіноўеўскай банды, рыхтаваў-

шых забойства генія чалавецтва, творцы соцыялізма—таварыша Сталіна. З велізарным задавальненнем сустрэлі мільённыя масы працоўных нашай квітнеючай радзімы прыгавор Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР аб расстрэле 16 шалёных псоў фашызма і аб выкананні гэтага прыгавора.

Працэс, зразумела, выклікаў ярасць ворагаў соцыялізма і асабліва нямецкіх фашыстаў. Калі яны даведаліся, што іх верныя саюзнікі і агенты з трацкісцка-зіноўеўскай банды прадсталі перад пролетарскім судом, яны знайшлі для іх адвакатаў. Гэту місію ўзялі на сябе главары II Інтэрнацыянала ў асобе дэ-Брукера, Адлера, Сітрына і Шэвенельса. Совецкі народ і пролетарыят усяго свету закляймілі ганьбай фашысцкіх адвакатаў. Наш пролетарскі паэт Дзем'ян Бедны на старонках «Правды» даў дастойную адповедзь адвакатам міжнароднай контррэволюцыі і фашызма, добра выразіў адносіны совецкага народу да наглай вылазкі главароў II Інтэрнацыянала.

У дні працэсу ўвесь совецкі народ з выключнаю сілай паказаў, што ў сэрцы кожнага працоўнага Совецкай краіны—два пачуцці: найглыбейшай нянавісці і пагарды да заклятых ворагаў народу, бязмежнай і палкай любві да сваёй партыі, да Цэнтральнага Камітэта і вялікага правадыра народаў—таварыша Сталіна.

* * *

Трэба памятаць, што не ўсе ворагі і ўдзельнікі тэрарыстычнай банды выяўлены і выкрыты. На судовым працэсе выявілася, што ад іх цягнуцца ніці да рэштак іншых контррэволюцыйных груп, у свой час выкрытых і разгромленых партыяй. За граніцай яшчэ жыве главар банды і закляты вораг соцыялізма Троцкі, які будзе старацца перакінуць на нашу тэрыторыю сваіх новых агентаў—тэрарыстаў, дыверсантаў, шпіёнаў, правакатараў.

Выкрыццё заядлых ворагаў соцыялізма ў радах КП(б)Б таксама сведчыць аб тым, што яшчэ не ўсе бандыцкія гнёзды знішчаны. З гэтых фактаў мы павінны зрабіць сур'ёзныя палітычныя вывады. Праяўляць выключную большэвіцкую пільнасць на ўсіх участках работы, насцярожана глядзець вакол сябе, каб да канца выявіць двурушнікаў, заклятых ворагаў партыі.

Асабліва гэта датычыць нашай менскай партарганізацыі, якая працуе амаль ля самай граніцы з капіталістычным Захадам. У нашых умовах прытупленне рэволюцыйнай пільнасці вядзе к таму, што ворагам народу ўдаецца пераклікацца са шпіёнамі, дыверсантамі і правакатарамі з-за мяжы. У нашай партарганізацыі не мала таму прыкладаў.

Закляты вораг партыі трацкіст Розенблюм доўгі час сядзеў і тварыў свае контррэволюцыйныя справы ў рэдакцыі газеты «Звязда». Гэты стаўленік трацкісцка-зіноўеўскай банды трымаў непасрэдную сувязь з адным з расстраляных пасланцоў Троцкага. Яшчэ ў 1929 г. Розенблюм у напісанай ім «Гісторыі КСМБ» працягваў яўна трацкісцка-бундаўскую тэорыю. Партыйная арганізацыя рэдакцыі «Звязды» і райком партыі, не гледзячы на рад сігналаў, не выкрылі гэтага двурушніка-контррэволюцыянера. Наадварот, з-за поўнага прытуплення пільнасці ў рэдакцыі ён лічыўся першым чалавекам і па ім прапанавалі раўняцца астатнім.

Здавалася-б, што пасля гэтага сур'ёзнага ўрока партыйная арганізацыя «Звязды» павінна была мабілізаваць увесь калектыў рэдакцыі

на павышэнне рэволюцыйнай пільнасці і выкрыццё паплечнікаў контр-рэволюцыянера Розенблюма. Аднак яна гэтага не зрабіла, палічыўшы, што раз вораг выкрыт і выгнан з радоў партыі, то ўжо ўсё зроблена. Тым часам пасля рашэння бюро ЦК КП(б)Б аб партарганізацыі «Звязды» тут былі выяўлены такія людзі, як цесна звязаны з трацкістамі Петухоўскі, аб дзейнасці якога ведалі многія таварышы, але маўчалі. Петухоўскі на пытанні, заданыя яму ў раённым камітэце партыі, не знайшоў нічога іншага сказаць, як толькі тое, што, моў, у час абмену партыйных дакументаў «вы шукалі ў маім твары паляка, а калі вам не ўдалося гэта, дык вы рашылі прад'явіць мне іншыя абвінавачанні». Вось якія яўна фашысцкія, нацыянал-шавіністычныя выпады робіць класавы вораг у адносінах партыйнай арганізацыі, калі яна выяўляе яго контррэволюцыйную сувязь з трацкістамі. Яны знаходзілі сабе прытулак у рэдакцыі «Звязды» толькі таму, што ўся сістэма работы яе партарганізацыі была пабудавана на сямейнасці, субутыльніцтве, падхалімажы, пры адсутнасці ўсякай крытыкі і самакрытыкі. Зразумела, што ў такой абстаноўцы людзі не хацелі і не маглі разглядзець твар ворагаў і двурушнікаў.

Што зрабіў райком партыі для аздараўлення работы партарганізацыі «Звязды»? Трэба прама сказаць, што мы недаацанілі палітычнага значэння гэтай арганізацыі нават пасля ўказання тав. Гікало на чэрвеньскім пленуме ЦК КП(б)Б аб неабходнасці ёю заняцца. Запатрабавалася спецыяльнае ўмяшанне Цэнтральнага Камітэта і асабіста тав. Гікало для таго, каб павярнуць райком партыі тварам да партарганізацыі «Звязды». Толькі пры дапамозе ЦК былі выкрыты і Петухоўскі і Каган, а затым і Малікін—правы апартуніст, які добра ведаў аб усіх варожых дзеяннях у рэдакцыі, але маўчаў. У час праверкі партдакументаў выявілася, што Малікін, будучы ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б у Заслаўлі, калі выводзілі са складу ЦК правых апартуністаў Рыкава, Томскага і Бухарына, выступіў супроць іх вываду.

Выкрыццё і выключэнне гэтых ворагаў з радоў партыі ні ў якім разе не з'яўляецца заслугай нашага райкома. ЦК правільна адзначыў, што ў бюро сталінскага РК арганізацыйная работа адстае ад ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, што наша непаваротлівасць, неаперацыйнасць зніжае большэвіцкую пільнасць у адносінах да ворагаў партыі.

Факты апартуністычнай благадушнасці маюць месца і ў радзе іншых партарганізацый, дзе выяўлены контррэволюцыйныя трацкісцкія элементы.

Трацкісты Розенблюм і Ленцнер мелі сваіх людзей у партарганізацыі газеты «Рабочий». Там сядзеў гнілы ліберал Хейфец, які абараняў трацкіста Гінзбурга. Калі было пастаўлена пытанне аб выключэнні Гінзбурга з партыі, Хейфец спрабаваў звесці яго контррэволюцыйныя справы да звычайнай склокі. Гэта было ў час праверкі партдакументаў. Не выпадкова Хейфец абараняў трацкіста Гінзбурга, бо сам аказаўся прытаіўшымся і замаскаваўшымся двурушнікам. Зараз ён выкрыт як трацкісцкі двурушнік і выключан з радоў партыі. Справа аднак не абмежавалася адным толькі двурушнікам Хейфецам. У апошні час выявілася, што і сакратар парткома Казлоў асабіста ведаў аб трацкісцкай групе Гінзбурга і абараняў яго пры абмеркаванні пісьма аб злачынствах ... 

Лінію папушчэнства, абароны трацкіста Гінзбурга прадаўжаў сакратар парткома Шыфрын—таксама гнілы ліберал. Гніла-ліберальныя адносіны прадаўжаліся і пасля студзеньскай пастановы ЦК КП(б)Б аб

партарганізацыі «Рабочий». Сакратар парткома Фішбейн і змяніўшая яго Булкô не зрабілі ніякага пералому ў партыйнай рабоце і нават зусім ад яе ўхіліліся. Тым часам зноў быў выяўлен рад такіх ворагаў як Клейнер — былы бундавец, звязаны з Розенблюмам і яго трацкісцкай дзейнасцю ў 1929 г., Эйнцін—сваяк Розенблюма і інш. Скарыстоўваючы мяшчанскія, абывацельскія гнілаліберальныя адносіны камуністаў, прытупленне рэволюцыйнай пільнасці, яны сядзелі ў партарганізацыі, пакуль ЦК КП(б)Б не заняўся гэтай справай.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, як дрэнна мы працуем на ўчастку большэвіцкага друку—гэтай найвастрэйшай зброі партыі і пролетарыята, дзе патрэбна асаблівая пільнасць і ўвага.

У Акадэміі навук—не лепшае становішча. Цэлы рад спраў яшчэ знаходзіцца ў стадыі расследвання, але аб некаторых ужо можна сказаць. Узяць, напрыклад, Шчэрбакова. Гэты неадменны сакратар Акадэміі ў час абмену партдакументаў утаіў, што ён быў актыўным трацкістам у Чэрнігаве. Нам ужо ўдалося ўстанавіць цэлы рад фактаў антыпартыйнай дзейнасці гэтага, з даззолу кажучы, члена партыі.

У партарганізацыі ВКСГШБ таксама да апошняга часу ўкрываліся трацкісты. На чале яе стаяў былы трацкіст Каўлін, які змыкаўся з выключанымі з партыі трацкістамі, быў рупарам іх. З гэтай партарганізацыі ў час праверкі і абмену партдакументаў было выгнана каля 80 класава-варожых і чуждых элементаў.

У Радыёкамітэце на чале партарганізацыі стаяў трацкіст Аракелаў, які, акрамя таго, вёў прапагандысцкую работу. У мінулым годзе на пытанне членаў партыі, якой пазіцыі трымаўся Троцкі ў 1927 г., Аракелаў адказаў, што Троцкі стаяў на партыйнай пазіцыі, хоць добра ведаў, што Троцкі ніколі на партыйнай пазіцыі не стаяў. Аракелаў з партыі выключан. Але гэтага мала. Нам трэба як след праверыць усю партарганізацыю Радыёкамітэта: ці не засталіся там саратнікі трацкіста Аракелава.

Прыведзеныя прыклады гавораць, што мы вельмі дрэнна кіруем якраз тымі арганізацыямі, якія працуюць на ідэалагічным фронце. Наша бліжэйшая задача— звярнуць на іх асабліва сур'ёзную ўвагу.

Трэба мець на ўвазе, што ў БССР у мінулым было многа ўсякіх контррэволюцыйных арганізацый—бундаўцы, эсэры, меншавікі, правыя апартуністы, нацдэмы і т. п., рэшткі якіх блакуюцца з трацкісцкімі і іншымі класава-варожымі элементамі. Для выкрыцця іх неабходна мабілізаваць пільнасць партыйных арганізацый, завастрыць ярасць мас, каб кожны партыйны і беспартыйны большэвік не на словах, а на справе, быў здольным распазнаваць і выкрыць замаскаваных ворагаў партыі і совецкага народу.

Асабліва сур'ёзную ўвагу трэба звярнуць на вывучэнне гісторыі нашай партыі, бо без гэтых ведаў камуністы не здольны будуць своечасова распазнаваць прытаіўшыхся ворагаў і двурушнікаў.

Таксама неабходна добра ведаць і гісторыю сваёй партарганізацыі. У нас цяпер мала хто цікавіцца ёю, думаючы, што гэтым не варта займацца. Нельга забываць, што мы зараз перажываем момант выключнага абвострання класавай барацьбы. Многія гэтага не разумеюць, захапляюцца поспехамі, ганарацца імі, забываючы аб тым, што чым магутней становіцца наша краіна, тым больш звярэюць нашы ворагі, стараючыся ўсякімі спосабамі пакасціць і шкодзіць совецкай дзяржаве.

Рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца асноўнай якасцю большэвіка. Каб навучыцца распазнаваць ворагаў, трэба ведаць і разумець іх так-

тыку, метады, формы барацьбы і маскіроўкі супроць партыі і совецкай улады на даным этапе.

Таварыш Сталін у адным са сваіх выказванняў аб класавай барацьбе гаварыў, што кулака многія ўяўляюць па-старому—абавязкова з тоўстым брухам, з вялікімі зубамі і з абрэзам у руцэ. Некаторыя ў нас яшчэ думаюць, што і цяперашняга ворага можна проста і адкрыта бачыць. Хіба можна лічыць дасягненнем комуніста, калі ён убачыць незамаскаванага ворага і выкрые яго? Такога ворага выкрые кожны беспартыйны чэсны грамадзянін Совецкага Саюза. Для гэтага зусім не трэба быць комуністам.

Цяпер ворагі партыі і соцыялізма не выступаюць адкрыта. Вораг вельмі часта прыкідваецца заўзятым абаронцам генеральнай лініі партыі, староннікам соцыялізма, на словах выступае за лінію партыі, праяўляе паказную актыўнасць, каб прыкрыць свой контррэволюцыйны твар і дзейнасць, часта падхалімнічае, поўзае вужакай, каб паказаць сваю «адданасць». Дабіўшыся давер'я, ён гатоў у любую мінуту скарыстаць прытупленне нашай пільнасці і напасці на тое, што нам асабліва каштоўна, асабліва дорага—на любімых нашых кіраўнікоў партыі і совецкай дзяржавы.

Каб умець раскусіць ворага, мала гаварыць і прымаць рэзалюцыі. Трэба быць моцна ўзброеным тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, глыбока ведаць гісторыю партыі. Без павышэння палітычна-тэарэтычнага ўзроўню мы не зможам забяспечыць таго, што кожны комуніст здолее на любым участку работы распазнаць і выкрыць замаскаваўшыхся ворагаў, двурушнікаў усіх масцей і колераў.

Кожны большэвік павінен у сваім сэрцы насіць і заўжды памятаць залатыя словы таварыша Сталіна: ...«не ўбаюкваць трэба партыю,—а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе,—а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць,—а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі».

Справа не ў тым, каб сказаць пару прыгожых слоў аб пільнасці, а ў тым, каб ажыццяўляць яе на кожным кроку практычнай работы. Быць пільным—гэта перш за ўсё ўмець распазнаваць ворага, адчуваць яго наймалейшае імкненне супроць партыі і соцыялістычнага будаўніцтва. На-жаль, у нас яшчэ не мала людзей з партыйным білетам, якія толькі балбочуць аб пільнасці, разумеючы яе, як нешта абстрактнае. Яны ўмеюць прадэкламаваць сваю вернасць пільнасці і адначасова нічога не зрабіць для ажыццяўлення сталінскіх указанняў у сваёй арганізацыі. Ёсць такія людзі і ў партарганізацыі нашага Сталінскага раёна.

Быць пільным—значыць так паставіць масавую палітычна-выхаваўчую работу, каб ні адзін прахвост не здолеў знайсці шчыліну, у якой ён мог-бы ўтаіцца ад партыі. Нельга абмяжоўваць палітмасавую работу, як гэта робяць многія партарганізацыі, толькі правядзеннем мітынгаў. Масавую палітычна-выхаваўчую работу трэба весці не толькі сярод комуністаў і комсамольцаў, але і сярод усіх працоўных нашай краіны, каб узняць іх рэволюцыйную пільнасць і нянавісць да ўсіх ворагаў партыі і совецкай улады.

Павышэнне рэволюцыйнай пільнасці самым цесным чынам звязана з разгортваннем большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. Суровая большэвіцкая крытыка і самакрытыка, накіраваная супроць гнілога лібералізма, беспрынцыпнасці, сямейнасці, субутыльніцтва, дапамагае кожнай партарганізацыі лепш бачыць свае недахопы, выяўляць і выкрываць усіх ворагаў і здраднікаў нашай радзімы.

Добрая пастаноўка партыйнай вучобы ва многім залежыць ад прапагандыста. Тым часам кіруем мы прапагандыстамі дрэнна, як след не праверылі і не падабралі людзей на гэты адказнейшы ўчастак. Гэта тым больш ганебна для нашай партарганізацыі, якая працуе ў сталіцы і мае ўсе ўмовы і магчымасці падабраць кадры большэвіцкі вытрыманых прапагандыстаў, добра наладзіць кансультацыю. Усім партарганізацыям трэба паклапаціцца аб тым, каб паставіць гэту работу на высокі ўзровень.

Кожны комуніст павінен адчуваць, што няма большага шчасця, чым жыць і працаваць ў эпоху соцыялізма, быць дастойным сынам эпохі вялікага Сталіна. Імя Сталіна жыве ў сэрцах дзесяткаў мільёнаў працоўных, як самае дарагое і любімае, як сцяг і сімвал шчаслівага сёння і яшчэ больш прыгожага заўтра краіны соцыялізма.

У дні працэсу з асаблівою сілай мы бачылі праяўленне гэтай згуртаванасці совецкага народу вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол совецкага ўрада, вакол вялікага і любімейшага правадыра таварыша Сталіна, якому народ даў імя—сонца соцыялізма. Сталін у мястомнай барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам прывёў 170-мільённы народ да радаснага і шчаслівага жыцця.

Іменна таму агіднейшыя фашысцкія вырадкі ставілі асноўнай сваёй задачай забіць Сталіна, каб забіць соцыялізм. Не ўдалося і не ўдасца гэта фашысцкім правакатарам. Жывой сцяной любві і адданасці акружае таварыша Сталіна ўвесь совецкі народ, народ палкіх патрыётаў, народ смеласці і адвагі, энтузіязма працы і абароны.

Соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян будзе бязлітасна знішчаць усякага, хто асмеліцца стаць ей упоперак дарогі. Рашуча і бязлітасна ачысцім мы ад трацкісцка-фашысцкай погані выдатную зямлю нашай вялікай радзімы, над якою ярка свеціць сонца соцыялізма, сонца Леніна—Сталіна.

**І. Лейзер**

**Сакратар Парткалегіі КПК Беларусі**

# Работа Парткалегіі пасля рашэння III Пленума КПК

Адзначаныя III пленумам КПК недахопы ў рабоце парткалегій мелі месца і ў практыцы нашай работы.

Улічваючы гэта, парткалегія КПК Беларусі паставіла перад сабою задачу—у найкарацейшы тэрмін перабудаваць сваю работу. План быў складзены з улікам трох асноўных момантаў: забяспечыць найбольш хуткі разгляд спраў; штодзенна наглядаць за тым, як выконваецца статут партыі; своечасова папярэджваць памылковую практыку паасобных партарганізацый і бюракратычныя скажэнні ў рабоце партыйнага апарата. У адпаведнасці з пастаўленымі задачамі былі канкрэтна размеркаваны абавязкі паміж усімі членамі і работнікамі парткалегіі. У прыватнасці, вядзенне спраў і даклад іх на парткалегіі быў ускладзен на штатных следчых, а пазаштатныя прыцягваліся толькі для таго, каб дапамагчы штатным у высвятленні паасобных момантаў у справах і для выканання некаторых даручэнняў сакратара і членаў ПК.

За перыяд з 1 красавіка па 1 чэрвеня г. г. парткалегія разглядзела 340 спраў: у парадку апеляцый на рашэнні ГК і РК—92; у парадку непасрэднага прыцягнення парткалегіяй камуністаў да партадказнасці—9; у парадку хадайніцтва аб зняцці атрыманых раней партспагнанняў, аб аднаўленні партстажа і т. д.—220; здана ў архіў у сувязі з няяўкай на неаднаразовыя выклікі ў парткалегію—19.

Такім чынам, у параўнанні з папярэднім кварталам, значна зменшылася колькасць апеляцый і разам з тым вырасла колькасць хадайніцтваў аб зняцці накладзеных раней партспагнанняў. Тлумачыцца гэта тым, што выключэнне з партыі ў раёнах праводзілася пераважна ў парадку праверкі або абмену партдакументаў і апеляцыі на іх парткалегія не разглядала, павелічэнне-ж хадайніцтваў аб зняцці старых партспагнанняў адбылося ў сувязі з абменам партдакументаў. Парткалегія разбірала і знімала накладзеныя раней партспагнанні персанальна толькі тады, калі аб гэтым хадайнічала пярвічная партарганізацыя і яе падтрымліваў у гэтым райком або гарком партыі.

У рашэнні III пленума КПК гаворыцца, што «парткалегіі павінны

забяспечыць, каб кожная апеляцыя, паданая членам і кандыдатам партыі, была разабрана не пазней, як у 15-дзенны тэрмін з дня яе паступлення ў парткалегію».

Як мы выканалі гэта ўказанне пленума КПК?

Калі ў красавіку ў 15-дзенны тэрмін было разгледжана толькі 73,3 проц. усіх паступіўшых апеляцый, да месяца—16,7 проц. і ў тэрмін звыш месяца—10 проц., то ўжо ў чэрвені за 15 дзён разгледжана апеляцый 87,5 проц., да месяца—8,3 проц. і звыш месяца—4,2 проц. Разгледжана хадайніцтваў аб зняцці спагнанняў: у красавіку за 15 дзён усяго 48 проц. паступіўшых за месяц, а ў чэрвені ўжо 82,5 проц. Працант зацяжкі разгляду да месяца ў чэрвені знізіўся да 8,3 замест 16,7 у красавіку, а звыш месяца—да 4,5 замест 17 у красавіку.

Дынаміка паслядоўнага росту з месяца ў месяц працанта разгледжаных ў тэрмін спраў гаворыць за тое, што парткалегія ў чэрвені ўжо ўшчыльную падышла да выканання рашэння III пленума КПК. Калі-ж улічыць, што большасць пратэрмінаваных спраў не магла быць разгледжана ў тэрмін з-за няяўкі апеляваўшых, то працант гатоўнасці спраў да разгляду ў тэрмін узрасце яшчэ больш. Так, у красавіку было гатова да разгляду: апеляцый 96,6 проц., хадайніцтваў 91,6 проц., у маі адпаведна—98,4 і 95,5, у чэрвені—100 і 97,7. Гэта гаворыць ужо аб тым, што парткалегія ў бліжэйшы час даб'ецца разгляду ўсіх спраў ва ўстаноўлены 15-дзенны тэрмін. Трэба сказаць, што парушэнне тэрмінаў усё яшчэ звязана з неабходнасцю дадатковага расследвання, чакання да канца следства і т. д.

Не малое значэнне пры гэтым мае таксама тая акалічнасць, наколькі своечасова і дастаткова афармленымі высылаюць справы гаркомы і райкомы. Праведзеная парткалегіяй выбарачная праверка ў чэрвені паказала, што сакратары раду райкомаў і гаркомаў пры разборы партспраў прадаўжаюць паўтараць старыя памылкі, дрэнна кіруюць пярвічнымі партарганізацыямі. Характэрным для іх з'яўляецца абмеркаванне спраў аб партучынках комуністаў толькі на паседжанні парткомаў і разам з тым ігнараванне, змазванне ролі агульнага сходу—аднаго з найбольш дзейсных метадаў выхавання. Справы разбіраюцца без дэтальнага расследвання правільнасці прад'яўленых комуністам абвінавачванняў, адсюль бываюць выпадкі неабгрунтаванага выключэння з радоў партыі чэсных комуністаў. Зусім нецярпіма неахайнае афармленне спраў і пратаколаў, што можа пацягнуць за сабою няправільнае аднаўленне ў партыі, асабліва калі ўлічыць, што прадстаўнікі гаркомаў і райкомаў часта лічаць магчымым не з'яўляцца на паседжанні парткалегіі, не гледзячы на паўторны выклік.

Недапушчальныя адносіны праяўляюць сакратары райкомаў і да высылкі спраў на патрабаванне парткалегіі. Аб несвоечасовай высылцы спраў сакратарамі Гомельскага, Віцебскага, Полацкага, Шклоўскага, Брагінскага і Рэчыцкага гаркомаў і райкомаў ставілася пытанне на ПК.

* * *

Апеляцыі ў парткалегію на рашэнні гаркомаў і райкомаў за красавік—чэрвень паступілі ад 28 рабочых, 38 сялян і 26 служачых; хадайніцтвы аб зняцці партспагнанняў—ад 102 рабочых, 55 сялян і 63 служачых.

З наступнай табліцы відаць род заняткаў і партстаж апеляваўшых і падаўшых хадайніцтвы аб зняцці партспагнанняў.

| | Колькасць падаўшых апеляцыі | % % | Колькасць падаўшых хадайніцтвы | % % |
|---|---|---|---|---|
| Рабочыя I II катэг. . . . . . | 9 | 9,8 | 5 | 2,2 |
| Калгаснікі . . . . . . . . | 7 | 7,6 | 8 | 3,6 |
| Кіруючыя работнікі сельсов. . . | 12 | 13,0 | 8 | 3,6 |
| „ „ раёнаў . . | 8 | 8,7 | 54 | 24,6 |
| „ „ цэнт. орг. . . | — | — | 22 | 10,0 |
| Іншыя служачыя . . . . . . | 56 | 60,9 | 123 | 56,0 |
| Разам . . . | 92 | 100 | 220 | 100 |
| Па партстажу: | | | | |
| Да кастрычніка 1917 г. . . . . | — | — | 7 | 3,2 |
| З X 1917 г. па 1920 г. . . . . . | 10 | 10,8 | 61 | 27,7 |
| З 1921 г. па 1924 г. . . . . . | 4 | 4,4 | 20 | 9,0 |
| З 1925 г. па 1929 г. . . . . . | 38 | 41,3 | 94 | 42,7 |
| З 1930 г. па 1932 г. . . . . . | 23 | 25,0 | 34 | 15,5 |
| Кандыдаты . . . . . . . . | 17 | 18,5 | 4 | 1,9 |
| Разам . . . | 92 | 100 | 220 | 100 |

Такім чынам мы бачым, што найбольшую групу апеляваўшых складаюць сяляне, а хадайнічаўшых аб зняцці старых партспагнанняў—рабочыя; па роду-ж заняткаў у момант узнікнення справы найбольшы процант як па апеляцыях, так і хадайніцтвах прыпадае на служачых. У адносінах партстажа ў абодвух выпадках пераважаюць асобы, якія ўступілі ў партыю ў перыяд з 1925 па 1929 год.

З агульнай колькасці апеляцый найбольш значнае месца (25 проц.) па характару партучынкаў займаюць справы аб двурушніцтве, падтрыманні і раздзяленні поглядаў контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх і іншых чуждых элементаў і нерэагаванне на іх. Адсюль відаць, што ў радзе арганізацый КП(б)Б у час праверкі партдакументаў не былі выяўлены класава-чуждыя і трацкісцка-зіноўеўскія контррэвалюцыйныя элементы.

Гэта пацвярджаецца выяўленымі за апошні час справамі: у парторганізацыі рэдакцыі газеты «Звязда»—контррэвалюцыянера-трацкіста Розенблюма, у партарганізацыі Белдзяржвыдавецтва—трацкістаў-контррэвалюцыянераў Жукава, Мілова і інш., у партарганізацыі Белрадыёкамітэта—трацкіста Аракелава і т. д. Выкрыццё пасля праверкі

і абмену партдакументаў двурушнікаў і прамых ворагаў партыі і совецкай улады сведчыць аб адсутнасці большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці ў радзе партарганізацый горада і раёнаў, што спрыяла ворагам шляхам ашуканства праскочыць праверку і атрымаць новыя партбілеты.

Другое места па характару партучынкаў (20,6 проц.) займаюць: п'янства, парушэнне комуністычнай этыкі і бытавое разлажэнне. Следам за гэтай групай ідзе парушэнне партыйнай і працоўнай дысцыпліны, неахайнае хаванне партдакументаў (19,5 проц.) і пасадныя злачынствы (14,2 проц.).

Гэтыя даныя паказваюць, што ў радзе выпадкаў яшчэ слаба пастаўлена палітыка-выхаваўчая работа сярод комуністаў, што партыйныя арганізацыі мала ўвагі ўдзяляюць выхаванню членаў партыі ў духу большэвіцкай дысцыплінаванасці, як гэтага патрабуе статут нашай партыі.

Адною з найбольш характэрных спраў, разгледжаных парткалегіяй за красавік—чэрвень, з'яўляецца справа Піліпенкі А. В.

8/V—33 г. раённая камісія па чыстцы Суражскай партарганізацыі вынесла рашэнне аб пераводзе Піліпенкі за палітняграматнасць, ненаведванне партзаняткаў і правал работы райашчадкасы з членаў партыі ў спачуваючыя. Пасля гэтага рашэння Піліпенка лічыць сябе кандыдатам партыі і 15/III—34 г. апелюе ў рэспубліканскую камісію па чыстцы аб няправільным пераводзе яго ў кандыдаты. Паколькі на трохразовы выклік у рэспубліканскую камісію Піліпенка не з'явіўся, справа яго не разбіралася.

Суражскі райком партыі, не маючы пацвярджаючага рашэння аб пераводзе Піліпенкі ў кандыдаты, бярэ яго на ўлік як кандыдата, прымацоўвае да партарганізацыі і прымае членскія ўзносы, хоць ён і не мае кандыдацкай карткі.

9/IX—34 г. бюро суражскага РК выключае Піліпенку з кандыдатаў партыі за скрыўленне класавай лініі ў рабоце Катоўскага сельсовета і парушэнне рэволюцыйнай законнасці. Піліпенка апелюе ў парткалегію, якая ўстанаўляе, што пастанова суражскай райкамісіі па чыстцы аб пераводзе яго ў спачуваючыя нікім не адменена і што райком няправільна прыняў яго на ўлік як кандыдата партыі. У дадатак выяўляецца, што Піліпенка—палітычна абсалютна няграматны чалавек і над сабой не працуе.

Парткалегія адмовіла Піліпенку ў разборы яго справы і ўказала сакратару суражскага РК тав. Чундэраву на несур'ёзныя, безадказныя адносіны да ўліку комуністаў у раёне.

* * *

Парткалегія пацвярджала рашэнні аб выключэнні з партыі часцей за ўсё ў адносінах крымінальных і класава-чуждых элементаў, двурушнікаў, трацкістаў-зіноўеўцаў, за страту партыйна-класавай пільнасці і сувязь з чуждым элементам. Больш нізкі процант пацверджанняў прыпадае на такія ўчынкі, як бяздзейнасць, пасадныя злачынствы, п'янства і парушэнне ком'этыкі. Тлумачыцца гэта тым, што горрайкомы па гэтых учынках прысылалі мала абгрунтаваныя рашэнні, якія пры дадатковай праверцы або прадстаўленні апеляваўшымі дакументаў абвяргаліся. Большасць таварышоў пасля рашэння пярвічных арганізацый аб выключэнні іх з партыі, рабілі з гэтага

неабходныя для сябе вывады і выпраўляла на практычнай рабоце дапушчаныя раней памылкі, таму не было неабходнасці накідаць для іх ранейшую меру пакарання.

Вынікі разгляду апеляцый па асобных відах партучынкаў відаць з наступнай табліцы:

| Партучынкі | Усяго падана апеляцый | З і х | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | пацвер-джана | % % | адменена | % % | зменена | % % |
| Парушэнне партыйнай, працоўн. дысцыпл. і неахайнае хаванне партдакументаў | 18 | 11 | 61,2 | 1 | | 6 | 33,3 |
| Двурушніцтва, падтрыманне к.-р. трацкісцка-зіноўеўск. груп і раздзял. іх поглядаў | 18 | 14 | 77,8 | 2 | | 2 | 11,1 |
| Бяздзейнасць і зрыў гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў | 7 | 3 | 42,8 | — | — | 4 | 57,2 |
| Пасадныя злачынствы | 13 | 6 | 46,1 | 2 | 15,4 | 5 | 38,5 |
| Страта партыйнай і класавай пільнасці і сувязь з чужд. элементам | 7 | 5 | 71,4 | 1 | 14,3 | 1 | 14,3 |
| П'янства, парушэнне ком'этыкі, бытавое разлажэнне | 19 | 9 | 47,4 | 2 | 10,5 | 8 | 42,1 |
| Парушэнне рэвалюцыйнай законнасці | 1 | 1 | 100,0 | — | — | — | — |
| Чужды элемент | 6 | 6 | 100,0 | — | — | — | — |
| Крымінальны элемент | 3 | 3 | 100,0 | — | — | — | — |
| Разам | 92 | 58 | 63,0 | 8 | 8,7 | 26 | 28,3 |

Падыход парткалегіі да паасобных соцыяльных груп пры разборы апеляцый характарызуецца наступнымі данымі: з 28 апеляцый рабочых: пацверджана 12 або 42,8 проц., адменена 5 або 17,8 проц., зменена 11 або 39,4 проц.; з 38 апеляцый сялян: пацверджана 25 або 65,7 проц., адменена 2 або 5,2 проц., зменена 11 або 29,1 проц.; з 26 апеляцый служачых: пацверджана 20 або 76,9 проц., адменена 1 або 3,8 проц., зменена 5 або 19,3 проц.

Такім чынам найменшы процант пацверджанняў прыпадае на групу рабочых, за імі ідзе група сялян і нерэшце служачых, на якую прыпадае найбольшы процант пацверджання рашэнняў ГК і РК.

* * *

Справы, разгледжаныя непасрэдна ў парткалегіі, узнікалі па заявах паасобных членаў партыі або працоўных, а таксама па сігналах друку. Прывядзем найбольш характэрныя прыклады.

Парткалегія атрымала заяву аб парушэнні рэвалюцыйнай законнасці і голым адмініструванні ў паасобных сельсоветах Брагінскага раёна. Пры праверцы было ўстаноўлена, што прыведзеныя факты адпавядаюць рэчаіснасці. У прыватнасці ўстаноўлена, што старшыня Маложынскага сельсовета член партыі Вінік і рад беспартыйных работнікаў у канцы 1935 г. дапусцілі грубае парушэнне рэвалюцыйнай

законнасці, здзекваліся над калгаснікамі і аднаасобнікамі, праводзячы ў іх незаконныя вобыскі і канфіскуючы маемасць нібы за тое, што яны не выканалі план здачы ільнапрадукцыі. На адабраную ільнапрадукцыю не складалі актаў, не выдавалі квіткоў, не плацілі грошай. Усе гэтыя «вобыскі і канфіскацыі» суправаджаліся ў паасобных выпадках прамымі здзекамі з ведама ўпаўнаважанага РК і РВК па сельсовету члена партыі Гальперына—сакратара Брагінскага РК ЛКСМБ.

У Глухаўскім сельсовеце на 57 проц. усіх гаспадарак быў накладзен штраф, тым часам як многія з іх поўнасцю выканалі свае абавязкі перад дзяржавай.

Райпракурор і старшыня РВК на скаргі калгаснікаў Маложынскага і Глухаўскага сельсоветаў не рэагавалі па некалькі месяцаў, не прымалі ніякіх мер для расследвання самаўпраўства і прыцягнення вінаватых да судовай адказнасці. Старшыня Маложынскага сельсовета Вінік быў нават вылучаны на работу ў якасці заг. райканторай «Заготжывёла». Пры разборы справы на месцы, у Брагіне, выяснілася, што Вінік—выхадзец з кулацка-гандлёвай сям'і і дэзерцір з Чырвонай арміі ў 1919-20 гг. За грубае парушэнне рэволюцыйнай законнасці і ўтойванне свайго мінулага Вінік з партыі выключан. У сувязі з адсутнасцю ў раёне іншых віноўнікаў па гэтай справе Брагінскаму райкому даручана разгледзець пытанне на бюро, паведаміўшы аб рашэнні ў парткалегію.

Жаўнеровіч Е. П.—1899 г. нараджэння, кандыдат КП(б)Б з 1933 г. (пераведзены па чыстцы), выключан з партыі чырвонаслабодскім РК за тое, што праязджаючы сумесна з леснікам Вольнічам уздоўж польскай граніцы ў п'яным выглядзе, падняў страляніну, у выніку чаго быў паранены. Жадаючы скрыць сапраўдную прычыну ранення, Жаўнеровіч і Вольніч паднялі трывогу ў пагранатрадзе, заявіўшы, што яны з'яўляюцца афярай дыверсантаў. Парткалегія пацвердзіла рашэнне чырвонаслабодскага РК аб выключэнні Жаўнеровіча з партыі.

Дэмбін Якаў Іосіфавіч—1893 г. нараджэння, член партыі з 1918 г., рабочы. У 1924 г. ад ЦК КП(б)Б атрымаў на від за п'янку; у 1927 г. ад аршанскай АКК атрымаў суровую вымову за склоку і ў тым-жа годзе за актыўную барацьбу супроць партыі выключан з яе радоў як трацкіст. У 1928 г. быў адноўлен ЦК КП(б)Б з абвяшчэннем суровай вымовы. За праваапартуністычны ўхіл у рабоце ў 1931 г. атрымаў суровую вымову ад ЦК КП(б)Б. У момант прыцягнення да партадказнасці працаваў заг. транспартам менскага гума.

8/V-35 г. Дэмбін выключан з партыі менскім гаркомам за тое, што, будучы ў Дубровенскай партарганізацыі ў 1927 г., прымыкаў да трацкісцкай апазіцыі, вёў актыўную барацьбу супроць партыі і галасаваў супроць рашэння ЦК ВКП(б) аб выключэнні з партыі Троцкага.

У час прапрацоўкі закрытага пісьма ЦК ВКП(б) не толькі не выкрыў сваю антыпартыйную барацьбу, а сваім выступленнем на сходзе партарганізацыі гума стараўся ідэалізаваць трацкізм, расцэньваючы Троцкага як правадыра партыі, адначасова лічачы сваю барацьбу супроць партыі як памылку і, акрамя таго, адмовіўся назваць удзельнікаў трацкісцкай групы ў Дуброўне.

Парткалегія пацвердзіла рашэнне менскага ГК КП(б)Б аб выключэнні Дэмбіна з партыі, як нераззброіўшагася трацкіста.

У чэрвені парткалегіяй разгледжана справа членаў партыі Малышава (дырэктара КІЖ БССР), Кароўнікава (адказнага кантралёра

Уп. КПК па БССР) і Лексіна (дырэктара Бешанковіцкай МТС). У ноч з 14 на 15 чэрвеня яны п'янствавалі ў адным з рэстаранаў г. Менска. Пасля таго, як рэстаран закрыўся, яны перашлі ў гасцініцу, дзе Малышаў займаў нумар, і прадаўжалі папойку. У час выпіўкі ў рэстаране, а потым і ў гасцініцы, паміж Малышавым і Лексіным на глебе ўспамінаў аб мінулай рабоце завязаліся спрэчкі, якія ўрэшце закончыліся дракай. Кароўнікаў—трэці ўдзельнік папойкі—увесь час заставаўся ў ролі пасіўнага гледача, а калі сварка набыла вострыя формы, зусім пашоў дадому.

Пры аглядзе пакоя Малышава пасля папойкі міліцыя знайшла некалькі блакнотаў са штампамі ЦК КП(б)Б і Менскага гаркома, якія, як заявіў Малышаў, ён не здаў пасля работы ў ЦК і ГК КП(б)Б. Разам з тым міліцыя падабрала ў пакоі і прадставіла ў парткалегію яшчэ рад дакументаў і запісаў Малышава, сярод якіх былі контррэволюцыйныя трацкісцкія цытаты. Пазней выявілася, што Малышаў, будучы дырэктарам КІЖ, пратаскваў контррэволюцыйную трацкісцкую тэорыю і распаўсюджваў сярод слухачоў контррэволюцыйную трацкісцкую літаратуру. Не выпадкова, відаць, ён хаваў і контррэволюцыйныя цытаты Троцкага.

Міжволі напрашваецца пытанне: што рабілі комуністы партарганізацыі КІЖ, якія, маючы сігналы аб пратаскванні Малышавым контррэволюцыйнай трацкісцкай тэорыі пры выкладанні гісторыі партыі, не толькі самі не выкрылі яго, але і не паведамілі аб гэтым гаркому партыі ў час праверкі партдакументаў, чым далі магчымасць трацкісту Малышаву застацца ў партыі і атрымаць новы партыйны білет. Партарганізацыя КІЖ, страціўшы рэволюцыйную пільнасць, прыкрыла ў сваіх радах трацкісцкага паследыша Малышава і некаторых іншых контррэволюцыянераў-трацкістаў, як Рубенчыка і Штэйнберга. Парткалегія выключыла Малышава з радоў партыі як контррэволюцыянера-трацкіста. Таксама выключаны з партыі Кароўнікаў і Лексін за дыскрэдытацыю сваім учынкам высокага звання комуністаў.

Гэты факт гаворыць аб тым, што пры ўважлівых адносінах да разбору спраў, пры ўмове неаслабнай большэвіцкай пільнасці часта на простым факце можна выявіць ворагаў партыі і совецкай улады.

Працэс над белагвардзейска-фашысцкай трацкісцка-зіноўеўскай бандай і выкрытыя факты засмечанасці паасобных арганізацый КП(б)Б контррэволюцыйна-трацкісцкімі элементамі (рэдакцыя газеты «Звязда», Белдзяржвыдавецтва, ВКСГШБ, Акадэмія Навук, партарганізацыі Віцебска, Бабруйска, Гомеля, Магілева і інш.) абавязвае кожнага комуніста падзесяцярыць сваю пільнасць.

Задача партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў—на аснове глыбокага вывучэння гісторыі партыі і матар'ялаў працэсу навучыць комуністаў выкрываць замаскаваных і прытаіўшыхся ворагаў партыі і совецкай улады.

Партарганізацыі павінны ўсямерна павышаць большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць на кожным кроку, на кожным участку работы, бязлітасна выкрываючы і выключаючы са сваіх радоў усіх ворагаў партыі і совецкай улады.

---

**К. Бэнэк**

Нарком землябробства БССР

# Стаханаўскімі тэмпамі рушым уперад сельскую гаспадарку БССР

*(Да гадавіны стаханаўскага руху)*

На кожным новым этапе свайго соцыялістычнага развіцця наша прыгожая, магутная радзіма адкрывае ўсё новыя, невычэрпныя рэзервы прадукцыйных сіл і творчай актыўнасці народных мас. Кожны поспех, кожны рух на адным этапе нараджае яшчэ больш яркія і рашаючыя перамогі на наступным этапе соцыялістычнага будаўніцтва. Новая перадавая тэхніка нашых соцыялістычных фабрык і заводаў парадзіла стаханаўскі рух, высунула новых рабочых і работніц, «якія поўнасцю аўладалі тэхнікай сваёй справы, асядлалі яе і пагналі ўперад» **(Сталін)**.

Стаханаўскі рух найбольш поўна выражае асаблівасці совецкага ладу, яго гіганцкія перавагі перад капіталізмам. Стаханаўцы заводаў, калгасаў і соўгасаў—нястомныя барацьбіты за ўздым прадукцыйнасці працы—справай паказалі, што вышэйшая прадукцыйнасць дасягаема не ў краінах капітала з іх жорсткай эксплаатацыяй працоўных, а ў краіне соцыялізма, якая знішчыла эксплаатацыю чалавека чалавекам і адкрыла бязмежныя прасторы соцыялістычнай творчасці і ўлады чалавека над прыродай і тэхнікай.

Стаханаўскі рух у сельскай гаспадарцы, як і ва ўсёй народнай гаспадарцы краіны, базаваўся на трох асноўных прадпасылках: тэхнічнай пераўзброенасці сельскай гаспадаркі, аўладаўшых новай тэхнікай кадрах і рэзкім павышэнні матар'яльна-культурнага ўзроўню ўсяго працоўнага насельніцтва краіны. Гэтыя тры моманты паслужылі той асновай, якая забяспечыла выдатныя поспехі першага стаханаўскага года.

Вось некалькі лічбаў, якія характарызуюць пераўзброенасць нашай сельскай гаспадаркі. На палях калгасаў і соўгасаў нашай рэспублікі зараз працуюць звыш 7.000 трактароў, сотні ільнацерабілак, снопавязалак, малатарань і тысячы іншых складаных машын і прылад. На гэтай аснове небывала ўзрасла ўдзельная вага трактарных работ у вытворчым жыцці калгасаў рэспублікі. Калі на веснавым ворыве 1935 г. трактарамі праведзена толькі 12,3 проц. усяго аб'ёму работ, то ў 1936 г. удзельная вага трактарнага ворыва ўзрасла да 41,3 проц. Агульны аб'ём трактарных работ у бягучым годзе павінен скласці 1.835.000 гектараў замест 762.000 гектараў у

мінулым годзе. На 1 верасня ўжо выканана 1.185.000 га або 65 проц. гадавога плана. Мы ўжо маем 9 МТС, выканаўшых поўнасцю гадавы план трактарных работ.

На базе такога росту тэхнічнага ўзбраення калгаснай вытворчасці шырока разгарнуўся стаханаўскі рух. Сотні і тысячы стаханаўцаў выеунула калгасная вёска ў 1935—36 г. Следам за рэкорднай здабычай вугалю першым сталінскім пітомцам Алексеем Стаханавым і яго выдатнымі таварышамі—Петровым, Дзюканавым і інш.—сотні трактарыстаў, вадзіцеляў машын, машыністаў малатарань, перадавікоў ураджаю і жывёлагадоўлі ўстанавілі свае вытворчыя рэкорды.

74 лепшыя стаханаўцы ордэнаноснай БССР атрымалі вышэйшую ўзнагароду. Яны былі ў Крэмлі на прыёме ў кіраўнікоў партыі і ўрада, яны слухалі вялікага Сталіна—свайго любімага правадыра, настаўніка і бацьку калгасаў. Ва ўсе куткі сваёй рэспублікі яны панеслі гэту радасную вестку, упэўненыя ў тым, што няма большага гонару, чым чэсная самаадданая работа на ўмацаванне соцыялістычнага ладу, умацаванне сваёй выдатнай, горача любімай радзімы.

Упарта рыхтаваліся стаханаўцы сельскай гаспадаркі да барацьбы за высокі ўраджай, за высокія паказчыкі ў 1936 стаханаўскім годзе. Ужо ў першыя дні веснавой сяўбы гулкім рэхам па ўсёй нашай рэспубліцы пранеслася чутка аб выдатнай рабоце трактарыстаў Капыльскай, Старобінскай, Слуцкай і іншых МТС, разбіўшых усякія тэорыі аб «тэхнічных», «прадзельных» нормах выпрацоўкі на трактарнай сеялцы.

13 красавіка тав. **Аладка** Прахор з Старобінскай МТС, працуючы на трактары ХТЗ, засеяў 24-радковай сеялкай 28 га. 21 красавіка ён перакрыў свой-жа рэкорд—засеяў за змену 32 га. Адначасова трактарыст Слуцкай МТС тав. Адзярыха пабівае і гэты рэкорд—засявае за змену 42 га. На азімай сяўбе з'явіліся новыя стаханаўцы-сейбіты.

Адначасова трактарысты ўстанаўляюць новы рад вытворчых рэкордаў на ворыве. Тав. Петручэня—трактарыст Капыльскай МТС з брыгады Соні Рачак—узворвае трохкорпусным плугам на трактары ХТЗ 10 га. Тав. Галубовіч, трактарыст Грэскай МТС, трохкорпусным плугам на трактары ХТЗ узворвае 12 га. Трактарысты Клімовіч і Саленік Дзержынскай МТС за 4 дні на трактары ЧТЗ узворваюць 91,9 га пры норме 56 га і эканомяць 270 кг. гаручага. У гэтай-жа МТС трактарыст тав. Пракаповіч 23 красавіка трактарам ХТЗ узворвае 14 га. У Заслаўскай МТС трактарыст Рабушко сістэматычна на трактары ХТЗ узворваў па 9 га, а 9 мая ўзараў 14,41 га пры эканоміі 60 кг. гаручага.

Гэтыя рэкорды сталі магчымы таму, што ў нас выраслі людзі, аўладаўшыя тэхнікай, асядлаўшыя яе, здольныя ўзяць ад машыны ўсё, што яна можа даць. Рэкордныя паказчыкі далі дзесяткі, а выпрацоўку ў 150 і 200 проц.—сотні вадзіцеляў машын. У выніку павысілася выкарыстанне трактарнага парка. План веснавых трактарных работ па рэспубліцы быў выканан на 116,7 проц.

Работа перадавікоў лішні раз пацвярджае поўную рэальнасць устаноўленай ЦК ВКП(б) і СНК Саюза нормы выпрацоўкі ў 380 га на 15-сільны трактар. У гадавіну стаханаўскага руху мы павінны яшчэ раз з усёй катэгарычнасцю адзначыць, што клопат аб безупынным росце і развіцці стаханаўскага руху не стаў яшчэ ў цэнтры ўвагі ўсіх камандзіраў сельскагаспадарчай вытворчасці: начальнікаў вытворчых кіраўніцтваў, дырэктароў соўгастрэстаў, заг. райза, дырэктароў

МТС і соўгасаў, нам. дырэктароў МТС па палітчастцы, старшых механікаў, старшых аграномаў МТС і райза, старшынь калгасаў і адпаведных партарганізацый. Сярэдняя выпрацоўка на трактары па рэспубліцы ўсё яшчэ застаецца нізкай, складаючы на 1 верасня толькі 210 га. Вось чаму было-б найгоршым выглядам зазнайства супакоіцца на першых поспехах перадавых трактарыстаў. Мы ўсё яшчэ не здолелі ўзброіць вопытам перадавых стаханаўцаў усю армію трактарыстаў БССР, не здолелі падцягнуць выпрацоўку ўсёй масы трактарыстаў на ўзровень перадавых. Па выпрацоўцы на трактар БССР ідзе ў ліку самых адстаючых краёў і абласцей. Гэта вялікая ганьба для ўсіх работнікаў зямельных органаў, пачынаючы ад Наркамзема, канчаючы дырэктарамі, старшымі механікамі і аграномамі МТС.

* * *

Стаханаўскі рух ахапіў усе галіны сельскай гаспадаркі нашай рэспублікі. З кожным днём ён ўзнімае ўсё новыя і новыя масы калгаснікаў і калгасніц, рабочых соўгасаў і трактарыстаў на барацьбу за нябачаныя ўзоры высокай прадукцыйнасці, за сапраўды навуковую арганізацыю соцыялістычнай працы ў сельскай гаспадарцы. У гэты рух неабходна ўцягнуць тысячы нашых трактарыстаў і іншых работнікаў сельскай гаспадаркі. Раённыя партарганізацыі, дырэктары МТС і спецыялісты сельскай гаспадаркі павінны стаць арганізатарамі стаханаўскага руху. Усякі рух за павелічэнне норм, павышэнне прадукцыйнасці працы і лепшае выкарыстанне машын неабходна ўсямерна падтрымаць, заахвоціць кожнага стаханаўца і аказаць яму ўсякую дапамогу.

Стаханаўскі рух «ламае старыя погляды на тэхніку, ламае старыя тэхнічныя нормы, старыя праектныя магутнасці, старыя вытворчыя планы і патрабуе стварэння новых, больш высокіх тэхнічных норм, праектных магутнасцей, вытворчых планаў» **(Сталін)**.

Прамова тав. Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў і на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак, нарады кіраўнікоў партыі і ўрада з перадавікамі высокай ураджайнасці ўказалі шлях далейшага развіцця стаханаўскага руху, далі новую, захапляючую перспектыву паскорання тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, росту эканамічнай магутнасці краіны і добрабыту працоўных мас.

Няма сёння такой галіны сельскай гаспадаркі, дзе не развіваўся-б стаханаўскі рух. У трактарным парку, сярод нашых жывёлаводаў, майстроў лёну і высокіх ураджаяў—усюды мы бачым аднолькавае імкненне ўперад, каб наш лён быў найлепшым, каб нашы палі былі самымі ўраджайнымі, каб наша стада было самым укормленым, каб нашы трактары працавалі прадукцыйней усіх.

Яшчэ ўзімку, пасля прыёму майстроў лёну ў Маскве кіраўнікамі партыі і ўрада, пасля ўсебеларускай нарады майстроў высокіх ураджаяў, у нас зарадзіўся выдатны рух «тысячніц» за 1000 кг. валакна з га. Звенні тысячніц сталі хутка арганізоўвацца ва ўсіх раёнах БССР. Калгасніцы сур'ёзна ўзяліся за агратэхнічную вучобу, за падрыхтоўку палёў, за збор мясцовых угнаенняў.

Шырока вядома ў Полацкім раёне звеннявая **Лапенко** Ульяна, у якой уся работа па апрацоўцы лёну праходзіць канвеерам. 5 жніўня пасля мочкі быў рассцелены апошні лён, а 10 жніўня—пагружана першая партыя для прасушкі. Для сушкі лёну падрыхтаваны добрыя дровы. Для мяцця ўстаноўлена конная мялка. Перад падачай у мялку

яшчэ раз сартуюць трасту і кладуць яе ў машыну роўнамернымі жменямі. Начорна апрацаваны лён кладзецца на адлежкі, пасля чаго пачынаецца тропка валакна на машыне «Санталава». Папярэдні падлік паказаў, што звяно атрымае з га не менш тоны валакна 22 нумару.

Такіх узораў—дзесяткі па ўсёй рэспубліцы, і ўсе яны ярка ілюструюць, як дзякуючы стаханаўскаму руху рэзка ўзнялася прадукцыйнасць, карэнным чынам змяніліся самыя адносіны да працы.

Аднак новае ў стаханаўскім руху не толькі ў новых адносінах да працы. Сутнасць руху ў тым, што стаханаўскія метады працы азначаюць **новыя адносіны да працэсу вытворчасці ў цэлым**.

Не толькі чэсна і ўпарта працаваць, не толькі падцягваць адстаючых, але і самому выступаць наватарам вытворчасці, самому перамагаць прычыны, якія вядуць да адставання, малой прадукцыйнасці, нізкай ураджайнасці. Не толькі чэсна працаваць, але і зламаць забабоны, старыя закаранелыя прывычкі, праявіць ініцыятыву ў выяўленні магчымасцей новай тэхнікі. Не толькі чэсна працаваць пры існуючых метадах барацьбы за ўраджай, але і самому ствараць новыя метады.

Іменна ў пераходзе ад найбольш эфектыўнай работы пры старых метадах барацьбы за ўраджай, за прадукцыйнасць машын, да новых метадаў, якія даюць больш высокія і больш эфектыўныя рэзультаты,—вось у чым сутнасць новых стаханаўскіх метадаў работы.

Гэта новае ў стаханаўскім руху, што дае магчымасць змяніць усю тэхніку барацьбы за высокі ўраджай лёну,. бульбы, зярна, мы атрымалі іменна ў выніку руху «тысячніц», у выніку руху «трохтысячнікаў» (3.000 пудоў бульбы з га). Іх вопыт, іх метады заслугоўваюць самага ўважлівага вывучэння для перадачы ва ўсе калгасы і соўгасы нашай краіны.

Перад намі пісьмо тав. Ляўшовай К. В.—звеннявой калгаса «Палітаддзелец» Іваньскага сельсовета, Чашніцкага раёна. Гэта пісьмо ярка паказвае, як творчае спаборніцтва ў калгасах ламае старыя метады работы, як самі калгасніцы і калгаснікі вынаходзяць свае новыя, дагэтуль у калгаснай практыцы невядомыя спосабы барацьбы за ўраджай.

Тав. Ляўшова піша:

«Увесну гэтага года мы ўключыліся ў паход за 5 цэнтнераў ільнавалакна з га. Акрамя таго, мы заклалі адзін вопытны гектар, з якога абавязаліся даць тону валакна. Палолі мы свой лён не два і не тры разы, а пакуль на полі не засталося ніводнага каліва пустазелля. Асабліва мы клапаціліся аб вопытным гектары. Трохі дапамагаў нам участковы аграном тав. Маслянкоў. Я і іншыя члены майго звяна акуратна наведвалі агратэхнічны гурток. Добра вучыліся і добра скарысталі набытыя веды.

На вопытным участку мы два разы давалі лёну падкормку азоцістымі ўгнаеннямі. Гарачае засушлівае надвор'е спыніла было рост лёну, і мы палівалі яго, мяшаючы гнаёвую жыжу з вадой. Палівалі мы два разы ўручную венікам. Пасля паліўкі лён адразу ажыў і пачаў хутка расці. Каб лён не палёг, мы паставілі калочкі, да якіх прывязалі жардзінкі. Праз некаторы час лён дасягнуў метра вышыні. Дзякуючы клапатліваму догляду, прыгожа рос лён і на астатніх 16 га. Ён вырас на 90 снт.

Аднак ураджай лёну залежыць не толькі ад добрай сяўбы і ўваж-

лівай праполкі. Правільнае церабленне, і асабліва рассціл, павялічваюць выхад валакна на 50 і больш процантаў. Мы гэта добра ўлічылі. Як толькі лён дасягнуў ранняй жоўтай спеласці, мы пачалі яго церабіць і тут-жа сартавалі па росту, таўшчыні і колеру. Церабленне і абмалот лёну ў калгасе закончылі да 27 ліпеня. З паказальнага ўчастка прывезлі 16 вазоў трасты і пераканаліся ў тым, што атрымаем з яго не менш тоны валакна, а быць можа і болей. З астатніх 16 га мы атрымаем таксама больш як па 5 цнт. з кожнага. Пробная тропка паказала, што з вопытнага ўчастка мы здамо валакно не ніжэй **23 нумару».**

Вопыт брыгады Ляўшовай—выдатны ўзор творчай актыўнасці стаханаўцаў сельскай гаспадаркі, іх ініцыятывы ў адшуканні новых шляхоў і метадаў барацьбы за ўраджай.

Калгасная маса высунула ў гэтым годзе ва ўмовах выключна засушлівага лета дзесяткі і сотні такіх герояў.

Звяно стаханаўкі тав. Даніловіч з калгаса «Будзёнавец», Расонскага раёна, намалаціла з 1 га 11 цнт. ільнанасення. Звяно стаханаўкі Лосевай з калгаса імя Максіма Горкага, Расонскага раёна, атрымала 980 кг. насення з га. У калгасе «Большэвік», Бытчанскага сельсовета, Барысаўскага раёна, сярэдні ўраджай жыта з усёй плошчы пасеву складае 18 цнт., а на ўчастку ў 8 га атрымана па 21 цнт. У Дзержынскім раёне тав. Векша (калгас «9 студзеня») з плошчы ў 50 га азімай пшаніцы атрымаў ураджай па 33,3 цнт. з га ў сярэднім.

Тав. Васілец у калгасе «Ударнік прамысловасці» з плошчы ў 36 га азімай пшаніцы атрымаў у сярэднім па 25 цнт. У калгасе імя Якаўлева, Тураўскага раёна, у брыгадзе № 2 брыгадзір Р. Ф. Чарнушэвіч атрымаў ураджай азімай пшаніцы 25,5 цнт. з га., жыта 22 цнт., ячменю 19 цнт. У калгасе «Чырвоны партызан» таго-ж раёна тав. М. Дарожка—брыгадзір 4-ай брыгады—атрымаў зернавых у сярэднім па 21 цнт. з га. У калгасе імя Варашылава, Даманавіцкага раёна, у брыгадзе № 2 Адама Гавароўскага сярэдні ўраджай жыта на плошчы 22 га складае 17 цнт. У калгасе «Прамень Окцябра», Ельскага раёна, у звяне т. Шаставец на плошчы 5 га сярэдні ўраджай ільнавалакна складае па 1000 кгр. У калгасе «1 Мая», Слуцкага раёна, сярэдні ўраджай азімай пшаніцы складае 20 цнт., жыта 16 цнт., ячменю 16,5 цнт., аўса 14,5 цнт. У брыгадзе тав. Стругача, гэтага-ж калгаса, ўраджай азімай пшаніцы з плошчы ў 6 га складае ў сярэднім 31 цнт., жыта з 5 га па 21 цнт., ячменю з 8 га па 32 цнт.

Падобныя прыклады налічваюцца сотнямі. Яны сведчаць аб выдатных рэзультатах сапраўды стаханаўскай работы і даюць знішчальны адказ ныцікам і панікёрам, якія, спалохаўшыся засушлівага лета, ва многіх калгасах кідалі ўраджай на волю лёсу.

Таварыш Сталін у сваёй прамове на 1 усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў гаварыў, што стаханаўскі рух прадстаўляе сабой перш за ўсё новы, вышэйшы этап соцспаборніцтва, бо яно звязана абавязкова з новай, вышэйшай тэхнікай, з поўным аўладаннем ёю.

Гэту характэрную рысу новага, вышэйшага этапа соцспаборніцтва можна прасачыць на вопыце кожнай перадавой трактарнай брыгады, у прыватнасці на зябліве і ворыве пад азімыя.

У выніку вясенне-летніх работ першае месца сярод трактарных брыгад БССР заваявала брыгада тав. Чэчыка з Хоцімскай МТС. На 10 жніўня яна дала ў сярэднім на кожны трактар па 590 га[1]). Трак-

[1]) Па даных на 21/IX брыгада тав. Чэчыка дала на кожны трактар па 1.000 га.

тарыст тав. Чубакоў, спаборнічаючы з Пашай Ангелінай за 1200 га, узараў ужо сваім трактарам 1.011 га. і, акрамя таго, на машыне «ВНІІЛ-5» выцерабіў 46 га лёну. У гэтай-жа брыгадзе тав. Ячмянёў узараў 900 га і выцерабіў 68 га. Брыгада Зоні Рачак, якая спаборнічае з брыгадай Чэчыка, к 13 жніўня дала ў сярэднім па 451 га на трактар.

Выдатных поспехаў к стаханаўскай гадавіне дабіліся трактарысты Старобінскай МТС. Брыгада тав. Шарыдоды дала ў сярэднім на трактар 745 га, а тав. Аладкі—846; брыгада тав. Смельянава, Старадарожскай МТС у сярэднім дала ўжо на трактар па 533 га. Трактарыст гэтай брыгады тав. Гуткоўскі ўзараў 786 га, тав. Смольскі 820 га. Трактарысты: Старынскай МТС тав. Васільеў узараў 960 га, Расонскай тав. Савельева Марыя 700 га, Талачынскай тав. Рабцаў Аркадзій 850 га, Тэрахоўскай тав. Антошанка 840, Зубароў 766, брыгада тав. Осадчага ў сярэднім на 1 трактар дала 764 га; у Прыямінскай МТС тав. Гайдук Васіль узараў 737 га, у Б.-Кашалёўскай тав. Авер'янаў Фёдар—767 га. Перакрылі нормы па ільнацерабленню тт. Акулевіч Антон 177 га (Шклоўская МТС), Макарэнка С. Т. 158 га (Крычаўская МТС, Гарбулёў Н. 135 га, Шоўкавая Марыя 112 га (Ліхачэўская МТС), Бычкоўскі 112 га (Бялыніцкая МТС), Аўтухоў 110 га (1-я Лепельская МТС). Выканаўшых і перавыканаўшых нормы па ільнацерабленню налічваецца ў МТС БССР да 200 чалавек.

Соцспаборніцтва ў трактарных брыгадах вядзецца перш за ўсё вакол лепшага скарыстання трактароў і эканоміі гаручага, правільнага тэхнічнага догляду за трактарам, дакладнага захавання графіка папераджальнага рамонту, выканання работ у сціслыя агратэхнічныя тэрміны, павышэння зменнай і гадавой выпрацоўкі. Усё гэта магчыма, у першую чаргу, пры павышэнні ведаў і кваліфікацыі.

Пры ўзаемнай праверцы соцыялістычных дагавароў звараачаецца перш за ўсё ўвага на тыя прыёмы працы, якія павышаюць прадукцыйнасць, на тэхнічны стан машын, на тэхнічную і палітычную вучобу трактарыстаў і іншых рабочых і работнікаў МТС.

Новы, вышэйшы этап соцспаборніцтва арганічна ўключыў у сябе шырокае разгортванне тэхнічнай вучобы. Рэгулярная тэхвучоба побач з сістэматычнай чыткаю газет, палітычнай і мастацкай літаратуры стала абавязковай умовай арганізацыі працы ў значнай частцы трактарных брыгад.

На тэхнічнай вучобе брыгада імкнецца падрабязней азнаёміцца не толькі з машынай, але ўсямерна вывучыць вопыт перадавых, каб ім узброіць астатніх трактарыстаў. Вось чаму было-б няверна ўяўляць, што тэхвучоба трактарных брыгад праводзіцца толькі на тэхгадзіне. Штодзенна разбіраючы прыёмы работы кожнага трактарыста, яго поспехі і промахі, брагада тав. Чэчыка здолела дабіцца сваіх першых і разам з тым вялікіх поспехаў.

Побач з добрай работай перадавых МТС і лепшых трактарыстаў-стаханаўцаў, якія далі высокія нормы выпрацоўкі на ўсіх працэсах трактарных работ, рад кіраўнікоў і партарганізацый МТС не ўзначалілі стаханаўскага руху і пусцілі яго на самацёк, што прывяло да дрэнных вынікаў. Так, у Лёзненскай і Высачанскай МТС справа машыннага церабления лёну па сутнасці была сарвана. На 8 жніўня гэтыя МТС выцерабілі толькі па 20 га на ільнацерабілку «ВНІІЛ-5» замест 50 га па плану. У Лёзненскай МТС з 21 ільнацерабілкі нармальна працавалі толькі 5, а ў Высачанскай з 14 толькі 3. Усе астат-

нія ільнацерабілкі, як гэта адзначана ў пастанове бюро ЦК КП(б)Б аб Лёзненскай і Высачанскай МТС, або зусім не працавалі, або прастойвалі па розных прычынах, якія лёгка можна было выправіць. Гэтыя МТС з першых дзён малацьбы не здолелі як след выкарыстаць складаныя і поўскладаныя малатарні. Партыйныя арганізацыі і дырэкцыі гэтых МТС не праяўлялі большэвіцкага клопату аб максімальным выкарыстанні трактароў і ўсіх машын, не ўзначалілі стаханаўскі рух і прадаўжаюць працаваць па-старынцы. Прыклад дрэннай работы Лёзненскай і Высачанскай МТС не з'яўляецца адзінічным. Падобныя факты маюць яшчэ месца ў радзе МТС (Клімавіцкая, Путчынская, Петрыкаўская, Суражская) і ў паасобных трактарных брыгадах.

Трактарысты БССР зараз уступілі ў рашаючы этап соцспаборніцтва за высокія паказчыкі выпрацоўкі. Па рэспубліцы план трактарных работ выканан толькі на 65 проц. На азімай сяўбе і зяблівым ворыве трактарысты БССР павінны паказаць новыя, яшчэ больш высокія рэкорды на сотнях і тысячах машын. План трактарных работ на плошчы ў 1835000 га павінен быць не толькі выканан, але і перавыканан. Гэта справа гонару кіраўнікоў МТС і трактарыстаў БССР. Абавязак партарганізацый, дырэктароў МТС, механікаў, аграномаў і іншых камандзіраў сельскагаспадарчай вытворчасці—стварыць такія ўмовы, каб гэты план быў перавыканан.

У творчае спаборніцтва стаханаўцаў ўключыліся таксама перадавікі жывёлагадоўлі. У мінулым годзе 39 перадавых жывёлаводаў БССР былі ўзнагароджаны ордэнамі. Стаханаўскі рух на калгасных фермах пусціў сёлета яшчэ больш глыбокія карэнні. Ужо зараз цэлы рад жывёлаводаў БССР дабіўся рэкордных паказчыкаў.

Свінарка тав. Мартынава Ганна з калгаса «Культфронт», Віцебскага раёна, ад 8 свінаматак ужо атрымала і захавала 135 парасят—у сярэднім 18 парасят на матку.

Ордэнаносец тав. Барушкоў Рыгор з калгаса «Гомельскі пралетарый», Лоеўскага раёна, дабіўся ўвесну прыплоду 275 ягнят ад 230 матак, з кожнай аўцы настрыг у сярэднім 1130 грам шэрсці супроць леташніх 860 грам.

Ордэнаноска тав. Зенько Надзея з калгаса «Комунар», Капыльскага раёна, абавязалася атрымаць не менш 23 дзелавых парасят і 75 пудоў жывой вагі ад кожнай свінаматкі. Ад замацаваных за ёю 7 матак за першае паўгоддзе атрымала 111 парасят. Усе яны захаваны поўнасцю. За мінулы год свінаводная ферма дала прыбытку 27.786 р., а за першае паўгоддзе гэтага года атрымана ўжо 24.000 р.

Даярка тав. Бярозкіна з калгаса «Чырвоны хлебароб», Еромінскага с-с, Гомельскага раёна, абавязалася дабіцца сёлета ў сярэднім па 3000 літраў удою. За першае паўгоддзе ад 11 кароў надаіла 22.900 літраў малака або ў сярэднім па 2.081 літр на карову. Карова «Ада» ужо дала 4.266 літраў.

Стаханаўскі рух у сельскай гаспадарцы вырас на аснове калгаснага ладу і грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці, на аснове ўмацавання соцыялістычнай уласнасці праз актыўную барацьбу, праз вялікую выхаваўчую работу партыі.

Стаханаўцы ўмацоўваюць соцыялістычную ўласнасць, яны паказваюць навочна, што грамадская ўласнасць забяспечвае вялікую прадукцыйнасць працы, большае багацце, чым дробная аднаасобная сялянская гаспадарка.

Працэс фармавання соцыялістычнай працы мяркуе ператварэнне

сельскагаспадарчай працы ў align="" рознавіднасць індустрыяльнай. Развіццё і ўмацаванне калгаснай вытворчасці на аснове ўвядзення ў сельскую гаспадарку передавой машыннай тэхнікі, соцспаборніцтва і ўдарніцтва ёсць форма гэтага працэсу, які мае сусветна-гістарычнае значэнне з пункту погляду знішчэння процілегласці паміж індустрыяльнай і сельскагаспадарчай працай—адной з найбольш яркіх форм праяўлення капіталістычнага раздзялення працы.

Пашырэнне стаханаўскіх метадаў працы ў калгасах і соўгасах знашло сваё поўнакроўнае выражэнне ў перамогах камбайнераў і камбайнерак, трактарыстаў і трактарыстак, валзіцеляў ільнацерабільных машын, майстроў высокіх ураджаяў, у высокай прадукцыйнасці соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Усё гэта сведчыць аб тым, што мы ўступілі ў паласу канчатковага знішчэння слядоў «ідыятызму вясковага жыцця» і працы. Хуткае аўладанне тэхнікай і агратэхнікай падводзіць нас да поўнага знішчэння процілегласці паміж працай сельскагаспадарчай і індустрыяльнай.

За першы стаханаўскі год мы дабіліся значных поспехаў у справе барацьбы за сталінскі ўраджай, за павышэнне прадукцыйнасці соцыялістычнай жывёлагадоўлі, за ўздым прадукцыйнасці працы і максімальнае выкарыстанне сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікі, якою партыя і совецкая ўлада ўзброілі соцыялістычную сельскую гаспадарку. Агромныя поспехі дасягнуты ў справе перавыхавання былых аднаасобнікаў, цяперашніх калгаснікаў, у свядомых барацьбітоў соцыялістычнага будаўніцтва.

У БССР мы зараз маем сотні і тысячы знатных людзей-стаханаўцаў соцыялістычных палёў, якія сваімі прыкладамі паказалі бязмежную адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Людзі сталінскай эпохі, аўладаўшы тэхнікай, паказваюць прыклады геройства і адвагі на ўсіх участках нашага будаўніцтва, у тым ліку і ў соцыялістычнай сельскай гаспадарцы.

Нашы поспехі ў першым стаханаўскім годзе велізарны. Аднак, мы не можам на іх супакоіцца, бо арганізацыя і ўзначальванне стаханаўскага руху ў сельскай гаспадарцы нашай рэспублікі мае яшчэ буйныя недахопы. Яшчэ не ва ўсіх звеннях і ўчастках работы калгасаў, соўгасаў, МТС, калгасных, соўгасных і трактарных брыгад зжыты старыя метады кіраўніцтва і арганізацыі работы. Яшчэ не дабіты рэшткі адміраючых у нашай краіне падгалоскаў капіталістычнага класа, рэшткі контррэволюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх белабандыцкіх паследышаў і іншых класава-чуждых і варожых элементаў, якія імкнуліся і будуць імкнуцца перашкаджаць разгортванню стаханаўскага руху як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. Класавая барацьба, як гэта з выключнай нагляднасцю ўскрыў і паказаў працэс над азвярэлымі белагвардзейска-фашысцкімі бандытамі з трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра, не спыняецца, а набывае яшчэ больш вострыя формы. 16 азвярэлых шалёных псоў, якія рыхтавалі забойства любімага правадыра таварыша Сталіна і яго саратнікаў, знішчаны па патрабаванню ўсяго совецкага народу. Аднак не ўсе ворагі совецкага народу і соцыялістычнай радзімы выкрыты і знішчаны. Таму наш абавязак, абавязак усіх партыйных арганізацый, усіх кіраўнікоў і камандзіраў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, абавязак партыйных арганізацый, кіраўнікоў і камандзіраў іншых участкаў соцыялістычнага будаўніцтва—узняць большэвіцкую рэволю-

цыйную пільнасць, бязлітасна выкрываць усіх прытаіўшыхся ворагаў партыі і савецкага народу, як-бы яны ні маскаваліся.

У другім стаханаўскім годзе перад намі стаіць задача—узняць стаханаўскі рух у сацыялістычнай сельскай гаспадарцы на вышэйшую ступень, уцягнуць у яго большую масу калгаснікаў і калгасніц, рабочых і работніц саўгасаў, трактарыстаў, механікаў, камбайнераў і вадзіцеляў машын, ператварыць калгасы, саўгасы і МТС у суцэльна стаханаўскія, ведучы рашучую барацьбу з усякімі вылазкамі класавага ворага, антымашыннымі настроямі і сабатажнікамі стаханаўскага руху. Задача і абавязак партыйных арганізацый і ўсіх кіраўнікоў, камандзіраў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі—па-большэвіцку арганізаваць і ўзначаліць стаханаўскі рух, шырока папулярызаваць лепшыя прыклады работы перадавых стаханаўцаў—барацьбітоў высокага ўраджаю, зрабіць іх вопыт набыткам усёй масы трактарыстаў, калгаснікаў, рабочых саўгасаў і МТС.

Трэба прама сказаць, што партарганізацыі і кіраўнікі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі да гэтага часу не ўдзялялі патрэбнай увагі папулярызацыі лепшага вопыту работы перадавых стаханаўцаў сярод адстаючых МТС, калгасаў і саўгасаў. У бліжэйшы час мы павінны запоўніць гэты прабел. Не спадзявацца на самацёк, а арганізаваць і ўзначаліць справу далейшых перамог, канкрэтна і штодзённа кіраваць ёю на кожным участку. Не камандаваць, а крапатліва вырошчваць новыя кадры стаханаўцаў, барацьбітоў за высокую прадукцыйнасць працы, за сталінскі ўраджай калгасных і саўгасных палёў. Вучыць другіх, але галоўнае—вучыцца самому, таму што дырэктар і іншыя адказныя работнікі МТС, не ўладаўшы тэхнікай, не здолеюць арганізаваць і ўзначаліць стаханаўскі рух сярод трактарыстаў.

Агратэхнічная вучоба з'яўляецца неад'емнаю часткай далейшага паспяховага разгортвання стаханаўскага руху ў сельскай гаспадарцы. Клопат аб кадрах, аб жывых людзях павінен быць у цэнтры ўвагі партыйных арганізацый, зямельных органаў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

Савецкі народ дабіўся гістарычных перамог, што з выключнаю сілай адлюстроўваецца ў праекце сталінскай Канстытуцыі СССР. Гэта прызнае ўвесь свет, і ніякія фашысцкія басні аб «голадзе і бунтах» у міфічных «Дзеленкопах на Днепры» не зацемняць нашых перамог, не адцягнуць увагу працоўных усяго свету ад мабілізацыі ўсіх сваіх сіл на барацьбу з фашызмам, які нясе ўсяму свету смерць і зруйнаванне і працягвае сваю брудную лапу да нашай свяшчэннай зямлі, да нашых правадыроў—лепшых сыноў народу.

Савецкі народ раздушыў фашысцкіх агентаў—гадзіну трацкісцка-зіноўеўскай контррэвалюцыі, ачысціў краіну ад смроду і бруду. Лягчэй стала дыхаць і працаваць у ачышчанай атмасферы. Палаючы бязмежнай любоўю да сваёй радзімы, да таго, хто натхняў на стаханаўскую гароіку працы, на барацьбу за шчаслівае, заможнае калгаснае жыццё,—да вялікага Сталіна, калгасныя масы, трактарысты і трактарысткі, ўладаўшы тэхнікай складаных сельскагаспадарчых машын, пакажуць новыя, нябачаныя ўзоры сацыялістычнай прадукцыйнасці калгаснай працы і новых большэвіцкіх тэмпаў.

. Геаргадзе

Нам. наркома мясцовай прамысловасці БССР

# Стаханаўскі рух у мясцовай прамысловасці і выкананне ўзятых абавязацельстваў

30 жніўня 1935 г. забойшчык шахты «Цэнтральнае Ірміно» Алексей Стаханаў паклаў пачатак усенароднаму стаханаўскаму руху. Гэта дата ўвойдзе ў гісторыю барацьбы за соцыялізм, як пачатак адной з самых слаўных глаў соцыялістычнага будаўніцтва, як пачатак руху, які «падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму» (Сталін). Рэкордам Алексея Стаханава быў пакладзен пачатак новаму, вышэйшаму этапу соцыялістычнага спаборніцтва—стаханаўскаму руху, які з'яўляецца адказам шырокіх мас рабочага класа на лозунг вялікага правадыра народаў—таварыша Сталіна, што на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва «кадры вырашаюць усё».

За мінулы год стаханаўскі рух стаў агромнай сілай, ператварыўшыся пад кіраўніцтвам партыі ў масавы, усенародны рух. З небывалаю сілай забурліла вытворчая актыўнасць мас. Выраслі новыя людзі, аўладаўшыя новай тэхнікай. На фабрыках і заводах, у шахтах і на будоўлях, у калгасах і соўгасах—усюды стаханаўскі рух апракінуў старыя нормы і праектныя магутнасці. Знішчальны ўдар атрымалі квітнеўшыя ва многіх галінах народнай гаспадаркі тэорыі прадзелу.

> «Стаханаўскі рух разнёсся па ўсяму твару нашага Саюза не паступова, а з нейкай нябачанай хуткасцю, як ураган... У чым тут справа? Адкуль узялася такая быстрыня ў справе распаўсюджання стаханаўскага руху?.. Толькі рух, які ў поўнай меры наспеў і чакае штуршка для таго, каб вырвацца на волю,—толькі такі рух мог хутка распаўсюдзіцца так і нарастаць, як снежны ком» (Сталін).

На базе разгортвання стаханаўскага руху ўсе галіны нашай соцыялістычнай народнай гаспадаркі паспяхова выконваюць і значна перавыконваюць план 1936 г., дасягнуўшы выключна высокіх тэмпаў росту ў параўнанні з 1935 г.

Рэкорды прадукцыйнасці працы бусыгінцаў у металапрамысловасці, вінаградаўцаў у тэкстылі, сметанінцаў у скурабутковай прамысловасці знайшлі гарачы водгук у мясцовай прамысловасці БССР, якая высунула сваіх майстроў высокай прадукцыйнасці працы і многія тысячы іх паслядоўцаў—стаханаўцаў.

Па прыкладу Сметаніна, рабочага абутковай фабрыкі «Скараход», рабочыя менскай абутковай фабрыкі імя Кагановіча—браты Скабло і Розенберг—9/X—35 г. перашлі на стаханаўскія метады работы. Тав. Скабло З. на працэсе зацяжкі наскоў пры норме ў 400 пар 9/X—35 г. фактычна выпрацаваў 1.083 пары або 2,7 нормы. Тав. Розенберг на тым-жа працэсе 10/X—35 г. перакрыў рэкорд тав. Скабло З., дасягнуўшы прадукцыйнасці ў 1212 пар, выканаўшы за змену больш трох дзенных норм. Ініцыятыва першых стаханаўцаў мясцовай прамысловасці была падхоплена як на самой фабрыцы імя Кагановіча, так і на іншых прадпрыемствах мясцовай прамысловасці БССР.

З нябачанай хуткасцю разгарнуўся стаханаўскі рух на прадпрыемствах мясцовай прамысловасці. Калі 9/X—35 г. лік стаханаўцаў на фабрыцы імя Кагановіча і ва ўсёй мясцовай прамысловасці складаў 4 чал., то ўжо к канцу кастрычніка большасць прадпрыемстваў і галін прамысловасці налічвала многа соцень стаханаўцаў. Так, на 15/XI—35 г. на прадпрыемствах металапрамысловасці мы мелі больш 800 стаханаўцаў, скурабутковай 1.100 чал. з агульнай колькасці рабочых 4.800 чал., швейнай прамысловасці 1.074, дрэваапрацоўчай 263 стаханаўцы і т. д. У пачатку снежня колькасць стаханаўцаў у мясцовай прамысловасці наблізілася да 5000 чал.

Магутны разварот стаханаўскага руху забяспечыў значнае перавыкананне старых норм выпрацоўкі і старых тэхнічных норм. Сотні і тысячы рабочых пачалі выконваць старыя нормы выпрацоўкі на 170—200 і больш процантаў. У рэзультаце ўжо ў IV квартале мінулага года мясцовая прамысловасць значна палепшыла паказчыкі сваёй работы, перавыканаўшы квартальны план па вытворчасці на 7,5 проц. і снежаньскі—на 11 проц.

Гістарычныя рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), а таксама студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб задачах прамысловасці і транспарту, у сувязі са стаханаўскім рухам, выклікалі новую, яшчэ больш высокую хвалю разгортвання стаханаўскага руху. На прадпрыемствах мясцовай прамысловасці, па прыкладу перадавых прадпрыемстваў саюзнай прамысловасці, разгарнулася ўкараненне вышэйшых форм стаханаўскага руху—пераход да стаханаўскіх змен, сутак, пяцідзенак і дэкад. Калі на 1/XII—35 г мясцовая прамысловасць налічвала 4715 стаханаўцаў, то к 1/III—36 г. колькасць стаханаўцаў узрасла да 10.899 чал. і к 1/IV—36 г. дасягнула 12.049 чал.

Аднак, далёка не на ўсіх прадпрыемствах і не ва ўсіх галінах прамысловасці разварот стаханаўскага руху працякаў аднолькава. На тых прадпрыемствах і ў тых галінах прамысловасці, дзе партыйныя арганізацыі і інжынерна-тэхнічныя работнікі ўзначалілі стаханаўскі рух, з дня ў дзень канкрэтна дапамагалі стаханаўцам, забяспечылі правільнае абслугоўванне рабочага месца, своечасовы рамонт і наладку абсталявання і т. д., мы маем найбольшую колькасць стаханаўцаў, мы дасягнулі найбольш высокіх паказчыкаў прадукцыйнасці працы, найбольшае перавыкананне тэхнічных норм. Да такіх прадпрыемстваў адносяцца абутковая фабрыка імя Кагановіча, скурзаводы імя Сталіна і «Большэвік», цагельны завод № 8, цагельныя заводы Бабруйскага РВК, віцебскі металазавод імя Кірава, крухмальны завод у Талачыне, Новабарысаўскі шклозавод і інш. На гэтых прадпрыемствах інжынерна-тэхнічны персанал і партыйныя арганізацыі канкрэтна падышлі да справы ўкаранення стаханаўскіх метадаў работы, забяспечылі своечасовую рэалізацыю прапаноў і тыл работы стаханаў-

цаў, палепшылі тэхналогію вытворчага працэса, разгарнулі партыйна-масавую работу, акружылі належнай увагай стаханаўцаў і т. п. У рэзультаце па цагельнаму заводу № 8 мы маем значнае перавыкананне новых тэхнічных норм. Пры новай тэхнічнай норме з'ёму з аднаго кубаметра печы 1.225 штук цэглы, завод гэты ўжо ў чэрвені перакрыў новую тэхнічную норму, а ў жніўні дасягнуў перавыканання яе на 15,8 проц. (1.419 шт. цэглы замест 1.225 шт.):

Калі ў верасні мінулага года па фабрыцы імя Кагановіча сутачны выпуск абутку складаў 5.312 пар пры агульнай колькасці рабочых 1.205 чал., то ўжо ў ліпені 1936 г. пры меншай колькасці рабочых (1.172 чал.) фабрыка штодзенна выпускала 6.876 пар абутку.

Талачынскі крухмальны завод пры правядзенні стаханаўскай дэкады дабіўся перакрыцця праектнай магутнасці на 50 проц., давёўшы сутачную перапрацоўку бульбы да 119,6 тоны замест праектных 80 тон, і т. д.

Аднак належыць адзначыць, што далёка не на ўсіх прадпрыемствах і не ва ўсіх галінах прамысловасці так абстаяла справа з узначальваннем стаханаўскага руху. Пісьмо тав. Орджанікідзе да гарнякоў Донбаса, у якім папярэджвалася, што стаханаўскі рух можа сустрэць «з боку некаторых кіраўнікоў абывательскі скептыцызм, што на справе будзе азначаць сабатаж», адносіцца таксама і да мясцовай прамысловасці БССР.

Ужо пры самым зараджэнні стаханаўскага руху на некаторых прадпрыемствах былі выпадкі самаадстаранення кіраўніцтва, факты сабатажу, вылазкі класавых ворагаў супроць стаханаўскага руху. Такія факты мелі месца на заводзе імя Варашылава (былы дырэктар Шолкаў), швейных фабрыках «Комінтэрн» (дырэктар Коган), імя Дзержынскага (дырэктар Шапіра), друкарні імя Сталіна (дырэктар Тёмкін), ізразцова-плітачным заводзе (дырэктар Гольдзінер), фасфарытных рудніках (былы дырэктар Страпчэнко), Мазырскай мэблевай фабрыцы (дырэктар Флеер) і т. д. Не гледзячы на своечасовае рэагаванне, выкрыццё і ліквідацыю ўсіх гэтых фактаў, невыкананне ў I і II кв. 60 прадпрыемствамі са 177 сваіх вытворчых планаў сведчыць аб тым, што яшчэ на вельмі многіх прадпрыемствах кіраўніцтва стаханаўскім рухам не стала штодзеннай справай гаспадарнікаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў, нізавых партыйных і прафсаюзных арганізацый.

Разгортванне стаханаўскага руху праходзіла ў барацьбе супроць сабатажнікаў, супроць абмежаваных людзей, не жадаўшых расці разам з усёй краінай, няздольных або не жадаўшых кіраваць і працаваць па-новаму.

Як ва ўсёй прамысловасці Савецкага Саюза, так і ў мясцовай прамысловасці БССР стаханаўцы перамаглі. Да першай гадавіны стаханаўскага руху мясцовая прамысловасць БССР прыходзіць з агромнымі поспехамі.

Праведзеныя Наркаматам мясцовай прамысловасці ў ажыццяўленне рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б 36 галінных канферэнцый падагулілі вопыт работы лепшых стаханаўцаў у мясцовай прамысловасці. У рэзультаце работ галінных канферэнцый выяўлены значныя рэзервы вытворчых магутнасцей, што адкрывае вялікія магчымасці далейшага разгортвання росту вытворчасці мясцовай прамысловасці на базе дзеючых асноўных фондаў.

Побач з устанаўленнем новых вытворчых магутнасцей і тэхнічных норм, галіннымі канферэнцыямі былі ўстаноўлены новыя нормы выпрацоўкі, якія прадугледжваюць рост супроць старых норм да 70 проц.

Увядзенне новых норм выпрацоўкі выклікала новую хвалю разгортвання стаханаўскага руху ў мясцовай прамысловасці. Аб гэтым сведчыць той факт, што калі к моманту ўвядзення новых норм выпрацоўкі мясцовая прамысловасць налічвала 12.049 стаханаўцаў, то ў ліпені, пасля ўвядзення па ўсіх галінах прамысловасці новых норм, колькасць стаханаўцаў узрасла да 16.700 чал.

Да гадавіны стаханаўскага руху мясцовая прамысловасць прыходзіць з сур'ёзнымі поспехамі ў справе асваення новых норм выпрацоўкі. Ужо ў чэрвені 55,7 проц. рабочых выконвалі новыя нормы выпрацоўкі ў межах ад 101 да 120 проц. 20,6 проц. усіх рабочых перавыконвалі нормы ад 20 да 50 проц. Па раду галін прамысловасці сотні рабочых дасягнулі перавыканання новых норм у 2 разы і больш. Так, па металапрамысловасці ў чэрвені 13,6 проц., а ў ліпені 18,7 проц. усіх рабочых выканалі новыя нормы ад 151,0 проц. і вышэй. Па Скуртрэсту, Белшвацінe, Дрэўпромтрэсту, Белбродтрэсту і інш. ад 10 да 20 проц. усіх рабочых перавыконваюць нормы на 50—80—100 і больш процантаў.

Агромнае значэнне ў справе асваення новых норм выпрацоўкі адыграла тэхвучоба. Таварыш Сталін на 1-й усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў сказаў пра стаханаўцаў: «Гэта, галоўным чынам,—маладыя або сярэдніх гадоў рабочыя і работніцы, людзі культурныя і тэхнічна падкаваныя... Большасць з іх прашла так званы тэхнічны мінімум і прадаўжае папаўняць сваю тэхнічную асвету».

Гэтае ўказанне таварыша Сталіна асоба падкрэслівае значэнне тэхвучобы для разгортвання стаханаўскага руху. Лепшыя выдатнікі тэхвучобы бр. **Скабло, Семеідава, Сарбай, Левін, Гапоненка** і інш. з'явіліся ініцыятарамі стаханаўскага руху ў мясцовай прамысловасці БССР. К пачатку разгортвання стаханаўскага руху ў мясцовай прамысловасці БССР звыш 21 тыс. рабочых здалі тэхмінімум, з іх 14,3 тыс. чал. на «выдатна».

Гістарычныя рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б далі разгорнутую праграму перабудовы ўсёй справы тэхвучобы, узняцця яе на ўзровень эпохі стаханаўскага руху.

На базе гэтых рашэнняў былі ўстаноўлены адзіныя формы навучання рабочых: тэхмінімум, стаханаўскія курсы і курсы майстроў соцыялістычнай працы. Карэнным чынам перагледжаны былі вучэбныя планы па тэхмінімуму. Значна быў павялічан час на вывучэнне тэхналагічнага працэсу, уведзена была дысцыпліна—«арганізацыя рабочага месца і стаханаўскія метады работы». Для палепшання пастаноўкі і якасці вучобы на курсах майстроў соцыялістычнай працы арганізаваны ў гарадах Менску і Віцебску вучэбныя камбінаты для прадпрыемстваў металапрамысловасці. Намячаецца арганізацыя такіх-жа камбінатаў для прадпрыемстваў скурабутковай і швейнай прамысловасці.

К жніўню рэарганізаванай сістэмай тэхнічнага навучання было ахоплена 18.746 чал. або 47 проц. ад агульнай колькасці вытворчых рабочых мясцовай прамысловасці. На курсах тэхмінімума навучаецца

10.800 рабочых, на стаханаўскіх курсах 6.400 і на курсах майстроў соцыялістычнай працы 1.524 рабочыя.

Гэты агромны разварот тэхвучобы з'явіўся адным з важнейшых фактараў далейшага развароту стаханаўскага руху ў мясцовай прамысловасці і асваення новых норм выпрацоўкі.

Аднак наяўнасць значнай колькасці рабочых, неахопленых яшчэ тэхвучобай, рад дэфектаў у арганізацыі і ходзе тэхвучобы (няправільнае камплектаванне груп, адсутнасць на некаторых прадпрыемствах абсталяваных памяшканняў для тэхвучобы, недастатковасць педагагічных навыкаў у лектароў, аслабленне ў летні час наведвання заняткаў і інш.) гаворыць аб тым, што гэты ўчастак работы з'яўляецца яшчэ слабым звяном у справе кіраўніцтва стаханаўскім рухам. І, як рэзультат гэтага, побач з агромнай масай рабочых, якія выконваюць і перавыконваюць новыя нормы выпрацоўкі, на прадпрыемствах мясцовай прамысловасці ёсць яшчэ значная колькасць рабочых, не асвоіўшых новыя нормы.

У чэрвені па няпоўнаму колу прадпрыемстваў было яшчэ каля 6.000 рабочых, якія не выконвалі новыя нормы выпрацоўкі.

Так, па Белметалтрэсту лік рабочых, не выконваючых нормы, складаў у маі месяцы 34,3 проц., у чэрвені—31,8 проц. і ў ліпені—27,6 проц. Гэта здарылася ў выніку таго, што значная колькасць рашэнняў галінных канферэнцый на прадпрыемствах металапрамысловасці да гэтага часу яшчэ не праведзена ў жыццё. Поўнасцю не ўкарэнены новыя рэжымы рэзання, варштаты не пераведзены на індывідуальны прывод, рабочыя з-за неўкамплектаванасці цэхаў інструктарамі пазбаўлены вытворчага інструктажу, часта перакідваюцца з працэсу на працэс, і т. д.

Таксама нездавальняюча асвайваюцца новыя нормы ў швейнай прамысловасці. У ліпені гэта галіна мела 2.283 рабочых, не асвоіўшых новыя нормы выпрацоўкі або 26,4 проц. ад агульнай колькасці рабочых, у тым ліку па фабрыках: «Окцябр»—47 проц., «Сцяг індустрыялізацыі»—31 проц., імя Крупскай—37 проц., імя Дзержынскага—6,8 проц. і «Комінтэрн»—7,5 проц.

Наяўнасць у швейнай прамысловасці такіх фабрык, як «Комінтэрн» і імя Дзержынскага, па якіх невыкананне норм амаль ліквідавана, гаворыць аб тым, што на фабрыках «Окцябр», імя Крупскай пытанням асваення новых норм, вытворчага навучання рабочых не ўдзялялася і не ўдзяляецца належнай увагі, што на фабрыках «Окцябр» і «Сцяг індустрыялізацыі» інжынерна-тэхнічны персанал не забяспечыў належнай падрыхтоўкі вытворчага працэсу да пераходу на асенне-зімні сезон, у рэзультаце чаго ў ліпені ўзрасла колькасць рабочых, не выконваючых новых норм выпрацоўкі.

Значна таксама колькасць рабочых, не асвоіўшых новыя нормы ў шклянай прамысловасці.

Усе магчымасці для перавыканання новых норм—у наяўнасці. Тыя прадпрыемствы, якія ажыццявілі рашэнні галінных канферэнцый, разгарнулі тэхвучобу, забяспечылі ўкараненне новых норм выпрацоўкі ўзмацненнем вытворчага інструктажу, дабіліся таго, што новыя нормы асвоены ўсімі рабочымі.

Так, па скурзаводу імя Сталіна на 205 вытворчых рабочых, прыпадае 3 чал., невыконваючыя новыя нормы. Па скурзаводу «Большэвік» з 291 вытворчага рабочага не выконваюць новых норм 17 чал., у асноўным новаўцягнутыя ў вытворчасць рабочыя.

Аб тым, якое значэнне для асваення новых норм мае вытворчы інструктаж, увага і клопат аб падцягванні адстаючых рабочых, гавораць наступныя факты.

На абутковай фабрыцы імя Кагановіча рабочы Шэр выконваў старую норму толькі на 93—95 проц.

Асабістае вывучэнне дырэктарам фабрыкі тав. Кліорыным прычын адставання тав. Шэра, прымацаванне да яго майстра Крэмера для вытворчага навучання забяспечылі тое, што ў чэрвені тав. Шэр новую норму выпрацоўкі выканаў на 121 проц. Гэтым-жа метадам фабрыка імя Кагановіча дабілася ліквідацыі адставання вялікай колькасці рабочых.

На Віцебскім шчацінным камбінаце адміністрацыя і партыйная арганізацыя правялі рад гутарак з рабочымі, не выконваючымі новых норм, і выявілі прычыны адставання. Так, на працэсе «чоска пуху» з 72 рабочых недавыконвалі нормы 32 чал. Як выявілася, яны затрачвалі 20 мінут у змену для ўборкі рабочага месца. Пасля таго як для ўборкі рабочага месца быў пастаўлен дапаможны рабочы і прымацован інструктар для навучання адстаючых, прыкладна за поўмесяца было ліквідавана адставанне 24 чал. Аналагічныя факты мы маем па іншых прадпрыемствах мясцовай прамысловасці.

Пры ўвядзенні новых норм выпрацоўкі перабудоўвалася і зарплата. Гэты ўчастак работы мясцовай прамысловасці з'яўляўся найбольш адсталым. Даволі ўказаць на тое, што ў 1935 г. мясцовая прамысловасць амаль не ведала прагрэсіўна-здзельнай сістэмы аплаты працы. На аснове рашэнняў ЦК ВКП(б) у большасці галін прамысловасці зараз уведзена прагрэсіўная здзельшчына.

Увядзенне новых норм выпрацоўкі і прагрэсіўкі памножыла рады майстроў соцыялістычнай працы, забяспечыла значны рост зарплаты рабочых.

На торфзаводзе імя Гея брыгада Васіля Кудзіна, пры норме здабычы машынна-фармовачнага торфу 44 т. цэглаў у змену, у чэрвені дала сярэдне-сутачную зменную выпрацоўку ў 57 т. штук цэглы, дасягнуўшы ў паасобныя дні прадукцыйнасці ў 71 т. штук цэглы. Сцільшчык гэтай брыгады тав. Багданаў у чэрвені зарабіў 429 р. 36 к. замест 204 р., у тым ліку па прагрэсіўцы 110 р. Брыгада Кудзіна сезонны план скончыла 5/VII—36 г. замест 10/V—36 г. Аналагічныя паказчыкі мае брыгада Шэметава на заводзе «Чырвоны сцяг» і інш.

Лепшыя стаханаўцы менскага завода імя Кірава ў выніку перавыканання новых норм ва ўмовах перабудовы зарплаты значна павысілі свае заработкі. Слесар Шылак (месячная зарплата пры старых нормах 590 руб.) у ліпені зарабіў 942 р. Токар Худзікаў адпаведна: 590 р. і 1085 р., шышальнік Ахрэмчык—318 р. і 562 р. і т. д.

Столяр Мазырскай мэблевай фабрыкі Іваноўскі выконваў старую норму на 185 проц. і зарабляў 11 р. 33 кап. у дзень. Пры выкананні новай нормы на 200 проц. тав. Іваноўскі зарабляе зараз у дзень 19 р. 46 кап.

Майстры шклозавода «Окцябр» тт. Плацінскі і Жыжнеўскі, асвоіўшы новыя нормы выпрацоўкі, дабіліся ў чэрвені ў параўнанні з маем месяцам значнага росту зарплаты: першы з 419 р. да 508 р., другі з 384 р. да 437 р.

Па фабрыцы імя Кагановіча—тав. Скабло З., выканаўшы ў чэрвені 144 проц. новай нормы, зарабіў 796 р. Тав. Гуцін на строчцы наскоў пры перавыкананні ў красавіку старой нормы на 34 проц.,

зарабіў 347 р., а ў чэрвені, перавыканаўшы новую норму на 51 проц., ён дасягнуў заработку 497 р., і т. д.

У выніку няўхільнага разгортвання стаханаўскага руху мясцовая прамысловасць да яго гадавіны прыходзіць з агромнымі вытворчымі перамогамі. За 8 мес. 1936 г. выпуск прадукцыі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года вырас на 34 проц. Тэмп прыросту прадукцыі ў 1936 г. удвая перавышае тэмп, дасягнуты ў 1935 г. Толькі дзякуючы стаханаўскаму руху мясцовая прамысловасць атрымала магчымасць дзейснай рэалізацыі важнейшай дырэктывы XVII партз'езда аб забяспечанні ў другой пяцігодцы высокіх тэмпаў росту прадукцыі мясцовай прамысловасці, у першую чаргу галін, якія базуюцца на мясцовай сыравіне.

Як відаць з даных за 7 месяцаў 36 г., пры росце валавой прадукцыі ў цэлым па мясцовай прамысловасці на 34,5 проц., прамысловасць будматар'ялаў дала рост на 83,5 проц., у тым ліку па цэгле 97,4 проц., Хімкіраўніцтва—на 71,9 проц., Дрэўпромтрэст—на 62,6 проц., шкляная прамысловасць—на 42,9 проц., шчаціна-шчотачная—на 53,7 проц.

Па выпуску тавараў шырспажыву за 7 месяцаў 36 г. мясцовая прамысловасць дала прырост прадукцыі на 33,1 проц., прычым па важнейшых відах шырспажыву рост гэты значна вышэй. Так, выпрацоўка абутку супроць 7 месяцаў мінулага года ўзрасла на 44,2 проц., мэблі—на 57,4 проц., шкляных вырабаў—на 44,8 проц., трыкатажных—на 86,7 проц., і т. д.

Таксама значных поспехаў дабілася мясцовая прамысловасць у галіне павышэння прадукцыйнасці працы. За 6 месяцаў дасягнут рост на 18,8 проц., прычым па лёгкай прамысловасці, якая найбольш адставала ў мінулыя гады па якасных паказчыках, прадукцыйнасць працы ўзрасла на 23,2 проц.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) і студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б паставілі перад галінамі, якія перапрацоўваюць дэфіцытную сыравіну, задачу—накіраваць стаханаўскі рух, побач з барацьбой за высокую прадукцыйнасць, па лініі эканоміі сыравіны, зніжэння страт у браку і адыходах, палепшання якасці прадукцыі і яе падзешаўлення.

У радзе галін мясцовай прамысловасці (скурабутковая, шчаціна-шчотачная, швейная і інш.) стаханаўскі рух выявіў агромныя рэзервы эканоміі сыравіны, матар'ялаў і паліва. Як паказваюць папярэднія даныя, у мясцовай прамысловасці за 1936 г. будзе зэканомлена 8 проц. паліва. Фабрыка імя Кагановіча за час дэкадніка зэканоміла 2,77 проц. верхняга тавару (25 т. кв. дцм. хрому), 3,26 проц. жорсткага тавару; абутковая фабрыка імя Лекерта—5,5 проц. верхняга тавару. Аналагічныя паказчыкі дасягнуты былі скурзаводам імя Еўсцігнеева—9,9 проц., імя Сталіна—5 проц. ад усёй выдаткаванай у час двухдэкадніка сыравіны.

Рэалізацыя рашэнняў ЦК ВКП(б) аб кіраўніцтве стаханаўскім рухам, выкананне ўказанняў тав. Андрэева аб мясцовай прамысловасці БССР выклікалі новую хвалю разгортвання стаханаўскага руху і разам з тым далейшае палепшанне работы мясцовай прамысловасці па якасных паказчыках, зніжэнню сабекошту. Калі за I квартал сабекошт быў зніжаны толькі на 2,8 проц., то ў красавіку і маі зніжэнне сабекошту складала 5,5 проц., а ў чэрвені 6,8 проц.

Характэрна, што найлепшыя паказчыкі зніжэння сабекошту маюць якраз тыя га[illegible]ы і прадпрыемствы, якія забяспечылі кіраўніцтва і ўз-

пачалілі стаханаўскі рух. Прадпрыемствы, адстаючыя ў разгортванні стаханаўскага руху, далі значна ніжэйшыя паказчыкі. Так, скурабутковая прамысловасць пры гадавым заданні знізіць сабекошт на 5 проц. знізіла яго за першае паўгоддзе, без уліку змены цэн, на 6,7 проц., у тым ліку за чэрвень—на 10,7 проц. Прамысловасць-жа мясцовых будматар'ялаў, рад прадпрыемстваў якой не забяспечыў чоткага кіраўніцтва стаханаўскім рухам, мае значны прарыў: за першае паўгоддзе сабекошт зніжан толькі на 0,7 проц.; пры планавым заданні на II квартал у 20,1 проц., у чэрвені сабекошт зніізўся толькі на 9,5 проц.

* * *

Рэзервы, ускрытыя стаханаўскім рухам, з поўнай відавочнасцю даказалі, што зацверджаны гадавы план з'яўляецца толькі абавязковым мінімумам і што мясцовая прамысловасць мае ўсе магчымасці значна перавыканаць дзяржаўны план. Мясцовая прамысловасць БССР у адказ на заклік газеты «Правда» узяла абавязацельства дадаткова, звыш гадовага плана, даць у 1936 г. прадукцыі на 30 млн. руб. Аднак і гэта сума не з'яўляецца мяжой. У сучасны момант пры прапрацоўцы гэтага пытання на фабрыках і заводах сумесна з партыйнымі арганізацыямі выяўляюцца сустрэчныя прапановы з месц, што забяспечвае безумоўнае перавыкананне абавязацельства, прынятага Наркоммясцпромам БССР.

Работа мясцовай прамысловасці ў ліпені паказала, што ўсе яе звенні, замест таго каб мабілізаваць усе сілы на выкананне і перавыкананне даных партыі і ўраду абавязацельстваў па выпуску дадатковай прадукцыі, спадзяваліся на самацёк, аслабілі кіраўніцтва вытворчасцю, а ў выніку ліпеньскі план быў выканан толькі на 95,6 проц. У жніўні мясцовая прамысловасць некалькі выправіла становішча. Яна перавыканала план вытворчасці на 5,6 проц. і дала прадукцыі на 2 млн. рублёў звыш плана.

Дасягнуты ў жніўні пералом не дае ніякіх падстаў для самасупакоенасці, бо 31 прадпрыемства сваіх планавых заданняў не выканала. Як у ліпені, так і ў жніўні недавыканала план буйнейшая галіна шырспажыву—швейная.

Мясцовая прамысловасць, каб выканаць сваё мінімальнае абавязацельства па дадатковай прадукцыі на суму 30 млн. руб., павінна ў III квартале перавыканаць дзяржаўны план, што абавязвае шырока разгарнуць работу, каб забяспечыць у верасні значна большае, чым у жніўні, перавыкананне плана і даць, як мінімум, на 2,5 млн. руб. звышпланавай прадукцыі.

Выключную ролю ў паспяховым разгортванні стаханаўскага руху ў мясцовай прамысловасці адыгралі дапамога і канкрэтнае кіраўніцтва беларускай партыйнай арганізацыі. ЦК КП(б)Б правёў вялікую арганізацыйную работу па мабілізацыі мас на выкананне рашэнняў ЦК ВКП(б) аб кіраўніцтве стаханаўскім рухам у мясцовай прамысловасці і ўказанняў, зробленых тав. Андрэевым. Па даручэнню і пры дапамозе ЦК КП(б)Б у асноўных прамысловых цэнтрах былі праведзены нарады трыкутнікаў прадпрыемстваў. Сярод стаханаўцаў, рабочых і інжынерна-тэхнічнага персаналу разгорнута была работа па растлумачэнню пастановы ЦК ВКП(б). Асноўная ўвага была звернута на пытанне перабудовы зарплаты (укараненне прагрэсіўнай здзельшчыны,

па падцягванне адстаючых прадпрыемстваў, дапамогу адстаючым у выкананні новых норм выпрацоўкі рабочым, далейшае разгортванне стаханаўскага руху.

На базе праведзенай агромнай палітыка-масавай работы мы мелі ў маі, чэрвені і ў наступныя месяцы значны рост стаханаўцаў у мясцовай прамысловасці, прыметнае палепшанне якасных паказчыкаў работы.

Агромнае значэнне для ўздыму стаханаўскага руху безумоўна адыграла соцыялістычнае спаборніцтва паміж гарадамі і прадпрыемствамі БССР, якое праводзілася пад непасрэдным кіраўніцтвам гарадскіх і раённых камітэтаў КП(б)Б.

К гадавіне стаханаўскага руху мясцовая прамысловасць прышла з буйнымі перамогамі на ўсіх асноўных участках сваёй работы. Але перамогі першага стаханаўскага года не даюць права зазнавацца, здавальняцца дасягнутым, спачываць на лаўрах.

Стаханаўскі год мог-бы даць мясцовай прамысловасці значна больш, калі-б першыя перамогі не ўскружылі галаву многім работнікам прамысловасці. Замест штодзеннай барацьбы за знішчэнне яшчэ шматлікіх недахопаў у рабоце, замест большэвіцкай напорыстасці і настойлівасці ў рэалізацыі рашэнняў ЦК ВКП(б) аб палепшанні кіраўніцтва стаханаўскім рухам у мясцовай прамысловасці, некаторыя гаспадарнікі і інжынеры самаадстараніліся ад вырашэння гэтых важнейшых задач і аб'ектыўна сталі тармазіць стаханаўскі рух. Наша неадкладная задача—дабіцца ў найкарацейшы тэрмін ліквідацыі адставання тэхнічнага і арганізацыйнага кіраўніцтва ад растучай вытворчай актыўнасці рабочых мас.

Наш рабочы клас хутка і моцна асвойвае тэхнічную і агульную культуру. Рабочы клас нашай соцыялістычнай радзімы даказаў ужо, што ён здольны тварыць цуды. Справа за кіраўнікамі стаханаўскім рухам—гаспадарнікамі, інжынерна-тэхнічным персаналам, партыйнымі і профсаюзнымі арганізацыямі на месцах.

Задача зараз у тым, каб рашуча ліквідаваць непаладкі на вытворчасці, штодзенна паляпшаць тэхналагічны працэс і рашуча ўкараняць механізацыю. Ад інжынера і тэхніка патрабуецца канкрэтнае кіраўніцтва вытворчым працэсам, арганізацыя і нармаванне працы рабочых на даручаным участку, індывідуальная дапамога кожнаму адстаючаму рабочаму. Неабходна зламіць нявыжытую яшчэ ў мясцовай прамысловасці закаранеласць, а ў некаторых выпадках і супраціўленне перабудове зарплаты. Заахвочваючыя сістэмы аплаты працы—прагрэсіўная здзельшчына для рабочых і прэміяльная сістэма для ІТР—павінны стаць асноўнымі формамі аплаты працы ў мясцовай прамысловасці.

Рашуча павінна быць узнята справа арганізацыі тэхвучобы рабочых і павышэння кваліфікацыі ІТР. Арганізацыяй тэхвучобы і штодзенным кантролем за ходам заняткаў павінны займацца непасрэдна дырэктар і тэхдырэктар прадпрыемства. Неабходна з усёй сур'ёзнасцю паставіць пытанне аб адказнасці дырэктара прадпрыемства, трэста і кіраўніцтва за колькаснае і якаснае выкананне плана па тэхвучобе, як за выкананне плана па вытворчасці, працы і сабекошту.

Не гледзячы на агромны рост радоў стаханаўцаў, яны яшчэ не сталі большасцю рабочага класа. Агромная маса ўдарнікаў—магутны рэзерв для росту стаханаўскага руху—не карыстаецца яшчэ належнай увагай на прадпрыемствах мясцовай прамысловасці, што з'яў-

ляецца грубейшаю памылкай. Неабходна мабілізаваць увагу ўсіх грамадскіх арганізацый, гаспадарнікаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў на стварэнне ўдарнікам неабходных умоў для пераходу іх у рады стаханаўцаў.

Новыя дасягненні стаханаўцаў і ўсіх працоўных прагучэлі магутным адказам на агідную падрыўную работу трацкісцка-зіноўеўскай фашысцкай банды, якая спрабавала адабраць у працоўных СССР самае дарагое і каштоўнае—правадыра народаў таварыша Сталіна. Уся наша краіна з глыбокім задавальненнем спаткала вестку аб тым, што ворагі народу расстраляны.

Аднак вораг недабіт. З-за вугла ён будзе прабаваць нам шкодзіць. У перыяд зараджэння стаханаўскага руху класавы вораг імкнуўся затармазіць, сарваць яго разгортванне. Выкрыццё за апошні час у мясцовай прамысловасці прытаіўшыхся двурушнікаў і контррэвалюцыйных элементаў гаворыць аб тым, што ў нас мела месца прытупленне пільнасці. Адсюль задача—павысіць рэволюцыйную большэвіцкую пільнасць, каб да канца выкрыць ворагаў народу, ворагаў стаханаўскага руху, якія засталіся яшчэ ў прамысловасці.

Навучыцца кіраваць стаханаўскім рухам, як гэта патрабаваў снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) і студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б, дабіцца ў 2-м стаханаўскім годзе новых поспехаў—вось задача гаспадарнікаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў і партыйных арганізацый прадпрыемстваў, трэстаў і кіраўніцтваў мясцовай прамысловасці.

**А. Кірэеў**

Нам. сакратара смалявіцкага РК КП(б)Б

# Аб падрыхтоўцы і правядзенні партыйных сходаў

Праверка і абмен партыйных дакументаў дапамаглі нам ўскрыць рад буйных недахопаў у рабоце пярвічных партыйных арганізацый. Так, напрыклад, было выяўлена, што партыйныя сходы ў большасці праводзіліся бясплана̀ва, комуністы даведваліся аб сходзе за гадзіну, а то і перад самым яго пачаткам, і не маглі падрыхтавацца.

Фармальнае правядзенне партыйных сходаў не спрыяла разгортванню актыўнасці сярод комуністаў. Звычайна пры абмеркаванні важнейшых пытанняў выступалі 2—3 «штатныя» прамоўцы, большэвіцкая крытыка і самакрытыка не разгортваліся. Кандыдат партыі тав. Глушаніна (соўгас «Зарэчча»), член партыі тав. Нікіцін і кандыдаты Грынкевіч і Краеўскі (райаддзел НКВД) і інш. у спрэчках зусім не выступалі і не прымалі ўдзелу ў абмеркаванні пастаноў сходу.

У партарганізацыях МТС, соўгаса «Зарэчча», торфзаводаў імя Гея і «Чырвоны сцяг» няправільна размяркоўваліся партыйныя даручэнні. Многія комуністы былі перагружаны партыйнымі даручэннямі і не заўсёды поўнасцю і ў тэрмін маглі іх выканаць, тым часам як трэцяя частка складу партарганізацыі зусім не мела даручэнняў.

Кантроль за выкананнем пастаноў партыйных сходаў і партыйных даручэнняў пастаўлен быў зусім нездавальняюча, што аслабляла дысцыпліну і адказнасць членаў і кандыдатаў партыі за даручаную работу.

Ускрыўшы гэтыя недахопы ў партыйна-масавай рабоце, раённая партыйная арганізацыя па-большэвіцку ўзялася за знішчэнне іх.

Бюро райкома вялікую ўвагу ўдзяліла пытанню падрыхтоўкі і правядзення партыйных сходаў. Гэта пытанне спецыяльна абмяркоўвалася на пленуме і раённым партыйным сходзе.

Для дапамогі пярвічным партарганізацыям у падрыхтоўцы і правядзенні партыйных сходаў сістэматычна выязджаюць інструктары і члены РК. Сакратар і члены бюро райкома таксама робяць выезды і дапамагаюць у рабоце сакратарам парткомаў і парторгам. Яны разам абмяркоўваюць пытанні парадку дня, праводзяць гутаркі з членамі і кандыдатамі партыі, знаёмяцца з умовамі іх работы і вучобы, даюць практычныя парады і аказваюць дапамогу. Інструктары т. т. Бікман і Айзенштат знаёмяцца з умовамі хатняга жыцця членаў і кандыдатаў партыі, прывозяць ім мастацкую літаратуру і чытаюць разам з імі, дапамагаюць рыхтавацца да партыйных заняткаў і сходаў.

Партыйныя сходы праводзяцца ў строга планавым парадку 7 і 19 кожнага месяца. Члены і кандыдаты партыі не менш як за 5 дзён паведамляюцца аб чарговым партыйным сходзе і пастаўленых на ім пытаннях. У выніку гэтых мерапрыемстваў забяспечана своечасовая і поўная яўка на сходы, пытанні абмяркоўваюцца жыва, усе комуністы актыўна выступаюць у спрэчках і ўносяць канкрэтныя прапановы аб палепшанні работы.

За апошні час шырока практыкуюцца індывідуальныя справаздачы. Больш паловы членаў і кандыдатаў партыі ўжо выступалі з імі на паседжаннях парткомаў і партсходах. У працэсе падрыхтоўкі да самасправаздачы яны вельмі ўважліва аналізавалі сваю работу і вучобу, самі знашлі ў ёй рад істотных недахопаў і атрымалі ад таварышоў на партыйных сходах рад карысных парад і ўказанняў. Больш 20 індывідуальных справаздач заслухана на бюро РК.

У выніку перабудовы партыйна-масавай работы раней пасіўныя таварышы прымаюць актыўны ўдзел у рабоце партарганізацыі, уносяць канкрэтныя прапановы на сходах, выступаюць з рэзкай крытыкай недахопаў.

Кандыдат партыі тав. Косценка (Слабадская партарганізацыя) да праверкі партыйных дакументаў быў палітычна няграматны, зусім не працаваў над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, партсходы наведваў нерэгулярна, адарваўся ад партыйнага жыцця. Калі інструктар райкома тав. Бікман і прапагандыст тав. Ерэміхін пачалі сістэматычна наведваць Косценку і дапамагаць яму,—чалавек перамяніўся. Тав. Косценка цяпер рэгулярна наведвае партыйныя сходы і ўносіць каштоўныя прапановы, уважліва працуе над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, старанна рыхтуецца да заняткаў, чытае газеты і мастацкую літаратуру. Працуючы старшынёй аднаго з буйнейшых калгасаў раёна («Пролетарскі ўдарнік»), тав. Косценка вельмі ўважліва абмеркаваў з калгаснікамі праект сталінскай Канстытуцыі. Калгаснікі паважаюць яго, як добрасумленнага работніка і кіраўніка калгаса. У пачатку 1936 года тав. Косценка прэміраван за ўдарную пастаноўку развіцця жывёлагадоўлі і паспяховае выкананне калгасам сельскагаспадарчых задач.

Член партыі тав. Папека (партарганізацыя Драчкоўскага сельсовета) быў зусім адарваны ад партыйнага жыцця, нерэгулярна наведваў і амаль зусім не выступаў на сходах. Яму, як і астатнім членам і кандыдатам партыі, аказалі індывідуальную дапамогу інструктар і прапагандыст райкома. Зараз Папека дысцыплінаваны член партыі, акуратна рыхтуецца да сходаў, выконвае партыйныя даручэнні. У апошні час многа працуе над сабой, рыхтуецца да заняткаў, рэгулярна чытае газеты. З мастацкай літаратуры прачытаў: «Дрыгву» Я. Коласа, «Паднятую цаліну» Шолахава, «Як гартавалася сталь» Остроўскага і інш.

Член партыі Маскаленка (старшыня калгаса «Перамога», Амяльянаўскага с.-с.) пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў перабудаваў работу калгаса так, што ён з'яўляецца цяпер перадавым па выкананню гаспадарча-палітычных задач. Маскаленка праводзіць масавую работу сярод калгаснікаў, распрацоўвае з імі важнейшыя пастановы партыі і ўрада.

Кандыдаты партыі тт. Глушаніна, Грынкевіч, Краеўскі, член партыі Нікіцін і інш. пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў значна палепшылі работу на даручаных ім участках, прымаюць актыўны ўдзел у партыйным жыцці.

Члены партыі тт. Якімовіч (партком РК), Алексяёнак і Аляксейчык (партарганізацыя Слабадскога с.-с), раней ніколі не выступаўшыя з дакладамі на сходах пярвічных партарганізацый, на працягу апошніх пяці месяцаў зрабілі па 1—2 даклады, да якіх грунтоўна і добрасумленна рыхтаваліся.

Створаныя ў працэсе праверкі і абмену партдакументаў міжкалгасныя пярвічныя партыйныя арганізацыі, куды ўвайшлі комуністы-адзіночкі, уважліва рыхтуюцца да сходаў, заслухоўваюць індывідуальныя справаздачы членаў і кандыдатаў партыі, аказваюць ім штодзенную дапамогу ў вучобе і рабоце.

Значная ўвага ўдзяляецца пытанню правільнага размеркавання партыйных даручэнняў паміж комуністамі ў залежнасці ад іх палітычнага і агульнага ўзроўню развіцця.

На сходах абмяркоўваюцца амаль выключна пытанні ўнутрыпартыйнай і арганізацыйна-масавай работы.

За апошнія 5—6 месяцаў у пярвічных партыйных арганізацыях абмеркаваны наступныя пытанні: індывідуальныя справаздачы членаў і кандыдатаў партыі; рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б; выкананне §§ 2 і 50 статута членамі і кандыдатамі партыі; аб міжнародным становішчы; аб разгортванні стаханаўскага руху; пастановы пленума Камісіі совецкага кантроля; аб парушэнні ўнутрыпартыйнай дэмакратыі ў Менскай партарганізацыі (артыкулы «Праўды» і «Звязды»); аб партыйнай вучобе; матар'ялы працэсу аб трацкісцка-зіноўеўскай бандзе; пастанова бюро ЦК КП(б)Б аб партарганізацыі газеты «Звязда» і т. д.

На партыйных сходах сістэматычна ставяцца справаздачы сакратароў парткомаў і парторгаў аб выкананні пастаноў сходаў, а таксама аб выкананні членамі і кандыдатамі партыі партыйных даручэнняў.

Раённыя партыйныя сходы праводзяцца ва ўстаноўленым планам парадку, акрамя пазачарговых сходаў, выкліканых неабходнасцю. За 7—8 дзён да райпартсходу членам і кандыдатам партыі рассылаецца асабістае паведамленне, у якім указаны пастаўленыя на абмеркаванне сходу пытанні.

У працэсе падрыхтоўкі да райпартсходу ў пярвічныя арганізацыі выязджаюць інструктары, члены бюро, а таксама сакратар райкома.

На райпартсходзе выступае ў спрэчках звычайна 20—25 чалавек. Большая палова выступаючых—радавыя члены і кандыдаты партыі, занятыя на вытворчасці ў калгасах і соўгасах. Такія таварышы як Шарамет, Фурсевіч, Казак і іншыя раней не выступалі не толькі на раённых, але і на сходах пярвічных арганізацый.

Разам з глыбокай работай па падрыхтоўцы партыйных сходаў праведзены месячныя курсы агітатараў і прапагандыстаў. Мэта курсаў—падрыхтаваць кадры для разгортвання ў пярвічных партыйных арганізацыях сістэматычнай палітыка-выхаваўчай масавай работы як сярод членаў і кандыдатаў партыі, так і сярод беспартыйных.

Таварышы, прайшоўшыя месячныя курсы, праводзяць сур'ёзную работу па распрацоўцы пастаноў партыі і ўрада на вытворчасці, у калгасах і соўгасах. Яны вельмі ўважліва абмяркоўвалі з рабочымі і калгаснікамі праект сталінскай Канстытуцыі.

Праверка і абмен партыйных дакументаў, прапрацоўка матар'ялаў працэсу над белафашысцкай трацкісцка-зіноўеўскай бандай забяспечылі ўздым рэволюцыйнай пільнасці комуністаў, рост актыўнасці, умацаванне партыйнай дысцыпліны, адказнасць членаў і кандыдатаў пар-

тыі за даручаную работу. Наладжана і ўмацавана сувязь райкома з пярвічнымі партарганізацыямі, выраслі новыя кадры.

Партыйная арганізацыя, пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і лепшага сталінца кіраўніка большэвікоў Беларусі ордэнаносца тав. Гікало, яшчэ больш згуртуецца вакол Цэнтральнага Камітэта, вакол любімага правадыра міжнароднага пролетарыята вялікага Сталіна. Уздымам рэволюцыйнай пільнасці, сваёй энергіяй, воляй і практычнай работай яна забяспечыць своечасовае ўзорнае выкананне задач, ускладзеных на яе партыяй і ўрадам, бязлітасна пакончыць з недабітымі рэшткамі класавых ворагаў і на гэтай аснове забяспечыць уздым новай хвалі творчага энтузіязма і стаханаўскага руху ў раёне.

---

Ф. Ерэміхін

Прапагандыст смалявіцкага РК КП(б)Б

# Калгасны палітдзень

Некаторыя парторгі пярвічных калгасных партыйных арганізацый дагэтуль яшчэ не ўдзяляюць належнай увагі палітдням. У многіх камуністаў-адзіночак у калгасах правядзенне палітдзён застаецца толькі запісаным у плане работы. Здараецца таксама, што калгасны сход па вырашэнню гаспадарчых пытанняў лічыцца палітднём. Падмяняючы палітдні агульна-калгаснымі сходамі, парторгі зрываюць палітычную работу сярод калгаснікаў.

Трэба цвёрда памятаць, што асноўнае прызначэнне палітдня — палітычнае выхаванне калгаснікаў. Палітдзень павінен азнаёміць калгаснікаў з апошнімі рашэннямі партыі і ўрада на аснове глыбокага ўсебаковага вывучэння гэтых рашэнняў. Трэба дабівацца, каб у рэзультаце палітдня калгаснікі азнаёміліся з міжнародным і ўнутраным становішчам Совецкага Саюза.

Кожны палітдзень павінен расшыраць палітычны кругагляд калгасных мас, дапамагаць правядзенню ў жыццё гістарычнай задачы аб ператварэнні ўсіх калгаснікаў у свядомых працаўнікоў соцыялістычнага грамадства, яшчэ больш і мацней з'яднаць калгасныя масы вакол партыйнай арганізацыі калгаса, мабілізаваць іх на павышэнне прадукцыйнасці працы і паспяховае выкананне чарговых палітыка-гаспадарчых кампаній.

Прыходзячы на палітдзень, калгаснік павінен сустрэць таварыскую абстаноўку, атрымаць на ўсе хвалюючыя яго пытанні канкрэтныя і лёгка зразумелыя адказы.

Шматмільённае сялянства, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, цвёрда стала на шлях соцыялістычнага развіцця, на шлях культурнага заможнага жыцця. Але дасягнутыя перамогі многім кружаць галаву, часта прытупляюць палітычную пільнасць. Захапляцца дасягненнямі ні ў якім разе нельга.

Таварыш Сталін на студзеньскім пленуме 1933 г. сказаў:

«Рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў... Няма такой пакасці і паклёпу, якіх-бы гэтыя быўшыя людзі не ўзвялі на Совецкую ўладу і вакол якіх не паспрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных

партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў».

Жыццё пацвердзіла правільнасць гэтага папярэджання. Класавы вораг, на бруху прапязаючы ў партыю, не грэбаючы ніякімі сродкамі, у саюзе з нямецкай ахранкай, прабуе спыніць пераможнае будаўніцтва соцыялізма. Ад рукі подлых забойцаў з трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай зграі, якія цэліліся ў сэрца партыі, загінуў палкі трыбун рэволюцыі С. М. Кіраў.

Палітмасавая работа асабліва патрэбна цяпер для ўзмацнення палітычнай пільнасці калгаснікаў. На калгасныя партыйныя арганізацыі зараз ускладаецца вялікая, пачэсная і ў той-жа час адказная задача. Яна заключаецца ў-тым, каб растлумачыць калгаснікам, хто з'яўляецца нашым ворагам, растлумачыць метады работы класавага ворага на даным этапе. Неабходна паказаць сувязь паміж падкулачнікам і кулаком, паміж трацкісцка-зіноўеўскімі бандытамі, белагвардзейцамі і нямецкай ахранкай. Гэта можна паспяхова зрабіць на палітдні.

Кожны палітдзень павінен праходзіць на вялікай прынцыповай вышыні і адначасова ахапляць практычныя задачы, што стаяць перад даным калгасам і калгаснікамі.

Поспех палітдня ва многім залежыць ад умелай і добрай падрыхтоўкі. Бывае часта так, што за 2—3 гадзіны да пачатку сходу пасылаюцца 4—5 чалавек, якім даручаецца сабраць калгаснікаў. Аб чым будзе сход, якія пытанні будуць разбірацца пасланцы часта не ведаюць і самі. Гэтага не павінна быць. Да палітдня трэба рыхтавацца за 4—5 дзён. Абмеркаваўшы абвестку палітдня, партарганізацыя павінна кожнага комуніста замацаваць за пэўным участкам калгаса, каб за перыяд падрыхтоўкі кожны прымацаваны (можна скарыстаць і настаўнікаў) змог правесці некалькі гутарак аб тэме палітдня.

Нярэдка аб'ява аб палітдні пішацца на вырваным з сшытка лістку, або старой газеце. Гэта таксама нявeрна. Аб'ява павінна пісацца ярка, на добрай паперы і ў некалькіх экземплярах, якія вывешваюцца ў найбольш ажыўленых месцах калгаса.

Не малое значэнне ў правядзенні палітдня мае і падрыхтоўка памяшкання, дзе адбываецца сход. У памяшканні павінна быць светла і ўтульна, бо як-бы добра ні вялася падрыхтоўка да палітдня сярод калгаснікаў, але, калі ў памяшканні будзе цёмна, ды не будзе на чым сядзець, то бадай ці будуць калгаснікі ўважліва слухаць дакладчыка.

Найбольшую ролю ў палітдні адыгравае сам даклад. Калі дакладчык добра падрыхтаваўся, аўладаў фактамі з жыцця раёна, калгаса, калі ён гаворыць вобразна і жыва, яго слухаюць з цікавасцю, калі-ж дакладчык не падрыхтован, гаворыць незразумелай для калгаснікаў мовай, то цікавасць знікае і палітдзень не дасягае сваёй мэты. Каб добра падрыхтавацца к дакладу, трэба звязацца з райпартгабінетам, пабываць на кансультацыі, узяць не толькі матар'ял для дакладу, але і наглядныя дапаможнікі.

Дакладчык не павінен забываць, што сёнешні калгаснік патрабуе ведаў, што калгасная маса палітычна вырасла. Таму даклад павінен мець дзелавы характар. Лепш за ўсё пабудаваць яго з 3—4 вузлавых пытанняў, але прапрацаваць іх так грунтоўна, каб у слухачоў стварылася яснае ўяўленне аб сказаным.

Добра пры дакладзе мець геаграфічную карту. Паказванне на карце месц, дзе адбываюцца падзеі, лепш замацоўвае сказанае ў памяці

слухачоў. Рыхтуючыся к дакладу, трэба таксама ўлічыць, якія пытанні могуць задаць калгаснікі, якая будзе аўдыторыя.

Апошняе, на чым трэба спыніцца, гэта актыўнасць на палітдні. Аб гэтым таксама трэба паклапаціцца ў перыяд падрыхтоўкі. Прымацаваныя ў сваіх гутарках з калгаснікамі павінны сабраць пытанні дакладчыку, каб ён мог загадзя падрыхтаваць адказы. Трэба таксама намеціць мерапрыемствы, якія неабходна правесці ў рэзультаце палітдня. Не дрэнна будзе аб іх загадзя пагутарыць з актывам. Трэба таксама падрыхтаваць актыў і дапамагчы яму намеціць вузлавыя пытанні для выступленняў.

Камуністы павінны адыгрываць вядучую ролю на палітдні. Яны павінны ўзнімаць актыўнасць калгаснікаў, сачыць за тым, каб не было працягвання контррэвалюцыйных установак, вылазак класава-чуждых элементаў. Калі такія выступленні будуць, трэба адразу растлумачыць, што гэта гаворыць класавы вораг, трэба адразу-ж яго выкрыць, паказаць яго контррэвалюцыйную сутнасць.

* * *

У гэтым артыкуле я хачу падзяліцца сваім вопытам па падрыхтоўцы і правядзенню палітдзён у калгасах. Спынюся на апошнім палітдні ў калгасе «Культура», праведзеным 25 жніўня. За 6 дзён — на партсходзе — я абмеркаваў тэму палітдня. Вырашана было правесці палітдзень аб унутраным і міжнародным становішчы СССР. Азнаёміўшыся з планам майго даклада, партыйцы замацавалі за сабой пэўныя ўчасткі калгаса, намецілі калгаснікаў, у якіх павінны былі правесці гутаркі аб надыходзячым палітдні. Я растлумачыў прымацаваным, як скарыстоўваць газетныя матар'ялы для гутарак, як трэба збіраць пытанні к палітдню, высвятляць, што цікавіць калгасніка. Адначасова праверыў, як самі камуністы чытаюць газеты і разбіраюцца ў бягучай палітыцы. Сабраў пісьманосцаў і з імі таксама правёў гутарку аб палітдні, адначасова праверыўшы падпіску на газеты. На другі дзень сабраў членаў рэдкалегій насценных газет, правёў гутарку і дапамог падрыхтаваць насценгазету, прысвечаную палітдню. Кожнаму члену рэдкалегіі даў заданне правесці работу сярод сценкораў. Увечары праверыў, як прайшлі гутаркі з калгаснікамі, якія атрыманы пытанні.

Падрыхтоўка прайшла нядрэнна. Сабрана было каля 100 пытанняў, праведзена 7 гутарак сярод калгаснікаў і адна сярод моладзі. Вывешана 10 ярка і прыгожа напісаных аб'яў аб палітдні. Памяшканне для сходу было вымыта, прынесены лаўкі, вада для піцця, шашкі, даміно. За 20—30 мінут да сходу прышоў гарманіст, прынеслі патэфон.

Свой даклад я пабудаваў з чатырох вузлавых пытанняў: 1) становішча на Усходзе (Японія), 2) становішча на Захадзе (Германія), 3) работа контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў і іх сувязь з нямецкай ахранкай, 4) фашысцкі мяцеж у Іспаніі (дапамога Германіі і Італіі мяцежнікам). Праз гадзіну зрабілі перапынак на 25 мінут. У другой частцы даклада я прывёў рад гістарычных даведак аб Японіі, Германіі. Калгаснікаў асабліва зацікавіла мінулае Японіі. Спыніўся падрабязна на становішчы японскага селяніна і асабліва сялянак, зачытаў урывак з журнала «За рубежом» аб гандлі сялянскімі дзяўчынамі ў Японіі.

Гаворачы аб Германіі, зноў скарыстаў урыўкі з журнала «За рубе-

жом» і з кнігі «Записки штурмовика». На фактах паказаў, што фашызм у Германіі, прышоўшы да ўлады, яшчэ больш пагоршыў становішча працоўных. Расказаў аб той дапамозе, якую атрымліваюць нямецкія памешчыкі ад дзяржавы, і аб тых непасільных падатках, якія ўскладзены на нямецкага селяніна. Расказаў аб фактах, якія характарызуюць цесную сувязь нямецкага фашызма з японскімі генераламі, паказваюць на іх адзіную мэту—вайну супроць Совецкага Саюза. Спыніўся на сувязі трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў з нямецкай ахранкай «Гестапо».

Спыняючыся на фашысцкім мяцежы ў Іспаніі, не абмежаваўся газетным матар'ялам, а скарыстаў журнал «Спутник агитатора». Растлумачыў, чаму Германія і Італія падтрымліваюць мяцежнікаў. Даў гістарычны агляд Іспаніі, яе эканомікі. Расказаў аб сгановішчы іспанскага селяніна, аб контррэволюцыйнай ролі іспанскай царквы.

Знаёмячы калгаснікаў з матар'яламі працэсу над контррэволюцыйнымі трацкісцка-зіноўеўскімі бандытамі, падрабязна спыніўся на той агіднай барацьбе, якую яны вялі супроць партыі Леніна—Сталіна. Зачытваючы паказанні падсудных, расказаў, чаго хацела гэтая гніль і як ёй дапамагаў і кіраваў ёю Троцкі і нямецкая ахранка.

Закончыўшы даклад, зрабіў перапынак на 10 мінут, пасля якога адказваў на пытанні. Адказваючы на пытанне, як жыве селянін у Польшчы, я спачатку напомніў, як сяляне раней жылі і змагаліся за зямлю ў царскай Расіі і як жывуць калгаснікі цяпер. З жыцця нашага-ж раёна і нашага калгаса прывёў факты, якія сведчаць аб культурным і заможным жыцці калгаснікаў. Потым зачытаў выtрымкі з газет, рысуючыя жыццё польскага селяніна, які мае на сябе адзін прадмет прамысловай вытворчасці—металічны гузік на майтках і то царскай вытворчасці з двуглавым царскім арлом. Расказаў аб зашытых зімою ў салому дзецях польскага селяніна і напомніў пра пастанову совецкага ўрада аб дапамозе мацерам. Атрымалася яркае супастаўленне: у нас і ў іх. Прывёў факты росту рэвалюцыйнага руху працоўных Польшчы.

Шмат было пытанняў аб чырвонай арміі ў Кітаі. Маючы спецыяльную карту Кітая, паказаў на ёй рух кітайскай чырвонай арміі, кітайскія совецкія раёны. Напомніў аб паходах і перамогах нашай Чырвонай арміі. Падкрэсліў нечалавечую эксплаатацыю кітайскага селяніна, расказаў пра яго барацьбу, яго жыццё. Па сабраных загадзя пытаннях я меў магчымасць падрыхтавацца і ўлічыць жаданне калгаснікаў. Пераважная частка пытанняў была мною ўключана ў даклад.

Робячы даклад і адказваючы на пытанні, стараўся не адрывацца ад гаспадарча-палітычных задач калгаса, мабілізуючы масы на выкананне гэтых задач. Памятаў і аб тым, што палітдзень не павінен ператварыцца ў непатрэбную гаварыльню і што прынятыя мерапрыемствы павінны быць канкрэтнымі і выканальнымі.

---

# Трацкісцка-зіноўеўскія бандыты—галаўны атрад капіталістычнай рэстаўрацыі

Судовы працэс па справе трацкісцка-зіноўеўскага, тэрарыстычнага цэнтра яркім праменем пражэктара асвятліў усю агідную дзейнасць Троцкага, Зіноўева, Каменева і іх прыспешнікаў, усе смуродныя закавулкі контррэволюцыйнага, трацкісцка-зіноўеўскага падполля.

Значэнне суда над трацкісцка-зіноўеўскімі забойцамі заключаецца яшчэ і ў тым, што працэс да канца выкрыў **палітычны змест** трацкісцка-зіноўеўскага бандытызма, закончыўшага свой ганебны шлях цесным судружніцтвам з германскім фашызмам і арганізацыяй забойстваў кіраўнікоў першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы, кіраўнікоў совецкага народу і яго партыі—Усесаюзнай Комуністычнай партыі большэвікоў.

Расстраляныя па прыгавору Вярхоўнага суда СССР, трацкісцка-зіноўеўскія бандыты цалкам выкрыты як злейшыя ворагі народу, якія на працягу раду год змагаліся супроць соцыялізма і Советаў, супроць соцыялістычнай індустрыялізацыі і калектывізацыі, супроць растучага добрабыту працоўных СССР.

Трацкісты-зіноўеўцы выкрыты як прамыя агенты і супрацоўнікі фашызма, перашоўшыя да самых подлых сродкаў барацьбы супроць партыі і совецкай улады—да забойстваў лепшых людзей совецкага народу—толькі для таго, каб знішчыць соцыялізм, аднавіць капіталістычны лад, аднавіць звергнутую 19 год назад уладу памешчыкаў, фабрыкантаў і заводчыкаў.

Як старанна ні скрывалі нават на самым судзе главары трацкісцка-зіноўеўскай банды сапраўдныя пружыны сваёй зладзейскай дзейнасці, як ні дапамагаюць сваім супольнікам обер-бандыт Троцкі і фашысцкая прэса, як ні выдумляюць добраахвотныя абаронцы бандытаў: Сітрын, Фр. Адлер і інш.,—факт застаецца фактам: **сапраўдным сцягам трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра была рэстаўрацыя капіталізма на той частцы зямнага шара, дзе капіталістычны лад быў звергнуты ў кастрычніку 1917 года і дзе свабодны народ пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна пабудаваў соцыялістычнае грамадства.**

Гэтай адной мэце служылі ўсе свайго роду тэарэтычныя «абгрунтаванні» контррэволюцыйнага трацкізма на працягу многіх год.

Гэтай задачы была падпарадкавана антыпартыйная і антысовецкая падрыўная дзейнасць трацкістаў-зіноўеўцаў у нашай краіне і за яе межамі.

З гэтай мэтай трацкісцка-зіноўеўскія тэрарысты рыхтавалі гнуснае забойства таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў, чые імёны

ўвасабляюць новы грамадскі лад—соцыялізм, які ідзе на змену капіталізму і перамог у Краіне советаў.

Штурмавы атрад капіталістычнай рэстаўрацыі ў СССР—вось сапраўдны твар трацкісцка-зіноўеўскай банды!

Яшчэ ў 1921 годзе на X з'ездзе партыі Ленін, выкрываючы Троцкага і анарха-сіндыкалісцкую апазіцыю ў партыі, папярэджваў аб тым, што фракцыянеры, людзі, выступаючыя супроць партыі, супроць комунізма, настойваючы на сваіх памылках, на сваёй палітычнай лініі, працягваючы барацьбу супроць партыі, немінуча павінны скаціцца ў лагер белагвардзейскай контррэволюцыі.

Ганебны і подлы шлях трацкісцка-зіноўеўскай банды забойц паказвае, як бліскуча спраўдзілася гэта прарочае прадказанне Леніна.

Пачаўшы са стварэння антыпартыйнай фракцыі, пераходзячы да ўсё больш і больш вострых метадаў барацьбы супроць партыі, стаўшы пасля выгнання з партыі фокусам і рупарам усіх антысовецкіх, контррэволюцыйных груп і плыней, перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі, трацкісты-зіноўеўцы, скатваючыся са ступенькі на ступеньку, сталі ланцужнымі псамі фашызма, злейшымі ворагамі народу, пасягаючымі на жыццё яго правадыроў, сталі галаўным атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі, выказнікамі яе волі і надзей.

* * *

На XIV партыйным з'ездзе ў 1925 годзе Зіноўеў і Каменеў выступілі супроць ленінска-сталінскай тэорыі пабудовы соцыялізма ў адной нашай краіне. У хуткім часе пасля з'езда склаўся цесны блок трацкістаў і зіноўеўцаў.

Злобная атака трацкістаў-зіноўеўцаў супроць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне была асновай іх праграмы—праграмы капітуляцыі, аднаўлення капіталізма.

Капітуляцыя, здача заваёў Вялікай пролетарскай рэволюцыі, у СССР азначала толькі адно: зварот улады памешчыкаў і капіталістаў, зварот капіталістычнага ладу.

Іменна таму, што трацкісты-зіноўеўцы найбольш майстэрскі маскавалі гэту праграму, міжнародная буржуазія і класава-варожыя сілы ўнутры краіны ставілі стаўку на Троцкага, Зіноўева, Каменева і іх прыспешнікаў.

У працэсе ліквідацыі капіталістычных элементаў у СССР адна за другую зыходзілі з арэны разгромленыя і знішчаныя антысовецкія буржуазныя партыі—эсэраў, меншавікоў; іх месца заняла трацкісцка-зіноўеўская група, стаўшая апошняй надзеяй усіх ворагаў соцыялізма.

У 1925—1926 гадах Троцкі, Зіноўеў і Каменеў былі ўвасабленнем дробнабуржуазнай апазіцыі ўнутры ВКП(б), апазіцыі, якая пад прыкрыццём левых фраз супраціўлялася палітыцы індустрыялізацыі і калектывізацыі. 1925 год прадстаўляў велізарнейшую гістарычную веху ў развіцці пролетарскай рэволюцыі. Перад партыяй сталі задачы, якія па свайму гістарычнаму размаху зблізілі гэты перыяд з перыядам перадокцябрскім. На гэта ўказаў партыі таварыш Сталін:

> «Тады, у 1917 годзе, гутарка ішла аб тым, каб зрабіць пераход ад улады буржуазіі да ўлады пролетарыята. Цяпер, у 1925 годзе, гутарка ідзе аб тым, каб зрабіць пераход ад цяпе-

рашняй эканомікі, якую нельга назваць у цэлым соцыялістычнай, да эканомікі соцыялістычнай, да той эканомікі, якая павінна паслужыць матар'яльнай асновай соцыялістычнага грамадства»[1]).

Пастаноўка і вырашэнне гэтай велізарнейшай гістарычнай задачы пераходу да соцыялістычнай эканомікі былі падрыхтаваны ўсёй папярэдняй рашучай і беззаветнай барацьбою большэвікоў, кіруемых Леніным і Сталіным. Партыя пачала новую барацьбу—барацьбу за паварот да соцыялістычнай рэканструкцыі ў абстаноўцы агромных гаспадарча-палітычных труднасцей, у складанай міжнароднай абстаноўцы. У 1925 годзе фактам стала частковая і адносная стабілізацыя капіталізма, запаволенне тэмпу рэволюцыі ў капіталістычных краінах. Наша краіна да гэтага перыяду дабілася значных поспехаў у барацьбе за аднаўленне народнай гаспадаркі. Але галоўныя труднасці соцыялістычнай будоўлі былі яшчэ ўперадзе. СССР працягваў заставацца адсталай краінай з нязначнай індустрыяльнай базай, якая з'яўлялася астраўком у акіяне дробных і драбнейшых індывідуальных сялянскіх гаспадарак.

Іменна ў гэты перыяд набыла асобае, актуальнае значэнне развітая таварышом Сталіным ленінская тэорыя магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, набыло асобае значэнне пытанне аб лёсе соцыялізма ў нашай краіне. Капіталістычны свет з надзвычайнай варожасцю глядзеў на барацьбу большэвікоў за соцыялістычную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі. Міжнародны імперыялізм бачыў у Краіне советаў свайго галоўнага ворага, базу і магутны аплот міжнароднай соцыялістычнай рэволюцыі.

Падтрымліваючы ўнутраныя сілы контррэволюцыі—разбітыя, але яшчэ не знішчаныя эксплаататарскія класы,—імперыялізм узмоцнена рыхтаваў інтэрвенцыю супроць СССР. У гэтай барацьбе капіталістычны свет шукаў і знашоў у 1925 годзе новых саюзнікаў у асобе антыпартыйнай, трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі. Збыліся перасцярогі таварыша Сталіна, які гаварыў, што як перад Окцябром 1917 года былі людзі, спрабаваўшыя перашкодзіць партыі ў яе барацьбе за перамогу Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі, так і зараз, у 1925 годзе, знойдуцца людзі, якія пастараюцца перашкодзіць партыі ў яе барацьбе за перамогу соцыялізма ў нашай краіне. І не выпадкова гэтымі людзьмі аказаліся Зіноўеў і Каменеў: подлыя здраднікі—штрэйкбрэхеры Окцябра—выступілі ў ролі жалкіх капітулянтаў, спрабуючых прымусіць партыю адмовіцца ад ленінскага плана пабудовы соцыялізма ў саюзе з асноўнымі масамі сялянства, адмовіцца ад палітыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі, капітуляваць перад класавым ворагам і тым самым расчысціць шлях для рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне.

І паклёпніцкія сцверджанні аб капіталістычным характары нашых дзяржаўных прадпрыемстваў, накіраваныя супроць індустрыялізацыі краіны, і капітулянцкі план «дауэсізацыі»—ператварэння СССР у прыдатак капіталізма,—высунуты Сакольнікавым,—усё гэта былі практычныя пункты контррэволюцыйнай, трацкісцка-зіноўеўскай праграмы рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне.

Не дарма тады-ж на адной з нарад таварыш Дзержынскі кінуў Зіноўеву, выступаўшаму з антыпартыйнай прамовай, і ўсёй трацкісцка-

---

[1]) Сталін, „Аб Окцябрскай рэволюцыі“, стар. 106.

зіноўеўскай групе гнеўныя, кляймуючыя словы: «Вы кранштадцы! Вы здраднікі!»

Стары тэзіс Троцкага аб немагчымасці перамогі соцыялізма ў аднэй краіне, аб немінучасці пагібелі соцыялістычнай Расіі аказаўся самай прыгоднай праграмай для Зіноўева і Каменева, якія ў 1917 годзе актыўна змагаліся супроць соцыялістычнай рэволюцыі. Гэта трацкісцкая праграма і аб'яднала Троцкага, Зіноўева і Каменева ў іх барацьбе супроць партыі, супроць народу, супроць соцыялізма.

Змятаючы супраціўленне здраднікаў і штрэйкбрэхераў, партыя разгортвала шырокае гаспадарчае будаўніцтва, умацоўвала эканамічныя пазіцыі дыктатуры пролетарыята. З паваротам ад аднаўленчага да рэканструкцыйнага перыяду пачаўся адзін з самых рашаючых момантаў у гісторыі барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва. Абвастрылася супраціўленне класавых ворагаў. Са ўсёй вастрасцю перад Совецкім Саюзам паўстала пагроза інтэрвенцыі.

У гэтых умовах трацкісцка-зіноўеўскі блок павёў шалёную атаку супроць партыі і яе кіраўнікоў. Пад дымавой завесай паклёпніцкіх крыкаў аб «тэрмідоры»—аб быццам-бы буржуазным перараджэнні партыі і совецкай улады—трацкісты-зіноўеўцы разгортвалі праграму капітуляцыі, поўнай здачы заваёў Вялікай пролетарскай рэволюцыі і аднаўлення капіталістычнага ладу.

Трацкісцка-зіноўеўскі блок абвясціў лозунг паражэнцтва ў схватцы Совецкага Саюза з імперыялістамі. Трацкісты-зіноўеўцы пастаўлялі імперыялістам паклёпніцкі матар'ял, хлуслівыя даносы на партыю і совецкую ўладу, палягчаючы імперыялістам эканамічны націск і ваенны напад на СССР.

Трацкісты-зіноўеўцы адкрыта сталі на шлях арганізацыі другой партыі—партыі рэстаўратараў капіталізма. Падпольная фракцыйная арганізацыя, канспіруючая ад партыі, устройства тайных сходаў, нелегальных друкарань для друкавання антысовецкай літаратуры, пры садзейнасці яўных белагвардзейцаў—врангелеўскіх афіцэраў, антысовецкія дэманстрацыі,—вось які быў шлях контррэволюцыйнага перараджэння трацкістаў-зіноўеўцаў. Вычарпаўшы ўсе сродкі барацьбы з трацкісцка-зіноўеўскай, антыпартыйнай групай у рамках партыі, партыя на XV з'ездзе выкрыла сапраўдную сутнасць трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыі і выгнала са сваіх радоў яе лідэраў і актыўных удзельнікаў. Апынуўшыся за бартом партыі, Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і іх прыспешнікі поўнасцю, без замяшання праявілі сябе як антысовецкая партыя рэстаўратараў капіталізма, варожая совецкай уладзе, комуністам, варожая справе соцыялізма.

* * *

Трацкісты-зіноўеўцы хутка скінулі рэшткі левых адзенняў, у якія яны раней драпіраваліся. Левая фраза трацкістаў-зіноўеўцаў была выкрыта партыяй. Ісці к масам з адкрытай платформай рэстаўрацыі разбітая і ізаляваная трацкісцка-зіноўеўская група не магла. Іменна таму метады самага гнуснага двурушніцтва, ашуканства партыі і рабочага класа якраз з гэтага часу пачынаюць асабліва шырока прымяняцца трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыяй.

На XV з'ездзе партыі таварыш Сталін указаў на двурушніцтва як на адну з характэрных і асноўных рыс трацкісцка-зіноўеўскага блока. Таварыш Сталін закляйміў прамову Каменева, назваўшы яе «самай

хлуслівай, самай фарысейскай, самай шулерскай і машэнніцкай са ўсіх апазіцыйных прамоў».

«Чым вытлумачыць такія паводзіны апазіцыі?—заявіў таварыш Сталін на XV з'ездзе партыі.—Іх можна вытлумачыць толькі адным: жаданнем ашукаць партыю, усыпіць яе пільнасць, надуць яшчэ раз партыю. У апазіцыі два твары: адзін—фарысейска-ласкавы, другі—меншавіцка-антырэвалюцыйны. Яна паказвае партыі свой фарысейска-ласкавы твар, калі партыя націскае на яе і патрабуе ад яе адмаўлення ад фракцыйнасці, ад палітыкі расколу. Яна паказвае свой меншавіцка-антырэвалюцыйны твар, калі яна бярэцца апеляваць да непралетарскіх сіл, калі яна бярэцца апеляваць да вуліцы супроць партыі, супроць савецкай улады... Ці магчыма цярпець надалей гэту двайстасць, гэта двудушша? Ясна, што нельга цярпець больш ні адной мінуты».

К XV з'езду партыі ў трацкісцка-зіноўеўскага блока былі ў наяўнасці ўсе элементы партыі контррэволюцыі. У трацкістаў-зіноўеўцаў была свая праграма—праграма барацьбы супроць соцыялізма ў нашай краіне, праграма барацьбы за рэстаўрацыю капіталізма ў нашай краіне. У трацкісцка-зіноўеўскага блока была свая падпольная арганізацыя, якая шукала і знаходзіла сабе саюзнікаў сярод белагвардзейцаў, усё цясней змыкаўшыхся з усякім контррэволюцыйным атрэб'ем унутры і зне нашай краіны. У трацкісцка-зіноўеўскага блока былі свае кадры, выхаваныя Троцкім, Зіноўевым і Каменевым у духу звярынай нянавісці да партыі і яе кіраўніцтва, у духу нянавісці да правадыра нашай партыі—да геніяльнага Сталіна. Гэта былі кадры здольных на ўсё галаварэзаў, падрыхтаваных да сваёй будучай ролі палітычных забойц і бандытаў.

Ужо тады, напярэдадні XV з'езда партыі, тав. Молатаў указаў на наяўнасць злачынных, тэрарыстычных настрояў сярод апазіцыі.

«Але ў сучасных умовах,—заявіў тав. Молатаў у сваім дакладзе на маскоўскім партактыве,—калі сярод апазіцыі знаходзяцца людзі, якія не даражаць партыйнасцю, азлобленыя на партыю да апошняй ступені, завострание фракцыйнай барацьбы супроць паасобных кіраўнікоў партыі, у прыватнасці супроць тав. Сталіна, набывае прама злачынны характар. **Апазіцыя выхоўвае ў сваім асяроддзі некаторыя такія элементы, якія гатовы на любыя спосабы барацьбы з партыяй. Таму завострание барацьбы на асабістых нападках і на траўлі паасобных асоб можа служыць прамым падаграваннем злачынных тэрарыстычных настрояў супроць лідэраў партыі». (Галасы:** «Правільна») [2].

* * *

У бяссільнай ярасці трацкісцка-зіноўеўская контррэволюцыя старалася спыніць пераможнае наступленне соцыялізма.

У 1930 годзе Троцкі яшчэ раз фармуляваў праграму трацкісцка-зіноўеўскай антысовецкай групы.

Троцкі патрабаваў: «У галіне сельскай гаспадаркі затрымаць далейшую калектывізацыю... у галіне прамысловасці прыпыніць прыза-

[2]) Падкрэслена намі. — *Рэд.*

вую скачку індустрыі, адкінуўшы лозунг «Пяцігодка ў чатыры гады»... у галіне тэарэтычнай ліквідаваць тэорыю соцыялізма ў адной краіне».

Якраз у той момант, калі партыя вуснамі Сталіна заявіла на ўвесь свет аб разгорнутым наступленні соцыялізма па ўсяму фронту, контррэволюцыйныя трацкісты-зіноўеўцы ўзнялі сцяг поўнай рэстаўрацыі капіталізма, рэстаўрацыі ўлады памешчыкаў, фабрыкантаў і заводчыкаў. Гэта праграма контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай групы яшчэ раз пацвердзіла гістарычную праваты выкрыцця таварыша Сталіна, які пастаянна зрываў маску з гэтых капіталістаў.

«Капітулянцтва на справе, як **змест,** «левыя» фразы і «рэволюцыйна»-авантурысцкія замашкі, як **форма,** прыкрываючая і рэкламуючая капітулянцкі змест,—вось сутнасць трацкізма»,—гаварыў таварыш Сталін на XVI з'ездзе партыі.

Трацкісцка-зіноўеўскае контррэволюцыйнае атрэб'е адчула сябе акрыленым у 1931 і 1932 гадах. Справа ў тым, што іменна ў гэты час партыя сустрэлася з немалымі труднасцямі, галоўным чынам у галіне сельскай гаспадаркі. Чуючы сваю немінучую пагібель, рэшткі знішчаемых пролетарскай дыктатурай эксплаататарскіх класаў перайшлі да новай тактыкі. Класавыя ворагі спрабавалі пралезці ў кіраўніцтва калгасамі і соўгасамі і дэзарганізаваць там работу шляхам шкодніцтва, сабатажу заданняў дзяржавы. Гэта была спроба ўзарваць калгасы знутры, разлажыць іх. Вораг хацеў з гэтага канца звергнуць совецкую ўладу, устанавіць капіталістычны лад.

Трацкісцка-зіноўеўскіх контррэволюцыянераў акрыляў рост супраціўлення рэштак варожых пролетарскай дыктатуры класаў, іх натхняла капіталістычнае акружэнне СССР. У разліку на аслабленне совецкага тылу міжнародная контррэволюцыя паскорыла падрыхтоўку інтэрвенцыі. Бо вядома-ж, што інтэрвенты рыхтавалі ўдар супроць Совецкага Саюза на лета 1931 года, а Японія, у прыватнасці, падрабязна распрацавала план нападу на Совецкі Саюз у 1932 годзе.

Нарэшце, асколкі контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў ведалі, што побач з імі дзейнічаюць і іншыя абаронцы рэстаўрацыі капіталізма.

На самай справе, Промпартыя, контррэволюцыйная кандрацьеўская «Працоўная сялянская партыя», «Саюзнае бюро меншавікоў»—усе гэтыя арганізацыі шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў віталі барацьбу трацкістаў з партыяй, ведаючы, што ў асобе трацкістаў яны маюць падобных сабе абаронцаў звяржэння дыктатуры пролетарыята і рэстаўрацыі капіталізма.

Контррэволюцыйны замежны меншавіцкі цэнтр у дырэктыўным пісьме сваім агентам у СССР указваў, што «трацкісты ў выніку барацьбы з ЦК ВКП(б) па сутнасці сталі на пазіцыі соцыял-дэмакратыі» і што ім неабходна аказаць падтрымку, «якая павінна была выражацца ў салідарнай крытыцы з трацкістамі партыі» [3]).

У 1932 годзе трацкісцка-зіноўеўскія контррэволюцыянеры бяруць на сябе задачу кансалідацыі антысовецкіх груп.

Трацкісты-зіноўеўцы завязалі сувязі з правай апазіцыяй для сумеснай барацьбы супроць партыі. Асновы гэтых сувязей і іх сапраўдны змест выкрыў таварыш Сталін. У дакладах на XVI і XVII партыйных з'ездах таварыш Сталін паказаў, што імкненне рэстаўраваць ка-

---

[3]) Працэс контррэволюцыйнай арганізацыі меншавікоў, стар. 83. 1931.

пішталізм у СССР яднае контррэвалюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў з «капітулянтамі без маскі», як назваў таварыш Сталін правых.

«Вось вам праграма ганебных трусоў і капітулянтаў, контррэвалюцыйная праграма аднаўлення капіталізма ў СССР!—гаварыў таварыш Сталін на XVII з'ездзе партыі.—Чым яна адрозніваецца ад праграмы крайніх правых? Ясна, што нічым» [4]).

Ганебныя імёны Зіноўева, Каменева зноў усплываюць, калі партыя выкрывае контррэвалюцыйную групу рэстаўратараў капіталізма Руціна—Слепкова і іх супольнікаў з радоў правай апазіцыі (Угланаў) і права-«лявацкага» блока (Стэн).

У святле сёнешняга дня асабліва ясна відаць, якую велізарную гістарычную справу зрабіў таварыш Сталін, паказаўшы ў канцы 1931 года сапраўдную сутнасць трацкісцка-зіноўеўскай контррэвалюцыі ў яе «новай» якасці. Пісьмо таварыша Сталіна ў рэдакцыю журнала «Пролетарская революция» яркім пражэктарам асвятліла сапраўдную ролю трацкізма:

«На самай справе трацкізм ёсць перадавы атрад контррэвалюцыйнай буржуазіі, якая вядзе барацьбу супроць комунізма, супроць Совецкай улады, супроць будаўніцтва соцыялізма ў СССР.

Хто даў контррэвалюцыйнай буржуазіі духоўную зброю супроць большэвізма ў выглядзе тэзісаў аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, у выглядзе тэзіса аб немінучасці перараджэння большэвікоў і т. п.? Гэту зброю даў ёй трацкізм. Нельга лічыць выпадковасцю той факт, што ўсе антысовецкія групоўкі ў СССР у сваіх спробах абгрунтаваць немінучасць барацьбы з Совецкай уладай ссылаліся на вядомы тэзіс трацкізма аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, аб немінучасці перараджэння Совецкай улады, аб магчымасці звароту к капіталізму.

Хто даў контррэвалюцыйнай буржуазіі ў СССР тактычную зброю ў выглядзе спроб адкрытых выступленняў супроць Совецкай улады? Гэту зброю далі ёй трацкісты, спрабаваўшыя ўстроіць антысовецкія дэманстрацыі ў Маскве і Ленінградзе 7 лістапада 1927 года. Гэта факт, што антысовецкія выступленні трацкістаў падняді дух у буржуазіі і развязалі шкодніцкую работу буржуазных спецыялістаў.

Хто даў контррэвалюцыйнай буржуазіі арганізацыйную зброю ў выглядзе спроб устройства падпольных антысовецкіх арганізацый? Гэту зброю далі ёй трацкісты, арганізаваўшыя сваю ўласную антыбольшэвіцкую нелегальную групу. Гэта факт, што падпольная антысовецкая работа трацкістаў палегчыла арганізацыйнае афармленне антысовецкіх груповак у СССР.

Трацкізм ёсць перадавы атрад контррэвалюцыйнай буржуазіі.

Вось чаму ліберагізм у адносінах трацкізма, хоць-бы і разбітага і замаскаванага, ёсць галавацяпства, мяжуючае са злачынствам, здрадай рабочаму класу».

Гэта выдатная характарыстыка эвалюцыі трацкізма дапамагла партыі павысіць большэвіцкую пільнасць, убачыць ворага, як ён ёсць у рэчаіснасці.

[4]) Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 588.

* * *

Карта трацкісцка-зіноўеўскіх рэстаўратараў капіталізма, будаваўшых свае разлікі на труднасцях соцыялістычнага будаўніцтва ў 1932 годзе, зноў аказалася бітай. Ясная сталінская лінія барацьбы з класавым ворагам прынесла партыі поўную перамогу. Партыя разграміла кулацкі сабатаж і згуртавала калгаснікаў.

Лозунг «Пяцігодка ў чатыры гады», супроць якога так ярасна апалчыўся Троцкі, бліскуча ажыццявіўся ў рэчаіснасці. Пад геніяльным вадзіцельствам Сталіна партыя такімі хуткімі тэмпамі ўзмацніла абароназдольнасць Совецкай краіны, што ворагам і на Захадзе і на Ўсходзе прышлося адкласці ваенны напад на больш пазнейшы час. Партыя, нарэшце, раздушыла ўсе контррэволюцыйныя групоўкі, вестунамі якіх з'яўляліся трацкісты-зіноўеўцы.

Тады трацкісцка-зіноўеўская контррэволюцыя стала шукаць новую зброю для барацьбы супроць совецкай улады і партыі, за рэстаўрацыю капіталізма.

Раней, у 1927 годзе, Троцкі, Зіноўеў, Каменеў спрабавалі наладжваць антысовецкія дэманстрацыі, выклікаць забастоўкі на прадпрыемствах, распаўсюджваць контррэволюцыйныя лістоўкі. Усе гэтыя метады антысовецкай барацьбы былі разлічаны на тое, каб злавіць у сеці трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыі нейкую частачку мас, правакуючы сярод іх нездаволенасць палітыкай партыі і совецкай улады, спекулюючы на труднасцях. Але абстаноўка змянілася карэнным чынам.

Нельга больш спекуляваць на труднасцях таму, што сталінскі план соцыялістычнага наступлення прыносіць з кожным днём усё новыя і новыя перамогі, усе большы рост добрабыту працоўных Совецкага саюза. Няма каго клікаць на антысовецкую дэманстрацыю таму, што рэшткі варожых соцыялізму класаў разгромлены, а народ, совецкі народ, цеснымі, згуртаванымі радамі ідзе за партыяй, будуе соцыялізм пад яе сцягам, пад сцягам Сталіна. Бяссільнай аказваецца атрута трацкісцка-зіноўеўскага паклёпу на Совецкі Саюз за рубяжом: працоўныя ўсяго свету бачаць, як расце і мацнее аплот соцыялізма, ударная брыгада сусветнага пролетарыята.

Нельга разлічваць на безадкладны ўдар інтэрвентаў: бо ўжо апаясаны сцяной умацаванняў совецкія граніцы, ужо пераўзброена Чырвоная армія, ужо грахочуць танкі, ужо рэюць у паветры сталінскія сокалы—адважныя совецкія лётчыкі, гатовыя ў любы момант даць адпор зарваўшамуся ворагу.

Збанкрутаваўшаяся ўканец, пагарджаная народам, трацкісцка-зіноўеўская контррэволюцыйная група рашае дабіцца сваёй мэты—рэстаўрацыі капіталістычнага ладу—шляхам гнуснага, белагвардзейскага тэрору. Трацкісцка-зіноўеўскія вырадкі, стаўшы на шлях палітычнага бандытызма, ашуканчым шляхам варочаюцца ў партыю, надзяваюць лічыну лаяльнасці ў мэтах лепшай канспірацыі і маскіроўкі, каюцца ў друку, на з'ездах у былых сваіх злачынствах.

Іменна ў гэты час, у 1932 годзе, утвараецца трацкісцка-зіноўеўскі, тэрарыстычны цэнтр і глава яго—Троцкі—перадае сваім падручным дырэктыву—арганізаваць забойствы кіраўнікоў партыі і совецкай улады.

Падрыхтоўка забойстваў кіраўнікоў партыі і ўрада завяршыла злачынны шлях трацкісцка-зіноўеўскай групы. Колькі раз у пачатку выступленняў гэтай групы супроць партыі партыя папярэджвала трацкі-

стаў-зіноўеўцаў аб немінучых выніках іх антыпартыйнай дзейнасці! Колькі раз прабачала партыя злачынствы трацкістаў-зіноўеўцаў, спадзеючыся на іх выпраўленне! Каменеў і Зіноўеў, мацёрыя трацкісты Мрачкоўскі і Смірноў павінны былі прызнаць на судзе, што партыя, Цэнтральны Камітэт і таварыш Сталін рабілі ўсё магчымае, каб устрымаць іх ад контррэвалюцыі. Але, раз стаўшы на шлях барацьбы супроць соцыялізма, трацкісты і зіноўеўцы немінуча скатваліся ўніз са ступенькі на ступеньку. Ад непадпарадкавання большасці партыі, ад фракцыйнай барацьбы да друкавання нелегальных лістовак, да стварэння заканспіраванага падполля, да арганізацыі антысовецкіх вулічных дэманстрацый і стачак, да змычкі з белагвардзейшчынай, нарэшце, да гнуснага тэрору супроць кіраўнікоў комуністычнай партыі і совецкага ўрада, да забойства Сергея Міронавіча Кірава, да замаху на правадыра народу таварыша Сталіна і яго саратнікаў, да саюзу з крывавай ахранкай германскага фашызма (Гестапо)—вось ганебны шлях трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыі.

На гэтым прыкладзе поўнасцю спраўдзіліся ўказанні Леніна ў 1921 годзе на X з'ездзе партыі аб тым, што дробнабуржуазная, анархічная контррэволюцыя «ёсць палітычная ступень да белагвардзейшчыны» і што фракцыя, якая настойвае на сваіх памылках, абавязкова апынецца ў лагеры ворагаў соцыялізма, ворагаў совецкай улады.

На судовым працэсе па справе трацкісцка-зіноўеўскага, тэрарыстычнага цэнтра Каменеў і Зіноўеў тлумачылі сваю гнусную, тэрарыстычную дзейнасць... «прагнасцю ўлады»...

Мізэрны фарс!

Але чаму-ж так многа аб гэтым балбаталі главары фашысцкіх бандытаў? Чаму за гэта «тлумачэнне» з такой радасцю ўхапіўся фашысцкі друк, які разважае падобна «Франкфуртэр цэйтунг» аб «палкай амбіцыі» Каменева і Зіноўева, успамінае з гэтага поваду Дастаеўскага і т. п.?

Кожны, хто мысліць па-марксісцку, ведае, што за імкненнем да ўлады заўсёды скрываюцца зусім рэальныя інтарэсы грамадскіх груп, класавыя інтарэсы, стаяць клас або класы.

Для кожнага марксіста з'яўляецца азбукай, што ўлады «прагнуць» і за яе змагаюцца іменна для таго, каб ажыццявіць пэўныя мерапрыемствы, рэальную праграму, якая дыктуецца інтарэсамі пэўнага класа, іх адлюстроўвае і выражае. Праўда, гэта праграма ні ў якім разе не заўсёды адкрыта фармулюецца або абнародваецца: часцей за ўсё гэта рэальная праграма ўсяляк прыкрываецца шырокавяшчальнымі дэкларацыямі, балбатнёй, утончанай соцыяльнай дэмагогіяй, як напрыклад у фашыстаў або ў соцыял-здраднікаў. Але гэта ніколькі не змяняе становішча. Марксіст якраз і павінен здолець разгледзець і паказаць тую сапраўдную, дзейсную праграму, якою на справе кіруецца даная палітычная група або партыя.

Толькі ідыёт або рахубны фашысцкі дэмагог будзе тлумачыць захоп Італіяй Абісініі «прагнасцю ўлады» Мусаліні, а мяцеж іспанскіх фашыстаў—нестрыманай амбіцыяй генералаў Мола і Франко.

Хіба голая прагнасць улады пабуджае Гітлера рубіць галавы германскім комуністам?

Спроба злоўленых на гарачым учынку главароў тэрарыстычнай банды вытлумачыць тэрор супроць кіраўнікоў партыі і Совецкага ўрада сваім уладалюбствам была апошняй хлуснёй, апошнім двурушніцтвам ворагаў народу.

Каменеў і Зіноўеў не маглі нават на судзе—іх фашысцкія абаронцы

не могуць і зараз—сказаць праўду аб праграме трацкісцка-зіноўеўскага, тэрарыстычнага цэнтра.

Белагвардзейскі тэрор ніколі не быў беспраграмным. Калі белаэсэрка Каплан накіроўвала дула рэвальвера ў сэрца Леніна, яна, як і арганізатары замаху—цэнтральны камітэт белаэсэраў,—ставіла перад сабой зусім пэўную задачу—аднавіць тое, што было змецена Вялікай пралетарскай рэвалюцыяй за 10 месяцаў да 30 жніўня 1918 года.

Калі ў 1922 годзе белагвардзеец Конрадзі страляў у тав. Вароўскага ў Лазанне, а ў 1927 годзе белагвардзеец Каверда—у тав. Войкава ў Варшаве, страляўшыя бандыты мелі цвёрдую праграму: сарваць мірную палітыку СССР, справакаваць вайну супроць Краіны советаў, дабіцца гэтым шляхам звяржэння совецкай улады, аднаўлення капіталізма.

**І тую-ж самую праграму знішчэння совецкай улады, знішчэння соцыялістычнага ладу, поўнага аднаўлення капіталізма, улады памешчыкаў і фабрыкантаў ставілі перад сабою Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і іх прыспешнікі, забіваючы тав. Кірава, падымаючы рэвальвер супроць таварыша Сталіна і яго саратнікаў.**

Расстрэлены цяпер бандыт Смірноў гаварыў на судзе, што праграма не з'яўлялася прадметам абмеркавання трацкісцка-зіноўеўскага контррэвалюцыйнага падполля.

Зразумела чаму: тэрарыстам не было чаго абмяркоўваць праграму, бо яна была даўно вынашана ўсім ходам іх шматгадовай барацьбы супроць партыі.

Тэрарыст Рэйнгольд прымушан быў пацвердзіць на судзе, што трацкісцка-зіноўеўскі, тэрарыстычны цэнтр не лічыў патрэбным ствараць якую-небудзь іншую праграму, акрамя той, якую ён меў раней.

Дый хіба магла быць у ворагаў соцыялізма іншая праграма, чым праграма рэстаўрацыі капіталістычнага ладу?

Барацьба супроць пабудовы соцыялізма заўсёды азначала, і ў тэорыі і на практыцы, барацьбу за рэстаўрацыю капіталізма, за аднаўленне ўлады эксплаататараў.

Але іменна гэту рэстаўратарскую праграму не маглі паказаць народу трацкісцка-зіноўеўскія тэрарысты. Яны не адважыліся сказаць аб ёй нават напярэдадні суровай адплаты пролетарскага суда. Яны захавалі гэту праграму яшчэ глыбей, чым хавалі заражаныя браўнінгі забойцаў.

Гнуснейшая праграма!

Гнуснейшыя сродкі яе ажыццяўлення—вось што самкнула трацкісцка-зіноўеўскі, тэрарыстычны цэнтр з фашызмам, вось што спаяла Троцкага, Зіноўева, Каменева і іх прысных у цесны саюз з Гестапо.

У 1932 годзе стварaецца трацкісцка-зіноўеўскі, тэрарыстычны цэнтр. 30 студзеня 1933 года ў Германіі, на крыві рабочага класа, прыходзяць да ўлады гітлераўцы—гэта найбольш рэакцыйная разнавіднасць фашызма. Супадзенне ў часе гэтых падзей не выпадкова. Трацкісцка-зіноўеўская контррэволюцыя аказалася кроўнай па духу дыктатуры «найбольш рэакцыйных, найбольш шавіністычных, найбольш імперыялістычных элементаў фінансавага капітала». У асобе трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў міжнародная контррэволюцыйная буржуазія знайшла галаўны атрад, «вартага» выразніка сваёй волі і надзей.

Фашысты ставяць сваёй мэтай захаваць капіталістычную сістэму.

Мэта трацкістаў-зіноўеўцаў—аднавіць гэту сістэму на адной шостай частцы земнага шара, дзе яна знішчана працоўнымі СССР.

Фашызм з'яўляецца галоўным падпальшчыкам імперыялістычнай вайны і зачыншчыкам крыжовага паходу супроць Совецкага Саюза. Трацкісцка-зіноўеўскія бандыты імкнуцца запаліць пажар вайны супроць Краіны советаў, таму што ў гэтай вайне яны бачаць шлях к аднаўленню капіталізма.

Не дарма Троцкі, Зіноўеў і Каменеў з выключным цынізмам рыхтавалі паражэнне Совецкага Саюза ў будучай вайне з фашысцкімі інтэрвентамі.

Не дарма лозунг барацьбы з «сусветным большэвізмам», аб якім зноў трызвоняць Гітлер і Геббельс на Нюрнбергскім фашысцкім з'ездзе, яднае Гітлера і Троцкага.

Трацкісцка-зіноўеўскія агенты фашызма могуць сапернічаць са сваімі гаспадарамі—фашыстамі—у злобнай нянавісці да соцыялізма, да комуністычнай партыі і яе кіраўнікоў, да шчаслівага жыцця народаў Совецкага Саюза. Фашызм сустракае ў трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў кроўную неразборлівасць у выбары самых гнусных, самых агідных сродкаў барацьбы з совецкай уладай. Трацкісцка-зіноўеўскія тэрарысты незамянімы для фашызма па ўменню маскавацца. Які другі агент Гестапо, як не трацкіст-зіноўевец, можа так лоўка прыкрыцца партыйным білетам, двурушнічаючы, уцерціся ў давер'е к партыі, унутранае жыццё якой ён ведае на працягу многіх год? Які другі супрацоўнік фашысцкай тайнай паліцыі прашоў такую працяглую «школу» антыпартыйнай і антысовецкай барацьбы, глыбокага контррэволюцыйнага падполля, подлай правакацыі, белагвардзейскага шпіянажу, дыверсіі і тэрору?

Нарэшце, контррэволюцыйная буржуазія за межамі СССР асабліва цэніць свой галоўны атрад—трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў—іменна таму, што яны імкнуцца фізічна знішчыць лепшых людзей рабочага класа, лепшых людзей чалавецтва, кіраўнікоў комуністычнай партыі і совецкай улады, імкнуцца абезгаловіць працоўныя масы.

* * *

Аб правадырах пролетарскай рэволюцыі Ленін гаварыў, што яны паўней і цальней чым хто-небудзь выражаюць «самыя галоўныя і самыя істотныя рысы пролетарскай рэволюцыі».

Іменна ў гэтым Ленін бачыў значэнне кіраўнікоў рэволюцыі рабочага класа.

У нашу эпоху самыя галоўныя і самыя істотныя рысы соцыялістычнай рэволюцыі выражае перш за ўсё геніяльны правадыр працоўнага чалавецтва, вялікі прадаўжальнік справы Леніна—таварыш Сталін, і разам з ім яго бліжэйшыя саратнікі—штаб соцыялізма—Палітбюро Цэнтральнага Камітэта ВКП(б). Для народу Краіны советаў у Сталіне і яго саратніках увасоблен соцыялізм—шчаслівае сучаснае і радаснае будучае 170-мільённага народу Саюза ССР і надыходзячыя перспектывы для чалавецтва, якое яшчэ пакутуе пад ігам капіталізма, фашызма. Імя таварыша Сталіна, імёны яго бліжэйшых саратнікаў: Молатава, Кагановіча, Варашылава, Орджанікідзе, Касіора, Постышэва, Жданава—даўно сталі роднымі, блізкімі для ўсяго совецкага народу—

«От Москвы до самых до окраин,
С южных гор до северных морей...»

У думках і сэрцах народу імя вялікага Сталіна азначае перамогу сацыялістычнага ладу, выражае лепшыя надзеі і імкненні працоўных мас. З гэтымі перамогамі звязаны і імёны сталінскіх саратнікаў. Імя таварыша Молатава звязана з умацаваннем органаў пролетарскай дыктатуры—Советаў; імя тав. Кагановіча—з умацаваннем сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, з ростам совецкай сталіцы, з бурным ростам нашага чыгуначнага транспарту; імя тав. Варашылава—з несакрушымай Чырвонай арміяй, з умацаваннем абароназдольнасці сацыялістычнай радзімы; імя Серго Орджанікідзе—з магутным развіццём сарцавіны індустрыялізацыі—цяжкай прамысловасці.

Таварыш Сталін разам са сваімі бліжэйшымі саратнікамі кіруе пераможным будаўніцтвам сацыялізма, пабудовай бяскласавага, сацыялістычнага грамадства.

Гэта ведае, бачыць, адчувае штодзенна, штогадзінна 170-мільённы совецкі народ. Вось чаму з такой гарачай, удзячнай любоўю і аддасцю адносяцца народныя масы да свайго правадыра. Вось чаму з такой цеплынёй вымаўляюцца побач з іменем Сталіна імёны Молатава, Кагановіча, Варашылава, Орджанікідзе.

Сталін і яго саратнікі—правадыры народу: у інтарэсах **народу** яны кіруюць вялікай будоўляй сацыялізма.

Гэта ведае Троцкі, гэта ведалі Зіноўеў, Каменеў і іх прыспешнікі. Іменна таму яны забілі любімага народам палкага трыбуна Сергея Міронавіча Кірава, іменна таму яны рыхтаваліся забіць таварышоў Сталіна, Молатава, Кагановіча, Варашылава, Орджанікідзе, Касіора, Постышэва, Жданава.

Бандыты ведалі, куды яны цэлілі. Падымаючы руку на Сталіна, рыхтуючыся подла забіць членаў Палітбюро Цэнтральнага камітэта Усесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў, яны рабілі замах на палітыку ВКП(б), сапраўды народную палітыку, на сацыялізм, заваяваны, пабудаваны совецкім народам. Яны рабілі замах на сацыялістычную індустрыялізацыю, на выдатныя фабрыкі і заводы, пабудаваныя гераічным рабочым класам Совецкага Саюза. Яны рабілі замах на калектывізацыю сельскай гаспадаркі, на квітнеючыя калгасы і соўгасы, створаныя працоўнымі ў баях з азвярэлым кулацтвам. Яны рабілі замах на растучы добрабыт народных мас, на іх матар'яльны добрабыт, на растучую нацыянальную па форме і сацыялістычную па зместу культуру, на судружніцтва народаў Совецкага Саюза.

Рыхтуючыся забіць правадыроў народу, трацкісцка-зіноўеўскія бандыты рабілі замах на ўвесь народ, на пабудаваны ім шчаслівы, сацыялістычны лад, для таго, каб аднавіць пракляты гнёт капіталізма. Вось для чаго аб'ядналіся асцервянелыя ворагі народу: обер-бандыт Троцкі, главары тэрарыстаў, прапечаныя майстры двурушніцтва і здрады: Зіноўеў і Каменеў, іх падручныя Пікель, Еўдакімаў, мацёрыя трацкісты Смірноў, Мрачкоўскі, Тэр-Ваганян, Рэйнгольд, прысяжныя забойцы Бакаеў і Дрэйцэр, агенты германскай ахранкі (Гестапо) Ольберг, Маісей і Натан Лур'е, дыверсанты і тэрарысты, пасланыя Троцкім, Фрыд Давід, Гольцман, Берман-Юрын.

Вось чаму так цесна згуртаваліся ў сваёй гнуснай і подлай дзейнасці Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і іх зграя з фашысцкай ахранкай—Гестапо.

Недарма фашысцкая прэса так старанна замятае сляды сваіх агентаў—расстраляных тэрарыстаў і Троцкага. «Франкфуртэр цэйтунг» з пенаю ў роце крычыць, што звесткі аб сувязях трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў з фашыстамі з'яўляюцца «агітацыйным шумам». Фашысц-

кія пісакі са здавальненнем цытуюць наскрозь хлуслівую кнігу Троцкага «Маё жыццё» для таго, каб даказаць «рэволюцыйнасць» Троцкага і яго спадручных.

Да хору фашысцкай прэсы далучыўся голас людзей, якія даўно зарэкамендавалі сябе як «адданыя без ліслівасці» слугі буржуазіі. Паны Сітрыны, Фрыдрыхі Адлеры, де Брукеры і соцыял-дэмакратычная прэса розных масцей і адценняў узялі на сябе ганебную ролю адвакатаў трацкісцка-зіноўеўскіх забойц, ролю фашысцкіх падпявал. Мэта гэтых адвакатаў ясна: яны імкнуцца скрыць ад міжнароднага рабочага класа сапраўдную сутнасць трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў—галаўнога атраду рэстаўратараў капіталізма ў СССР.

Аднак Сітрынам і іх супольнікам не ўдасца схаваць канцы ў воду і ашукаць рабочы клас. Судовы працэс ускрыў да канца з неабвяргальнай яснасцю агідную праграму трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў—рэстаўратараў капіталістычнага рабства—і агідныя сродкі ажыццяўлення гэтай праграмы.

Вось чаму ўвесь 170-мільён                                              ны совецкі народ, рабочыя ўсіх краін свету—усё, што ёсць сумленнага сярод чалавецтва,—праклёнам нянавісці адказаўшыя бандытам, вітаюць суровы і справядлівы прыгавор совецкага суда.

* * *

Пільнасць вартавога совецкай дзяржавы—органаў Наркамвнудзела—разбурыла зладзейскія замыслы Троцкага, Зіноўева і Каменева. Трацкісцка-зіноўеўскія бандыты прадсталі перад совецкім судом і панеслі заслужаную кару.

Совецкі суд над трацкісцка-зіноўеўскімі забойцамі стаў для іх судом гісторыі. У кожным слове прыгавору Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда тучыць гістарычная праўда народу, звергнуўшага назаўсёды іга эксплаатататараў.

Разлікі фашысцкіх наймітаў: Троцкага, Зіноўева і Каменева, кіраўнікоў галаўнога атраду контррэволюцыйнай буржуазіі за межамі СССР—на аднаўленне капіталізма ў нашай краіне праваліліся з трэскам так сама, як і разлік іх папярэднікаў—белаэсэраў, Промпартыі, кандрацьеўцаў і меншавікоў.

Соцыялістычны лад умацаваўся ў нашай краіне **трывала, непахісна, беззваротна**. Нікому не павярнуць гісторыі назад. Ніколі не вернецца ўлада памешчыкаў і капіталістаў.

Совецкі народ пад кіраўніцтвам Усесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў і правадыра народу вялікага Сталіна пойдзе да новых грандыёзных перамог соцыялізма. Кожны, хто асмеліцца стаць упоперак гэтага шляху, будзе падобна трацкісцка-зіноўеўскім бандытам змецены ў сметнік гісторыі.

*„Большэвик"*

# Пабудова социялізма ў нашай краіне і контррэвалюцыйны трацкізм

## I

У кожнага чэснага грамадзяніна нашай вялікай радзімы глыбокім абурэннем ускіпае сэрца пры новых вестках аб гнуснай контррэвалюцыйнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскага атрэп'я. Бяспрыкладнае па подласці двурушніцтва, як сістэма адносін да партыі, да рабочага класа, да краіны социялізма; белагвардзейскі тэрор, як асноўны метад барацьбы; шпіёнскія і дыверсанцкія справы, як даволі істотнае дапаўненне да тэрарыстычных планаў,—вось малюнак палітычнага бандытызма, арганізаванага па прамых дырэктывах Троцкага, Зіноўева, Каменева. Імёны гэтыя даўно акружаны ў нашай краіне ўсеагульнай знявагай і нянавісцю, а справы іх брудных падручных, частка якіх да нядаўнага часу прыкрывалася партыйнымі білетамі, выклікаюць натуральныя пачуцці гадлівасці і брыдоты.

Ад апазіцыі ўнутры партыі да самай агалцелай белагвардзейшчыны—такі пройдзены імі шлях. На гэтым шляху гнусных здрад і падлейшых здрадніцтваў трацкізм заставаўся верны сабе, бо гэтыя рысы яму ўласцівы ад прыроды. Зусім не выпадкова трацкісцка-зіноўеўскія выродкі сталі арганізуючым цэнтрам для самых азлобленых асколкаў разбітых ушчэнт эксплаатататарскіх класаў: цяжка ўявіць сабе элемент, больш прыдатны для гэтай ролі.

Рад гадоў трацкізм змагаўся супроць нашай партыі па карэннаму, рашаючаму пытанню: быць ці не быць социялізму ў нашай краіне.

«Сутнасць трацкізма заключаецца, перш за ўсё, у адмаўленні магчымасці пабудовы социялізма ў СССР сіламі рабочага класа і сялянства нашай краіны» [1]).

У гэтым адмаўленні ярка выяўляецца буржуазнае, ліквідатарскае, контррэвалюцыйнае нутро трацкізма. Належыць памятаць, што ў жаркіх баях супроць трацкізма, праведзеных партыяй пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, вырашалася пытанне жыцця і смерці нашай рэвалюцыі, нашай краіны. У гэтых баях вырашаўся лёс не толькі цяперашняга пакалення, але і раду будучых: ці быць ім свабоднымі працаўнікамі социялізма, якія не ведаюць жахаў беспрацоўя, страху перад заўтрашнім днём, якія карыстаюцца вялікімі правамі—на працу, на адпачынак, на асвету—так-жа натуральна, як чалавек дыша паветрам, або быць ім рабамі капітала, усё жыццё якіх саткана з нястач і няволі.

1) І. Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 418.

II

Як вядома, Троцкі ў перадкастрычніцкі перыяд на працягу паўтара дзесятка год змагаўся супроць ленінскай партыі ў якасці занўзятага, злоснага меншавіка. Прадстаўляемая ім рознавіднасць меншавізма была адметна сваім убраннем, сатканым з «левых» фраз і нястрымнай дэмагогіі. «Тушынскім пералётам» называў яго Ленін за безупынныя палітычныя вольты, за кіданні з боку ў бок, «Іудушкай»—за гнуснае хамелеонства і палітычную двудушнасць. І не выпадкова сваё вучэнне аб перамозе соцыялізма ў адной краіне Ленін у час вайны, на парозе рэволюцыі, сфармуляваў найбольш рэзка і выпукла ў работах, сваім астрыём накіраваных супроць трацкізма, як рознавіднасці каўцкіянства.

Геніяльны ленінскі аналіз імперыялізма, пацвярджаемы ўсім далейшым раззіццём сучасных буржуазных краін, ад першага да апошняга радка прысвечан абгрунтаванню магчымасці пабудовы і перамогі соцыялізма ў адной краіне.

Калі Троцкі ў 1915 г. вынайшаў лозунг «Злучаных Штатаў Еўропы», прабуючы эксплаатаваць у сваю карысць нянавісць мас да вайны і палкае жаданне міру, ленінскае зоркае вока адразу ўбачыла тут філасофію апартунізма. Ленін выступіў супроць гэтага лозунга, указваючы, што «ён мог-бы парадзіць няправільнае талкаванне аб немагчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне і аб адносінах такой краіны да астатніх» [2]). Але спасыланне на немагчымасць перамогі соцыялізма ў адной краіне—улюбёны прыём каўцкіянцаў усіх краін, прыкрываючых фігавым лістком «інтэрнацыяналісцкі» гучачых фраз сваё злачыннае капітулянцтва, адмаўленне ад рэволюцыйнага дзеяння і фактычны пераход на бок буржуазіі. Выкрываючы каўцкіянцкі лозунг Троцкага, Ленін піша залатыя словы, якія непагасным маяком асвятляюць большэвікам шлях да перамогі рэволюцыі і пабудовы соцыялізма на ўсіх этапах тытанічнай барацьбы:

«Нароўнамернасць эканамічнага і палітычнага развіцця ёсць безумоўны закон капіталізма. Адсюль вынікае, што магчыма перамога соцыялізма першапачаткова ў нямногіх або нават у адной, асобна ўзятай, капіталістычнай краіне» [3]).

І далей яркімі штрыхамі малюецца перспектыва, як «перамогшы пролетарыят гэтай краіны, экспрапрыяваўшы капіталістаў і арганізаваўшы ў сябе соцыялістычную вытворчасць» [4]), стане несакрушальнай базай сусветнага соцыялізма, маяком надзей і спадзяванняў усяго працоўнага чалавецтва.

Гэта грандыёзная перспектыва ажыццявілася з такой вычарпальнай паўнатой і дакладнасцю, як ні адно з прадказанняў вялікіх розумаў, вядомых гісторыі. Геніяльнае прадбачанне Леніна ўвасоблена ў плоць і кроў у нашай краіне, якая ператварылася пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў квітнеючы сад соцыялізма, у несакрушальны аплот міру, у вялікую бацькаўшчыну працоўных.

Што здолеў проціпаставіць Троцкі крыштальна яснай рэволюцыйнай перспектыве Леніна? Нічога, акрамя звычайных сваіх меншавіцкіх сафізмаў накшталт таго, што, моў, «сама гэта нароўнамернасць вельмі нароўнамерна». (Падобнымі—або яшчэ больш жульніцкімі—

2) **В. І. Ленін**. Збор твораў, том XVIII, стар. 232.
3) Там-жа.
4) Там-жа, стар. 232—233.

славеснымі выкрутасамі гэты іезуіт меншавізма і ў далейшым не раз спрабаваў замазаць пытанне, якое патрабуе яснага адказу). Далей, сказаўшы для прыліку, што пачынаць рэволюцыю трэба «не чакаючы іншых», ён поўнасцю выкрывае сябе ў наступнай-жа фразе: «безнадзейна думаць... што, напрыклад, рэволюцыйная Расія магла-б устаяць перад тварам кансерватыўнай Еўропы».

Ітак, ісці ў бой, наперад ведаючы, што «устаяць» немагчыма,— у такой, з дазволу кажучы, перспектыве ўвесь як у люстры гэты філісцёр і дэмагог, поўзаючы перад сусветным капіталізмам, дробнабуржуазны пазёр, вазамніўшы сябе «правадыром рабочага класа».

Таварыш Сталін з першага-ж моманту барацьбы абараняў бок-абок з Леніным рэволюцыйную ўстаноўку на пабудову соцыялізма ў адной краіне. Яшчэ ў перыяд падрыхтоўкі Вялікай пролетарскай рэволюцыі, на VI з'ездзе партыі, ён гаварыў, пярэчачы аднаму з будучых зброеносцаў Троцкага, які выступіў супроць магчымасці перамогі соцыялізма ў нашай краіне: «Не выключана магчымасць, што іменна Расія з'явіцца краінай, пракладваючай шлях да соцыялізма... Трэба адкінуць аджыўшае ўяўленне аб тым, што толькі Еўропа можа паказаць нам шлях. Існуе марксізм дагматычны і марксізм творчы. Я стаю на глебе апошняга»[5]).

Марксізм дагматычны і марксізм творчы... Два светапогляды, больш таго, два светы, паміж якімі—бяздонне.

## III

«Усякі апартуніст адметны прыспасабляемасцю»,—падкрэсліваў Ленін,—«і меншавікі, як апартуністы, прыспасабляюцца, так сказаць, «з прынцыпу» да пануючай сярод рабочых плыні, перафарбоўваюцца ў абарончы колер, як заяц становіцца белым узімку»[6]).

Па частцы прыспасабляемасці Троцкі далёка перавысіў іншых прадстаўнікоў меншавіцкага племені, дзякуючы шматгадовай прывычцы да «левых» фраз і дэмагогіі. У Окцябрскую рэволюцыю Троцкі ішоў, перафарбаваўшы сваю меншавіцкую скуру, але з тым-жа глыбока затоеным нявер'ем у магчымасць пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

З якім багажом прышлі к Окцябру будучыя саратнікі Троцкага— Зіноўеў і Каменеў? Першы з іх меў у нядаўнім мінулым, у 1916 годзе, двурушніцкія перагаворы за спіной Леніна з поўанархісцкай так званай бажыйскай групай (Бухарын і інш.), другі—ганебна трымаў сябе ў час працэсу над большэвіцкай пяцёркай Дзяржаўнай думы ў 1914 годзе, паслаў прывітальную тэлеграму Міхаілу Раманаву пасля лютага. Абодва разам да рэволюцыі 1917 года падышлі з меншавіцкаю меркай, а ў дні Вялікага Окцябра паказалі агіднейшы малюнак здрады сваёй партыі. Ленін прапанаваў выключыць абодвух з партыі за «кляўзную хлусню», за «поўны склад штрэйкбрэхерства», за выдачу ворагу рашэння аб паўстанні. Ён пісаў аб «нязмернай подласці, сапраўдным здрадніцтве» Зіноўева і Каменева.

Ледзь дачакаўшыся кранштацкага мяцежу, Троцкі прарочыць, што «зязюля пракукавала» пагібель савецкай улады. На парозе мірнага будаўніцтва трацкісты кідаюць партыю ў дыскусійную ліха-

[5]) Выступленне таварыша Сталіна на VI з'ездзе партыі. Гл. пратаколы VI з'езда, стар. 233, 234.

[6]) В. І. Ленін. Збор твораў, том XXVII, стар. 13.

манку, але іх атака разбіваецца аб жалезную сцяну партыйнага адзінства. Адразу-ж пасля гэтага паражэння Троцкі зноў у выключна нахабнай форме процістаўляе сваю меншавіцкую пазіцыю лініі ленінскай партыі па карэннаму пытанню рэволюцыі—аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

У радзе сваіх апошніх работ, паслужыўшых свайго роду завяшчаннем для партыі, Ленін усё зноў і зноў падкрэслівае, што мы маем унутры краіны «усё неабходнае для пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства», што ў нашых руках «усё неабходнае і дастатковае для гэтай пабудовы», што «з Расіі нэпаўскай будзе Расія соцыялістычная». Ленін піша заметкі «Аб нашай рэволюцыі», поўныя найглыбейшага гістарычнага сэнсу. Гіганцкімі мазкамі геніяльнейшай рукі накідан шлях, намечаны вехі: як зрабіць жабрацкую краіну багатай, адсталую—перадавой, няграматную—культурнай, немачную—магутнай. І ў прамы адказ на гэта Троцкі, у 1922 г. перадрукоўваючы свае старыя меншавіцкія артыкулы, у прадмове заявіў, што без дапамогі сусветнай рэволюцыі совецкая краіна зможа ў лепшым выпадку «залячыць тыя ці іншыя эканамічныя раны», але ні аб якім стварэнні соцыялістычнага грамадства не можа быць і гутаркі, бо «сапраўдны ўздым соцыялістычнай гаспадаркі ў Расіі стане магчымым толькі пасля перамогі пролетарыята ў важнейшых краінах Еўропы. Той-жа ліквідатарскі песімізм, жалкае меншавіцкае дактрынёрства!

## V

Пераход да гаспадарчага будаўніцтва абрысоўвае гіганцкія труднасці, якія стаяць на шляху к соцыялізму. Глыбіня разрухі—нябачаная, выбірацца трэба самім, напружанне патрабуецца найвялікшае. Гэта акалічнасць—побач з хваробай і смерцю Леніна—служыць сігналам для ўсіх ворагаў партыі, што прытаіліся ў яе радах. Яны рашаюць, што час настаў. Адкрываецца паласа няспыннай барацьбы трацкізма супроць ленінскай партыі і яе кіраўніцтва. Трацкізм выступае, як сіла, яднаючая асколкі ўсіх разгромленых партыяй апазіцый, як акумулятар усіх элементаў дробнабуржуазнай нездаволенасці, як прытулак усіх «пакрыўджаных», як сцяг для ўсіх дробнабуржуазных авантурыстаў і перараджэнцаў, якія зацсаліся ў партыйныя рады і яшчэ не вычышчаны адтуль жалезнаю мятлой чыстак і праверак. Ствараецца, па ўдаламу выражэнню Анры Барбюса, «нешта накшталт трэста ўхілаў». Зіноўеў і Каменеў—ганебныя здраднікі і штрэйкбрэхеры Окцябра—і меншавік Троцкі падаюць адзін аднаму ў абдымкі.

Адной з самых глыбокіх асноў здрадніцтва апартуністаў служыць іх рабскае пракланенне перад буржуазіяй, халопскае захапленне перад капіталізмам, усмоктаная з малаком мацеры пакорлівасць дробнага буржуа перад сілай і магутнасцю буйнага капітала. Аб гэтым не раз гаварыў Ленін. І калі ўвесь ланцуг здрад апартунізма бліскуча пацвярджае гэта палажэнне, то, быць можа, найбольш яркай яго ілюстрацыяй служыць бясслаўная гісторыя трацкізма. У іх (капіталістаў) усё добра, у нас (у СССР) усё дрэнна—вось альфа і амега трацкісцкай «філасофіі». Логіка барацьбы вяла са ступенькі на ступеньку. Ад пераацэнкі нашых труднасцей—да спекуляцыі на іх і, далей, да прамога шкодніцтва. Ад пераацэнкі сіл буржуазіі, ад ачараванасці яе магутнасцю—да самай гнуснай і подлай службы буржуазіі верай і праўдай.

Паўнейшая беспрынцыпнасць была асноўным жыццёвым прынцыпам трацкісцка-зіноўеўскай зграі, бо яна з самага пачатку апасалася выступаць з адкрытым забралам. Адмаўленне магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне—такою была шырокая платформа, на якой аб'ядналіся, рознашэрсныя элементы трацкісцка-зіноўеўскага блоку. Не можа быць, не будзе ў гэтай краіне пабудаван соцыялізм—такі самы затоены сэнс усіх яго выступленняў, усёй яго барацьбы.

Ганебныя метады барацьбы трацкісцка-зіноўеўскага блоку яшчэ жывы ў памяці партыі і ўсёй краіны. Паклёп, хлусня, двурушніцтва, прамое пасобніцтва класаваму ворагу з кожным этапам расцвіталі ўсё больш агідлівым букетам.

Ад парушэння партыйнага статута і партыйных рашэнняў трацкісты перайшлі да парушэння совецкай легальнасці (арганізацыя падпольных друкарань, антысовецкіх дэманстрацый і т. п.), змыкаючыся на гэтай сцежцы з «трэцяй сілай»—з белагвардзейскай агентурай унутранай і замежнай контррэволюцыі. У галіне «ідэйнай» барацьбы яны закідвалі граззю самыя свяшчэнныя прынцыпы ленінізма (варта толькі ўспомніць гнуснае зубаскальства Радэка аб пабудове соцыялізма ў адным павеце). Сапраўдныя перараджэнцы, даўно разгубіўшыя ўсякую веру ў рабочы клас і ў соцыялізм, моташна крычалі аб «перараджэнні» ленінскай партыі, аб «тэрмідоры» і т. д.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна партыя ў доўгай і рашучай барацьбе разграміла трацкізм. У жорсткіх баях з трацкізмам таварыш Сталін распрацаваў ленінскае вучэнне аб пабудове соцыялізма ў нашай краіне, зрабіўшы яго вострым мечам, разячым ворагаў рабочага класа. Шлях к соцыялізму, намечаны Леніным, быў старанна распрацован і пераўтвораны у жыццё жалезнай воляй і энергіяй прадаўжальніка яго справы. Перамога над трацкізмам уліла новыя сілы і веру ў рабочы клас: са шляху быў скінуты ачаг разлажэння і няверʼя, які размагнічваў волю будаўнікоў соцыялізма. Гады барацьбы з трацкізмам, з трацкісцка-зіноўеўскім блокам, затым кароткая, але рашучая барацьба з правым апартунізмам і з «левакамі» расчысцілі шлях слаўным сталінскім пяцігодкам, змяніўшым увесь воблік нашай краіны, зрабіўшым непазнавальнымі яе эканамічную і соцыяльную структуру, яе тэхнічны і культурны твар.

## V

Калі разгром трацкісцка-зіноўеўскай зграі адкрыў дарогу сусветна-гістарычным перамогам соцыялізма, то гэтыя перамогі ў сваю чаргу начарталі смяротны прыгавор трацкізму як палітычнай плыні і ўбілі асінавы кол у яго магілу.

«Вынікі пяцігодкі разбілі тэзіс соцыял-дэмакратаў аб тым, што немагчыма пабудаваць соцыялізм у адной, асобна ўзятай краіне. Вынікі пяцігодкі паказалі, што ўпаўне магчыма пабудаваць у адной краіне соцыялістычнае грамадства, бо эканамічны фундамент такога грамадства пабудован у СССР» [7]).

Гэтыя словы былі сказаны таварышом Сталіным у пачатку 1933 года. У гэтым-жа дакладзе ім было зроблена надзвычай дальнабачнае папярэджанне аб тым, што разам з нашым прасоўваннем к бяскласаваму грамадству будуць прабаваць актывізавацца разбітыя ворагі совецкай улады, у прыватнасці трацкісты, з прычыны чаго

7) І. Сталін. „Пытанні ленінізма", стар. 511.

неаслабнейшая рэволюцыйная пільнасць «з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам» [8]).

Перамога соцыялізма, стаўшая несакрушальным фактам у нашай краіне, канчаткова змяла трацкізм у памыйную яму гісторыі. Для плыні, альфай і амегай якой з'яўляецца адмаўленне магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне, песенька аказалася спетай канчаткова і беззваротна. Крушэнне пацярпелі ўсе надзеі і спадзяванні. Але недарма нямецкая прыказка гаворыць: «мёртвыя крочаць шпарка». Да таго, палітычныя мерцвякі тым адрозніваюцца ад звычайных, што ў іх не аднята магчымасць гадзіць і пакасціць.

Агіднае гніенне смярдзючага, зажыва разлагаючагася трупа трацкізма-зіноўеўшчыны дало аб сабе ведаць здрадніцкім стрэлам у Ленінградзе, унёсшым аднаго з лепшых сыноў нашай партыі—таварыша Кірава. Цяпер аказалася, што пасля гэтага гнуснага злачынства не былі ўскрыты да канца ўсе ніці белагвардзейскай тэрарыстычнай дзейнасці, арганізаванай Троцкім, Зіноўевым і Каменевым і іх падручнымі. Радыкальна ачысціць чэсную совецкую зямлю ад трацкісцка-зіноўеўскай сволачы, якая сваім гніласным дыханнем атручвае чыстае паветра нашай вялікай радзімы,—такая задача.

*„Правда"*

---

8) І. Сталін. „Пытанні ленінізма", стар. 510.

# Шлях трацкістаў і зіноўеўцаў—шлях здрад і прадажніцтваў

I

Дзесяць з паловай год назад на XIV партыйным з'ездзе супроць ленінска-сталінскага ЦК нашай партыі выступіла так званая новая апазіцыя на чале з Зіноўевым і Каменевым. Яна выступіла на капітулянцкай платформе—заяўляла аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Яна патрабавала адмовіцца ад палітыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі, дабіваючыся па сутнасці ператварэння СССР у калонію замежнага капітала.

З'езд рашуча адверг рэнегацкую платформу новай апазіцыі, бо яна па сутнасці азначала здрадніцтва рабочаму класу, здачу пазіцый Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі і совецкай улады. Дый як-жа інакш? Хіба платформа здраднікаў, трусоў і капітулянтаў магла быць прынята з'ездам большэвікоў, вучняў Леніна? Аднак гэта платформа была зусім натуральнай для Зіноўева і Каменева, выступаўшых, ужо раней як штрэйкбрэхеры Окцябрскай рэволюцыі, прапанаваўшых здаць совецкую ўладу меншавікам і эсэрам на другі дзень пасля окцябрскай перамогі, меўшых у сваім мінулым як да Окцябра, так і пасля Окцябра шматлікія факты адступніцтва, здрадніцтва, трусасці.

Што зрабілі Зіноўеў і Каменеў пасля XIV з'езда? Яны ўвайшлі ў блок з меншавіком Троцкім і з меншавіцкай «рабочай апазіцыяй» Шляпнікава і Медзведзева супроць нашай партыі і супроць яе правадыра таварыша Сталіна. Пры дапамозе самага нахабнага ашуканства і дэмагогіі, прыкрываючы левай фразай капітулянцкае, наскрозь меншавіцкае нутро сваёй платформы, трацкісцка-зіноўеўскі блок прабаваў павесці за сабой радавых членаў нашай партыі. Ашукаць партыю, прыйсці шляхам ашуканства к кіраўніцтву, каб здаць пазіцыі Окцябрскай рэволюцыі яе злейшым ворагам унутры краіны і на міжнароднай арэне—такой была сапраўдная мэта меншавіка Троцкага і штрэйкбрэхераў Окцябра Каменева і Зіноўева. Гэта не ўдалося ім. Ніхто не пашоў за трацкісцка-зіноўеўскім блокам, акрамя кучкі перарадзіўшыхся і разлажыўшыхся бюракратаў, страціўшых усякую сувязь з масай, кучкі азлобленых мяшчан, нічога агульнага не меўшых з рабочым класам.

Партыя пайшла сваёй прамой дарогай, адшвырнуўшы прэч здраднікаў і трусоў. У канцы 1927 года зіноўеўцы і трацкісты, якія дакаціліся ўжо тады да саюза з прамымі белагвардзейцамі, да наладжвання антысовецкіх вулічных дэманстрацый, былі выкінуты з большэвіцкай партыі.

## II

Партыя адвергла рэнегацкую, меншавіцкую праграму зіноўеўцаў і трацкістаў. Партыя выкінула іх са свайго асяроддзя. Ну што-ж! Яны парашылі змяніць метады барацьбы. Вярнуцца ашуканчым шляхам у партыю і весці падрыўную, разлагаючую работу знутры, чакаць спрыяючага моманту для адкрытага выступлення. Авось труднасці дапамогуць! Кулак, шкоднік, белагвардзеец, а быць можа знешняя вайна—вось былі іх козыры. Іменна ў разліку на гэтыя козыры ядро зіноўеўскай апазіцыі (Зіноўеў, Каменеў, Еўдакімаў, Бакаеў, Куклін і інш.) і значная частка трацкістаў (Смірноў І. Н., Мрачкоўскі, Тэр-Ваганян і многія іншыя) пашлі двурушніцкім шляхам... Прызнаць на паперы свае памылкі, прызнаць на паперы правату партыі, дабіцца звароту ў яе рады і пад прыкрыццём партыйнага білета ўзрываць партыю знутры.

Адзін час, у 1930—31 гадах, некаторым даверлівым людзям у нашай партыі пачало ўжо здавацца, што барацьба з трацкістамі і зіноўеўцамі—пройдзены этап у жыцці партыі, учарайшы дзень, які мае значэнне толькі для гісторыкаў... Рэзультатам такога настрою з'явілася велізарнае аслабленне большэвіцкай пільнасці на вельмі многіх участках нашага ідэалагічнага фронту, дазволіўшае трацкісцкім і зіноўеўскім двурушнікам у вельмі шырокіх размерах працягваць контррэволюцыйную кантрабанду ў нашых журналах і кнігах. Бо справа-ж дайшла да таго, што ў органах Гістпарта і ў іншых не менш адказных выданнях гэта трацкісцкая кантрабанда стала ледзь не штодзеннаю з'явай.

Патрабавалася ўмяшанне правадыра нашай партыі таварыша Сталіна, патрабавалася яго гістарычнае пісьмо ў рэдакцыю журнала «Пролетарская революция», каб прывесці ў прытомнасць некаторых празмерна даверлівых і благадушных людзей, каб давесці да іх свядомасці, што трацкізм з'яўляецца авангардам контррэволюцыйнай буржуазіі, што гнілы лібералізм у адносінах трацкізма з'яўляецца злачынствам і прадажніцтвам, каб паказаць усёй партыі новыя формы барацьбы ворага.

Цяпер ужо ўсім ясна, якое велізарнае значэнне мела выступленне таварыша Сталіна ўвосень 1931 года, наколькі яно дапамагло партыі ў барацьбе са злейшымі і падлейшымі ворагамі, з ядавітымі мерзкімі змеямі, залезшымі ў яе рады. Многія з ворагаў, якія асабліва абнаглелі, паклалі, што называецца, ногі на стол, былі тады злоўлены з палічным і страцілі свае партыйныя білеты.

## III

Што было характэрным у той перыяд для Зіноўева і Каменева, іх бліжэйшых аднадумцаў і вельмі значнай групы трацкістаў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю? Яны імкнуцца пранікнуць на найбольш важныя ўчасткі ідэалагічнага фронту—у рэдакцыі газет, журналаў, у інстытуты, у навучальныя ўстановы. Для Зіноўева асабліва характэрна імкненне як можна часцей пісаць і выступаць. Расстаўляюцца сілы, аднаўляюцца старыя сувязі, завязваюцца новыя.

Звычайным відам кантрабанды, акрамя працягвання трацкісцкіх поглядаў на міжнародную ролю большэвізма, на перарастанне рэволюцыі і т. д., з'яўлялася ўсялякая папулярызацыя ролі Троцкага, Зі-

ноўева, Каменева ў мінулым і ў той-жа час усялякае змяншэнне ролі Леніна і Сталіна.

Пасля пісьма таварыша Сталіна ў рэдакцыю журнала «Пролетарская революция» гэта рабілася больш асцярожна, але ўсё-ж рабілася часамі (даволі ўспомніць спробу Зіноўева ўжо ў жніўні 1934 года даказаць, што Ленін быццам-бы нічога не дадаў да поглядаў Маркса і Энгельса на вайну).

Ні на адну мінуту за кулісамі не спынялася арганізацыя сіл супроць партыі. Браліся на ўлік усемагчымыя саюзнікі. Праз некалькі месяцаў пасля XV з'езда, яшчэ не будучы адноўленым у партыі, Каменеў ужо пачынаў перагаворы з правадырамі толькі што афармляючайся правай апазіцыі ў асобе Бухарына. Зносіны з трацкістамі не спыняліся ні на адзін дзень, не гледзячы на фармальны разрыў, не спыняліся сувязі і з двурушніцкай лявацкай групай Шацкіна—Ламінадзе—Стэна—адной з самых падлейшых рознавіднасцей агентуры Троцкага ў партыі.

Усё падрыхтоўвалася для будучага выступлення супроць партыі. Калі адбудзецца гэта выступленне? Подлы вораг будаваў усе свае разлікі на паражэнні партыі, на паражэнні соцыялістычнай краіны. У 1930, 1931, 1932 гадах—асноўная надзея на правал калектывізацыі. Авось кулак прымусіць адступіць партыю! Авось калгасы і соўгасы разваляцца! Авось харчовыя затрудненні паралізуюць выкананне праграмы першай пяцігодкі, сарвуць будаўніцтва новых заводаў! Авось совецкі рубель узарвецца! Авось кастлявая рука голаду, аб якой марыў у 1917 годзе заводчык Рабушынскі, возьме за горла рабочы клас! Авось нападзе знешні вораг і нанясе паражэнне нашай арміі! Вось аб чым мараць зіноўеўцы і трацкісты.

Стаўка на крах калектывізацыі асабліва цесна зблізае групу Зіноўева і Каменева з правымі двурушнікамі тыпу Руціна і слепкоўскай школкі і з права-лявацкімі ўродамі тыпу Ламінадзе—Стэна. Зіноўеў і Каменеў, выкрытыя ў новых антыпартыйных сувязях, у 1932 годзе зноў выключаюцца з партыі.

А між тым уся дарэмнасць надзей на крах палітыкі калектывізацыі і індустрыялізацыі становіцца зусім відавочнай нават ворагам.

Краіна ідзе ўперад пад кіраўніцтвам сталінскага Цэнтральнага Камітэта. Набліжаецца к канцу выкананне праграмы першай пяцігодкі. Няма сіл, якія маглі-б перашкодзіць гэтаму ні ўнутры, ні звонку краіны...

## IV

Што застаецца рабіць подлым ворагам партыі, у якіх сарвалася стаўка на кулака і шкодніка? Яны знаходзяць новы выхад: становяцца на шлях арганізацыі тэрору.

У групы Руціна—Слепкова ў 1932 годзе яшчэ была платформа. Яна заключалася ў тым, каб распусціць калгасы і соўгасы, а гіганты індустрыялізацыі раздаць у канцэсію замежным капіталістам. У краіне тады яшчэ нехапала хлеба. Рад абласцей дрэнна ажыццяўляў калектывізацыю. Існавалі карткі на асноўныя прадукты. Але нават у той абстаноўцы які рабочы і калгаснік мог пайсці за гэтай контррэволюцыйнай праграмай, якую Стэн узгадняў з Зіноўевым?

Прайшоў 1933 год. Рад важнейшых краёў, абласцей і рэспублік нашага Саюза перамог у асноўным адставанне сельскай гаспадаркі.

Прайшоў 1934 год. Калгасы не толькі ўмацаваліся палітычна і арганізацыйна, яны ахапілі пераважную большасць сялянства. Адбылася адмена картак. Прамысловасць зрабіла каласальны скачок уперад. Мы падыйшлі ўшчыльную да стаханаўскага 1935 года.

І вось у самы разгар гэтых бліскучых поспехаў партыі здрадніцкім стрэлам у затылак каля свайго габінета ў абкоме быў забіт незабыўны правадыр ленінградскіх большэвікоў Сергей Міронавіч Кіраў.

Вельмі хутка следства ўстанавіла, што яго забілі зіноўеўцы. Вельмі хутка следства дабралося да маскоўскага зіноўеўскага цэнтра, які меў сувязі з забойцамі. Зіноўеў і Каменеў былі арыштаваны і асуджаны совецкім судом як натхніцелі мерзкага злачынства. Але ніці гнуснага забойства не былі да канца раскрыты. Яны ўскрыліся толькі цяпер.

Аказваецца, ужо ў 1932 годзе зіноўеўцы і трацкісты дагаварыліся паміж сабой аб арганізацыі тэрору супроць правадыроў нашай партыі. Ніякай платформы у іх не было, каб проціпаставіць яе партыі, акрамя руцінска-слепкоўскай платформы капіталістычнай рэстаўрацыі. Але хіба можна было выступіць перад масамі, перад партыяй з такою «праграмай»?

Каб правесці яе ў жыццё, Зіноўеў і Каменеў далі прамую дырэктыву сваім прыбліжаным арганізаваць забойства тав. Кірава і іншых кіраўнікоў нашай партыі, перш за ўсё таварыша Сталіна.

Чым хутчэй і з большым поспехам ішла наша краіна к соцыялізму, чым вышэй узнімаўся добрабыт мас, тым выразней разумелі трацкісцкія і зіноўеўскія вырадкі, што няма ў іх іншай зброі супроць партыі, акрамя подлага тэрору з-за вугла, акрамя палітычнага бандытызма.

Ахопленая энтузіязмам вялікай соцыялістычнай будоўлі армія рабочых і калгаснікаў пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам яе вялікага правадыра, любімага друга ўсіх працоўных таварыша Сталіна атрымлівала перамогу за перамогай, рабіла цуды, якія ўзбуджалі здзіўленне нават нашых ворагаў ў капіталістычным свеце.

І ў гэты самы час аб'яднаны цэнтр трацкісцка-зіноўеўскага блока: Зіноўеў, Каменеў, Еўдакімаў, Бакаеў, Смірноў, Мрачкоўскі, Тэр-Ваганян і інш., рукамі такіх-жа, як яны самі, подлых здраднікаў, па дырэктыве самога Троцкага, рабіў сваю справу, рыхтаваў забойства з-за вугла лепшых людзей нашай партыі і нашай краіны.

Зараз ужо дакладна ўстаноўлена, што Зіноўеў і Каменеў асабіста настойвалі на тым, каб тэрарыстычныя групы, якія сачылі за С. М. Кіравым, як можна хутчэй давялі да канца сваю подлую справу.

А калі ўзрушыўшае ўсю краіну забойства адбылося, Зіноўеў паспрабаваў, хоць і без поспеху, апублікаваць у «Правде» артыкул, у якім ён выказваў сваё абурэнне, прабаваў сваім іудзіным пацалункам скрыць сляды злачынства.

Подласць двурушніцтва тут перавысіла ўсё вядомае з гісторыі. Адной рукой падрыхтоўваць забойства правадыроў партыі. Другой рукой пісаць артыкулы, у якіх замятаць сляды. Адным і тымі-ж вуснамі даваць дырэктывы аб тэроры і гаварыць пакаянныя прамовы. У самы разгар сваёй подлай работы па арганізацыі забойства лепшых большэвікоў нашай краіны Зіноўеў і Каменеў выступілі на XVII з'ездзе партыі з прамовамі, у якіх распіналіся за генеральную лінію партыі, яшчэ і яшчэ раз адракаліся ад трацкізма.

## V

У аснове сістэмы гэтых здраднікаў ляжаў халодны, прадуманы разлік: пазбавіць партыю яе любімых правадыроў. І к гэтаму часу ілжывымі выступленнямі замесці сляды настолькі, каб у крытычны момант партыя звярнулася да забойцаў. З такой халоднаю развагай разлічвалі гэтыя мерзкія людзі, страціўшыя ўсякую ідэйнасць, людзі, у якіх нічога няма, акрамя голага кар'ерызма і зверскай нянавісці да нашай краіны, да яе лепшых людзей, да соцыялізма, які пабудаван наперакор ім.

Супроць гэтай краіны, супроць пабудаванага ў ёй соцыялізма яны гатовы ісці і ідуць з кім угодна—з белагвардзейцамі, з нямецкімі фашыстамі, з фашыстамі любой краіны, усё роўна. Трацкісты ва Францыі—праціўнікі народнага фронта, якія граюць на руку фашыстам. Трацкісты ў Германіі—агенты Гітлера. Трацкісты ў Польшчы—агенты польскай ахранкі. На Украіне яшчэ ў 1934 годзе было ўскрыта супрацоўніцтва трацкістаў з украінскімі фашыстамі. Гэта супрацоўніцтва ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам такіх вядомых трацкістаў, як Кацюбінскі, Наумаў, Рапапорт. Мэтай яго з'яўляўся адрыў Украіны ад Совецкага Саюза. Асноўны разлік быў на нямецка-польскую інтэрвенцыю. Блок здраднікаў і ворагаў народу рабіў стаўкі на ўскладненне міжнародных адносін, на вайну. Адсюль цесная, інтымная сувязь з нямецкай шпіёнскай арганізацыяй («Гестапо»).

## VI

Якія-ж вывады прыходзіцца цяпер зрабіць? Трацкісты і зіноўеўцы—самыя подлыя ворагі нашай радзімы. Але ў гэтых ворагаў даўно ўжо вырвана ўсякая глеба з-пад ног. Хто можа далучыцца да трацкісцка-зіноўеўскай тэорыі аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне? Хто рызыкне даказваць рабочым і калгаснікам нашай краіны, што трацкісцка-зіноўеўскі блок быў праў у сваёй барацьбе супроць партыі?

Хто пойдзе за мізэрнай, нікчэмнай, нязначнай кучкай здраднікаў, тэрарыстаў, подлых ворагаў народу?!

Трацкісты і зіноўеўцы могуць існаваць, могуць весці сваю іудзіну работу толькі шляхам ашуканства, прыкідваючыся прыяцелямі партыі, жанглюючы партыйным білетам. Страціўшы даўно ўжо ўсякую надзею павесці за сабой масу, яны адмовіліся фактычна ад работы сярод мас. Іх таму стала трудней выявіць.

Трацкісты глыбей маскуюцца, каб ніхто іх не змог злавіць. Каб збіць з толку даверлівых людзей, яны крычаць аб адданасці генеральнай лініі партыі. Шляхам беспардоннай ліслівасці, угодніцтва яны купляюць давер'е паасобных мясцовых партыйных кіраўнікоў, а часамі атрымліваюць нават адказныя пасады ў апараце.

Трэба прама сказаць: калі рэшткі гэтых самых подлых, гнусных і паскудных ворагаў нашай краіны яшчэ не вылаўлены канчаткова, калі іх яшчэ выяўляюць там-сям нават пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў,—гэта даказвае, што далёка не ўсе нашы партыйныя кіраўнікі праяўляюць неабходную пільнасць. Большэвік павінен умець распазнаць ворага партыі, як-бы добра ён ні быў замаскаваны. Ніякі вораг не ўтрымаецца ў нашай партыі, а тым больш у партый-

ным апараце, калі партыйныя кіраўнікі будуць ведаць сваіх людзей, штодзенна кіраваць імі і кантраляваць іх работу.

З трацкісцка-зіноўеўскім адроддзем, з самымі гнуснымі, агіднымі ворагамі нашай краіны, з патэнтаванымі ашуканцамі, з прафесіянальнымі арганізатарамі забойстваў з-за вугла, з фашысцка-белагвардзейскімі вырадкамі, страціўшымі ўсякі чалавечы вобраз, трэба пакончыць беспаваротна, не даваць ім больш атручваць наша здаровае савецкае паветра. Раздушыць гадзіну!

*„Праўда"*

——— ———

# Двурушнікі-забойцы

Нішто так не варожа партыі большэвікоў і працоўным масам, як двурушніцтва. Яснасць, гістарычная правата маршрутаў, указаных партыі і ўсяму працоўнаму чалавецтву геніямі Леніна і Сталіна, заўсёды азначалі і азначаюць найвышэйшую прынцыповасць, крыштальную чэснасць і прамату пролетарскага рэволюцыянера. Недарма ў апошніх радках Комуністычнага Маніфеста асновапаложнікі рэволюцыйнага комунізма Маркс і Энгельс начарталі гучачыя вялікай сілай правату і смеласці словы:

«Комуністы лічаць залішнім скрываць свае погляды і намеры».

Толькі гістарычна асуджаныя класы і іх агенты выкарыстоўваюць у сваёй подлай барацьбе супроць працоўных гнусную зброю ашуканства, двудушнасці, няшчырасці, падвойнай ігры, агіднае двурушніцтва.

Двурушніцтва—самы подлы і агідны метад антыпартыйнай барацьбы—не раз выкарыстоўвалася рознымі апазіцыямі і групкамі, выступаўшымі супроць партыі Леніна—Сталіна. Сіла партыі, яе аўтарытэт сярод працоўных, гістарычная правата яе генеральнай лініі заўсёды аказваліся настолькі вялікімі, што агентура класавага ворага часта не адважвалася выступаць адкрыта і лічыла за лепшае хаваць свой сапраўдны твар пад маскай знешняй згоды з партыяй.

Але контррэволюцыйная трацкісцка-зіноўеўская група, стаўшая бандай забойц, давяла «майстэрства» двурушніцтва да самых вышэйшых межаў.

Гнусная тактыка двурушніцтва здаўна была роднай для кіраўнікоў гэтай варожай зграі. Двурушніцтва было адметнаю рысай паводзін Троцкага на працягу ўсіх год яго антыпартыйнай дзейнасці. Недарма Ленін закляйміў Троцкага ганебным іменем Іудушкі—літаратурнага тыпу, у якім вялікі рускі пісьменнік Салтыкоў-Шчэдрын абагуліў рысы нязмернай подласці, агіднейшай двудушнасці і ашуканства.

## I

Зіноўеў і Каменеў, знаходзячыся ў радах партыі, не адважваючыся адкрыта выступаць супроць Леніна, часта прыбягалі да двурушніцкай тактыкі. Так, у 1909 г., баючыся заявіць Леніну аб нязгодзе з яго выхадам з рэдакцыі «Социал-демократа», Зіноўеў і Каменеў за яго спіной паведамілі члену ЦК соцыял-дэмакратыі Польшчы і Латвіі Варскаму, які падтрымліваў меншавікоў, што яны не згодны з пазіцыяй Леніна і гатовы пайсці на здзелку з меншавікамі.

У гады імперыялістычнай вайны Зіноўеў цішком, двурушнічаючы, падтрымліваў антыленінскія пазіцыі групы Бухарына, Пятакова,

Е. Бош. Вядома, што гэта двурушніцтва Зіноўева было выкрыта Леніным.

Штрэйкбрэхерства Зіноўева і Каменева ў 1917 годзе было непарыўна звязана з іх двурушніцтвам. «Хаваць свае погляды ад партыі цэлы месяц да прыняцця рашэння і рассылаць асабістую думку пасля рашэння—значыць, быць штрэйкбрэхерам»,—гаварыў Ленін. Іменна ў гэты час Ленін пісаў: тое, што зрабілі Зіноўеў і Каменеў—«бязмерная подласць, сапраўднае здрадніцтва абодвух гэтых асоб» [1].

У перыяд Брэсцкага міру Зіноўеў і Каменеў фармальна галасавалі за Леніна, а па сутнасці займалі капітулянцкія пазіцыі, даказваючы, што Брэсцкі мір з'яўляецца пагубным для рэвалюцыі.

Антыпартыйная трацкісцка-зіноўеўская група пачынае ўсё часцей і часцей выкарыстоўваць у сваіх гнусных мэтах двурушніцтва ў 1925—1927 гг., у той час, калі краіна была на павароце да соцыялістычнай рэканструкцыі. Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і іх пасобнікі ведалі, што ўся партыя ідзе і пойдзе за таварышом Сталіным, пойдзе за тым, хто ў нястомных баях разам з Леніным расціў, будаваў партыю, хто пасля смерці Леніна павёў яе да новых перамог.

Толькі маскуючы свае сапраўдныя намеры, трацкісцка-зіноўеўская група магла разлічваць хаця-б на малейшы поспех. Вядома, што, рыхтуючы антыпартыйнае выступленне на XIV з'ездзе, Зіноўеў напярэдадні з'езду на ленінградскай губернскай партыйнай канферэнцыі, баючыся, што ленінградская арганізацыя зразумее ашуканчую тактыку апазіцыянераў і вышвырне іх, заявіў аб салідарнасці з лініяй Цэнтральнага Камітэта, з лініяй партыі. Гэта двурушніцкая заява была зроблена ў той самы момант, калі зіноўеўскае фракцыйнае кіраўніцтва распаўсюджвала зборнікі антыпартыйных дакументаў, адхіляла людзей, сапраўды стаяўшых за лінію Цэнтральнага Камітэта, самымі гнуснымі спосабамі падбірала дэлегатаў на канферэнцыю і на з'езд.

Пацярпеўшы паражэнне на XIV з'ездзе, трацкісцка-зіноўеўская апазіцыя пасля з'езду ўзмоцнена прадаўжае двурушнічаць, прабуючы замаскаваць свае спробы арганізацыі другой партыі, спробы згуртавання антыпартыйных і антысовецкіх элементаў.

На XV партыйнай канферэнцыі таварыш Сталін ярка паказаў «... неразборлівасць у сродках і беспрынцыпнасць у палітыцы, якія леглі ў аснову існавання блоку трацкістаў і «новай апазіцыі»... [2]).

Ужо тады таварыш Сталін, бязлітасна выкрываючы гнусную падрыўную дзейнасць трацкісцка-зіноўеўскай групы—капітулянцтва і паражэнцтва, ілжывыя даносы Троцкага і Зіноўева на нашу партыю агентам усіх краін, выдачу дзяржаўных тайн СССР буржуазіі, сувязь апазіцыі з контррэволюцыйнымі элементамі з белагвардзейцаў і падрыхтоўку путчу супроць совецкай улады,—закляйміў двурушніцтва трацкісцка-зіноўеўскага блоку.

«Чым вытлумачыць такія паводзіны апазіцыі?—гаварыў таварыш Сталін на XV з'ездзе партыі.—Іх можна вытлумачыць толькі адным: жаданнем ашукаць партыю, усыпіць яе пільнасць, надуць яшчэ раз партыю. У апазіцыі два твары: адзін—фарысейска-ласкавы, другі—меншавіцка-антырэволюцыйны. Яна паказвае партыі свой фарысейска-ласкавы твар, калі партыя нажымае на яе і патрабуе ад яе ад-

---

[1]) **В. І. Ленін.** Творы, т. XXI, стар. 353—355.
[2]) **В. Ленін і І. Сталін.** Зборнік твораў к вывучэнню гісторыі ВКП(б), т. III, стар. 139.

маўлення ад фракцыйнасці, ад палітыкі расколу. Яна паказвае свой меншавіцка-антырэволюцыйны твар, калі яна бярэцца апеляваць да непралетарскіх сіл, калі яна бярэцца апеляваць да вуліцы супроць партыі, супроць совецкай улады... Ці можна цярпець далей гэту двайстасць, гэту двудушнасць? Ясна, што нельга цярпець больш ні адной мінуты» [3]).

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна трацкісцка-зіноўеўская апазіцыя была выкрыта і разгромлена партыяй. Але рэшткі гэтай гнуснай групы не склалі зброі, і іменна пасля разгрому трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі двурушніцтва становіцца асноўным метадам усёй падрыўной «дзейнасці» гэтых злейшых ворагаў совецкага народу.

## II

Сталінскі план наступлення перамог. Сусветна гістарычнае значэнне гэтай перамогі выражана ў найглыбейшых па свайму зместу словах таварыша Сталіна: «Наша рэволюцыя з'яўляецца адзінай, якая не толькі разбіла аковы капіталізма і дала народу свабоду, але паспела яшчэ даць народу матар'яльныя ўмовы для заможнага жыцця. У гэтым сіла і непераможнасць нашай рэволюцыі» [4]).

Для мільёнаў працоўных не толькі ў Совецкім Саюзе, але і ва ўсім свеце бясспрэчна адна ісціна: сталінскай лініі, генію вялікага правадыра народаў працоўныя масы абавязаны гэтымі гіганцкімі перамогамі соцыялізма. Злейшыя ворагі партыі і народу, прэзрэнныя трацкісцка-зіноўеўскія ахвосці не могуць нават і разлічваць на тое, каб выступіць хоць-бы з падабенствам платформы. У іх не засталося нічога, апрача голага жадання прабрацца да ўлады.

Подлыя здраднікі, контррэволюцыйныя трацкісцка-зіноўеўскія бандыты і іх кіраўнікі—Троцкі, Зіноўеў і Каменеў перайшлі да белагвардзейскага тэрору; яны зладзейскі забілі тав. Кірава, яны выношваюць гнусныя тэрарыстычныя планы, скалачваючы шайкі забойц «вкупе и влюбе» з замежнымі разведкамі, з гітлераўскай тайнай паліцыяй—гестапо.

Стаўшы на шлях забойстваў з-за вугла, трацкісцка-зіноўеўскія контррэволюцыянеры давялі агідлівае «майстэрства» двурушніцтва да крайніх межаў. Яны хацелі яшчэ глыбей замаскавацца, усыпіць пільнасць партыі. Ненавідзімыя народам здраднікі, стаўшыя бандытамі, не могуць не двурушнічаць. Яны двурушнічаюць таму, што даўным-даўно сталі палітычнымі банкротамі. Яны двурушнічаюць таму, што асуджаны на тую «ізаляцыю бяссілля», аб якой якраз у адносінах да Каменева і Зіноўева гаварыў Ленін у 1917 годзе. Яны двурушнічаюць таму, што імкнуцца захаваць ад выкрыцця сваё тэрарыстычнае падполле. Яны двурушнічаюць, нарэшце, таму, што цалкам і поўнасцю як у мэтах, так і сродках барацьбы супроць партыі і совецкай улады самкнуліся з фашызмам.

Капіталістычнае акружэнне не з'яўляецца адцягненай формулай. Яно выражае рэальныя адносіны двух светаў: свету загніваючага капіталізма і процістаячага яму маладога свету растучага і мацнеючага соцыялізма.

Чым больш расце індустрыяльная магутнасць Совецкага Саюза,

---

[3]) В. Ленін і І. Сталін. Зб. твораў к вывучэнню гісторыі ВКП(б), т. III, стар. 261.

[4]) І. Сталін. Прамова на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў 17 лістапада 1935 года.

чым вышэй і далей лётаюць совецкія самалёты, чым непрыступней агараждаецца краіна Советаў сталёвай сцяной Чырвонай арміі ад падпальшчыкаў вайны, чым больш згуртавана ідзе па сталінскаму шляху наш народ, гатовы ў любы момант—увесь ад малога да вялікага—па закліку любімага правадыра стаць на абарону соцыялізма,—тым мацней становіцца злоба і нянавісць фашыстаў да Совецкага Саюза. А міжнародны рэзананс нашых перамог, велізарны водгук, агонь, які запальвае ў сэрцах працоўных усяго свету кожны крок совецкай краіны,—сталінская палітыка міру, сталінская Канстытуцыя, рэкорды Чкалава, Байдукова і Белякова, якія ляцелі па сталінскаму маршруту,—узмацняе гэту злобу і нянавісць ворагаў чалавецтва, катаў рабочага класа.

Фашызм рыхтуецца да лабовай атакі супроць Совецкага Саюза. Але, рыхтуючы вайну супроць СССР, нават найменш здольныя фашысцкія кіраўнікі не могуць не бачыць таго, якія труднасці і непрыемнасці абяцае ім малейшая спроба нападу на СССР.

Іменна таму жаданне дабіцца замяшання ў працоўнай сям'і совецкага народу, імкненне нанесці подлы ўдар у спіну, цяпер—больш чым калі-небудзь—становіцца затоенай марай фашызма.

Яшчэ ў 1918 г. Ленін папярэджваў аб тым, што супраціўленне маемасных класаў з'яўляецца супраціўленнем «упартым і здольным набываць... рознастайныя формы»... Сярод гэтых форм Ленін называў... **«подкуп агентаў буржуазіі, якія ўціраюцца ў рады соцыялістаў для таго, каб пагубіць іх справу»...** [5]).

На III Усерасійскім з'ездзе советаў Ленін гаварыў: «Буржуазія пусціць усе сродкі ў ход, будзе іграць ва-банк, каб сакрушыць наша адзінства. Знойдуцца ілгуны, правакатары, здраднікі»... [6]).

Фашызм іграе ва-банк, і ён знаходзіць гатовыя кадры ілгуноў, правакатараў і здраднікаў у асобе трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай банды. Гэтыя вырадкі як нельга больш прыдатны для ролі фашысцкіх наймітаў. Фашызм сустракае ў трацкісцка-зіноўеўскіх бандытаў тую-ж злобную нянавісць да Совецкага Саюза, да партыі Леніна—Сталіна, якая характэрна для самога фашызма.

Фашызм знаходзіць у трацкісцка-зіноўеўскіх тэрарыстаў так жаданую для фашыстаў адсутнасць грэблівасці ў выбары самых агідлівых, самых гнусных сродкаў барацьбы з совецкай уладай. Фашызм, нарэшце, знаходзіць у асобе двурушнікаў трацкістаў-зіноўеўцаў верных лазутчыкаў, умеючых маскавацца.

Індывідуальны белагвардзейскі тэрор, шпіянаж, дыверсіі—усю гэту «школу» трацкісцка-зіноўеўскія бандыты прайшлі пад кіраўніцтвам іх лідэраў—Троцкага, Зіноўева і Каменева за гады антыпартыйнай і антысовецкай барацьбы. Больш таго: «вучні» ва многім перашчыгалялі настаўнікаў. Такі двурушнік, як Азеф, які быў відным кіраўніком эсэраўскай партыі і адначасова верай і праўдай служыў царскай ахранцы,—малое дзіцё ў параўнанні з трацкісцка-зіноўеўскай бандай забойц і іх кіраўнікамі.

Безліч раз Зіноўеў, Каменеў і іх зграя публічна кляліся ў «вернасці» партыі, шальмавалі сябе для таго, каб зноў прадаўжаць контррэволюцыйную «работу». Людзі, кожны раз аплёўваючы свае погляды на словах, а на справе прадаючы замежным ахранкам краіну Со-

[5]) В. І. Ленін. Творы, т. XXII, стар. 193.
[6]) Там-жа, стар. 224.

ветаў, лютыя ворагі партыі, двудушна выступаючыя за лінію партыі для таго, каб зручней—пад прыкрыццём партыйнага білета—накіроўваць з-за вугла рэвальвер у кіраўнікоў партыі і ўрада,—што можа быць паганей, гнусней гэтай гідотнай сволачы?

III

Пасля злачынскага забойства С. М. Кірава, затым у рэзультаце праверкі і абмену партыйных дакументаў партыя выгнала са сваіх радоў, а органы савецкай улады ізалявалі, як злейшых ворагаў народу, нямала двурушнікаў, прыкрываўшых партыйным білетам сваю подлую контррэвалюцыйную дзейнасць. Але далёка яшчэ не ўся нечысць вымецена, далёка яшчэ не ўсе рэшткі трацкісцка-зіноўеўскай групы, якія з'яўляюцца галаўным атрадам контррэвалюцыйнай буржуазіі за межамі СССР, выказвальнікамі яе волі і надзей, выяўлены і выкрыты.

Злейшыя ворагі партыі і рабочага класа, якія аб'ядналіся на платформе індывідуальнага белагвардзейскага тэрору супроць правадыроў партыі і савецкага ўрада, стараюцца яшчэ глыбей укрыцца ад караючай рукі пралетарскай дыктатуры, зрабіўшы двурушніцтва сістэмай узаемаадносін з партыяй і савецкай уладай.

Глыбока варожы большэвізму разважанні аб тым, быццам двурушніцтва прадстаўляе сабой такі від маскіроўкі, якая не паддаецца выкрыццю. Падобныя разважанні накіраваны к таму, каб раззброіць партыю ў барацьбе з двурушнікамі, і граюць на-руку трацкісцка-зіноўеўскім бандытам.

Партыя ведае і памятае, як няўхільна і бязлітасна выкрываў контррэвалюцыйную трацкісцка-зіноўеўскую апазіцыю таварыш Сталін. Якія-б подлыя сродкі паклёпу і ашуканства, маскавання і двурушніцтва ні прабавалі скарыстаць Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і іх зграя ў сваёй барацьбе супроць партыі і савецкай улады, няўмольная, уражаючая сіла сталінскага выкрыцця насцігала здраднікаў на кожным кроку.

З выключнаю сілай гучаць зараз сапраўды прарочыя словы таварыша Сталіна ў дакладзе аб выніках першай пяцігодкі на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) 7 студзеня 1933 года:

«Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці савецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць савецкай улады. Няма такой пакасці і паклёпу, якую-б гэтыя былыя людзі не ўзвялі на савецкую ўладу і вакол якіх не прабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтру і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэвалюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асаблівых афяр.

Вось чаму рэвалюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам» [7]).

[7]) І. Сталін. „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 510.

Глыбокаму маскаванню—двурушніцтву трацкісцка-зіноўеўскай зграі белагвардзейскіх тэрарыстаў—партыя Леніна—Сталіна процістаўляе велізарнейшую бальшэвіцкую пільнасць. Гэта пільнасць аснавана на велізарнай адказнасці перад партыяй, перад народам, на выключнай праўдзівасці і чэснасці ў адносінах да партыі, на найглыбейшай любві і адданасці вялікаму Сталіну. Гэта пільнасць несумяшчальна з малейшым праяўленнем благадушнай даверлівасці, бесклапотнасці, лібералізма.

IV

Двурушнік—здраднік, які перайшоў на бок ворага і носіць лічыну для таго, каб забіваць з-за вугла кіраўнікоў партыі і ўрада. Суровая рука пролетарскай дыктатуры жорстка пакарае двурушнікаў, кіруючыся рэволюцыйным законам, як за самае цяжкае злачынства.

Пачуццём агіды і нянавісці да трацкісцка-зіноўеўскіх фашысцкіх бандытаў прасякнуты кожны працоўны краіны Советаў і за яе межамі. Партыйныя і непартыйныя большэвікі памятаюць словы Леніна: «Мы будзем бязлітасны як да нашых ворагаў, так і ў адносінах да ўсіх хістаючыхся і шкодных элементаў з нашага ўласнага асяроддзя, якія адважацца ўнесці дэзарганізацыю ў нашу цяжкую творчую работу па будаўніцтву новага жыцця працоўнага народу» [8]).

Узнімаючы рэволюцыйную пільнасць, якой заўсёды вучыў і вучыць нас таварыш Сталін, працоўныя СССР выкрыюць да канца і раздушаць, як атрутную гадзіну, трацкісцка-зіноўеўскіх забойц—заклятых ворагаў народу.

*„Праўда“*

---

[8]) В. І. Ленін. Творы, т. XXII, стар. 433.

Уп. Галоўлітбела № П 5012.
Тыраж 8622
337.360 друк. зн. (6 арк.)
Здана ў набор 20/IX-36 г.
Падпісана да друку 5/X-36 г.

*Рэдкалегія* Д. Конік, Г. Рубінштэйн

*Нам. адказнага рэдактара* Г. Стырнэ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1019.

